ДНУ "Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі"

На правах рукапісу
УДК [821.161.3.09 + 821.162.1.09 (092) [Міцкевіч] (043.3)

МІНСКЕВІЧ СЯРГЕЙ ЛЕАНІДАВІЧ

# ПАЭМА АДАМА МІЦКЕВІЧА "ДЗЯДЫ" І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА XIX - ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ

Дысертацыя на атрыманне вучонай ступені
кандыдата філалагічных навук

па спецыяльнасцях 10.01.01 - беларуская літаратура
10.01.03 - літаратура народаў краін замежжа (польская)

Навуковы кіраўнік:
кандыдат філалагічных навук
**Мархель Уладзімір Іосіфавіч**

МІНСК, 2010

# ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

У другой палове XX ст. і напачатку XXI ст. у кантэкст беларускай літаратуры з дапамогай мастацкага перакладу была ўведзена значаная колькасць польскамоўных твораў беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX стст., такія як: паэма "Жыццё Сіраты" (пераклад Р. Барадуліна) і цыкл апавяданняў "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" Я. Баршчэўскага (пераклад М. Хаўстовіча); балады Я. Чачота; балады філарэтаў і філаматаў (пераклад К. Цвіркі); паэма "Апантаны" В. Дуніна-Марцінкевіча (пераклад П. Бітэля); вершы, гутаркі і паэмы У. Сыракомлі, творы В. Каратынскага; вершы і паэмы Янкі Лучыны; вершы і паэмы З. Манькоўскай; вершаваныя творы Янкі Купалы (пераклад У. Мархеля) і інш.

У той жа перыяд былі перакладзены на беларускую мову і выдадзены праграмныя творы Адама Міцкевіча - сусветна вядомага паэта, ураджэнца Беларусі: паэма "Пан Тадэвуш" (пераклады Я. Семяжона і П. Бітэля), таксама былі зроблены перавыданні перакладу гэтай паэмы, выкананага Б. Тарашкевічам; убачылі свет зборнікі вершаваных твораў А. Міцкевіча з абноўленым корпусам беларускіх перакладаў; асобнай кнігай надрукаваныя "Адэскія і Крымскія санеты" (пераклады У. Мархеля, І. Багдановіч), з'явіліся найноўшыя публікацыі "Крымскіх санетаў" (У. Мархель), а таксама выданне тых жа санетаў з расшыфроўкай чарнавіковых запісаў паэта (пераклад С. Мінскевіча), паэма "Конрад Валенрод" (пераклад П. Бітэля, К. Цвіркі), паэмы "Дзяды" (пераклады С. Мінскевіча, К. Цвіркі).

Такім чынам, за апошнюю чвэрць XX і пачатак XXI ст. вялікая частка спадчыны беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі як на беларускай, так і на польскай (а таксама і рускай) мовах, і праграмныя творы А. Міцкевіча сталі даступныя для вывучэння на сучаснай літаратурнай мове ў школьнай і студэнцкай аўдыторыях. Разам з тым выявілася, што літаратурны працэс Беларусі XIX - пачатку XX ст. мае даволі шырокі дыяпазон. Таму ўзнікае неабходнасць для сістэматызацыі і аналізу выяўленых новых фактаў з выкарыстаннем сучасных літаратуразнаўчых методык. Асабліва гэта датычыцца вызначаных заканамернасцей узаемасувязей між творамі беларускіх аўтараў і творчасцю А. Міцкевіча, бо, несумненна, заўважаецца інтэнсіўнае развіццё беларускага літаратурнага працэсу XIX - пачатку XX ст., імпульс якому ў значнай ступені даў рамантызм.

У айчынным літаратуразнаўстве ўвага даследчыкаў да працэсаў, што адбываліся ў грамадска-культурным асяроддзі Беларусі XIX - пачатку XX ст. няўхільнае ўзрастае. Беларуская літаратура таго перыяду перастала ўяўляцца, як "пункцірная лінія" з паасобнымі фенаменальнымі з'явамі - беларускамоўнымі

творамі з рознымі ўзроўнямі пісьменніцкага майстэрства, а, відавочна, утварае сабой комплекс беларуска-польскіх, беларуска-рускіх і беларуска-ўкраінскіх адкрытых сістэм. Усе яны тым ці іншым спосабам карэлявалі паміж сабой. Вылучаюцца такія дыскурсы як "беларуская літаратура і Пушкін", "беларуская літаратура і Шаўчэнка", "беларуская літаратура і Міцкевіч".

Гістарычна абумоўлена, што ў XIX ст. беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне колькасна пераважала. "Мастацкае асваенне ў масіве польскай мовы матэрыялу, успрынятага ў беларускамоўнай стыхіі, - піша У. Мархель,- стварала прэцэдэнт сумяшчальнага суаднясення дзвюх ментальнасцей, дзвюх традыцый і двух кодаў, на аснове чаго ўзнікалі, па сутнасці, дзвюхсістэмныя тэксты..." [106, с. 36]. Аднак, на працягу XIX ст. адбывалася пераарыентацыя і паступовае змяшчэнне дамінанты ад польска-беларускага ідэйна-эстэтычнага базісу, асновай якога на працягу стагоддзя быў рамантызм да ўласна-беларускай платформы, вынікам чаго стала літаратура адраджэння 90-х гадоў XIX - 10-х XX ст., распачаўся новы віток беларускага літаратурнага працэсу.

Гэта адзначаюць у сваіх працах беларускія літаратуразнаўцы І. Багдановіч, А. Брусевіч, А. Верабей, Л. Гаранін, В. Еўмянкоў, У. Мархель, С. Мусіенка, Л. Тарасюк, Г. Тычко, М. Хаўстовіч, Я. Янушкевіч, і інш. "Вехі будучага адраджэння былі замацаваны ў новым рамантычным светаадчуванні і вызваленчай барацьбе, якія вызначалі сабой аблічча XIX стагоддзя, - заўважае І. Багдановіч. - Галоўныя яго фактары - творчасць і грамадская дзейнасць Адама Міцкевіча - яго палымяная паэзія служэння Айчыне..." [6, с. 3]. Менавіта творчасць Адама Міцкевіча, якая запачаткавала рамантызм у Беларусі, выступае краевугольнай для літаратуры краю, яна становіцца ўзорам, мастацкім эталонам, на які раўняюцца беларускія аўтары. "Значэнне ж творчасці Міцкевіча для развіцця беларускай літаратуры асаблівае, - адзначае В. Каваленка. - Сапраўды, пройдуць дзесяцігоддзі, вырасце беларуская літаратура колькасна і якасна, яна здолее адлюстроўваць складаныя праблемы нацыянальнага жыцця народа, а ўсё будзе адчувацца ў ёй прысутнасць шырокага і ўсебаковага ўплыву творчасці Міцкевіча. Напэўна, нават у сучаснай літаратуры, у яе глыбінных ідэйна-стылявых пластах можна знайсці даволі выразную "пробу" міцкевічаўскага творчага вопыту" [бі, с. 73].

У сваю чаргу, сама літаратурная творчасць Міцкевіча падпадае пад паняцце *кантамінацыйнай білінгвальнасці,* уведзенае У. Мархелем ..." [106, с. 33]. Тэксты Міцкевіча насычаныя беларускай лексікай, у чарнавіках паэта можна заўважыць характэрныя для беларуска-польскага білінгвальнага носьбіта адхіленні ад тагачасных нормаў літаратурнай польскай мовы. Міцкевіч ведаў беларускую мову ад нараджэння і ў пэўным асяроддзі карыстаўся ёю. У ідэйна-тэматычным плане большасць твораў Міцкевіча грунтуецца на беларускім

матэрыяле (паэт збіраў і вывучаў беларускі фальклор, сам удзельнічаў у народных беларускіх абрадах, спяваў народныя беларускія песні, цікавіўся гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, ведаў старабеларускія тэксты).

Праекцыя твораў беларускіх аўтараў на творчасць А. Міцкевіча служыць як верыфікацыя ідэйна-мастацкіх каштоўнасцей і свайго кшталту вымярэнне пройдзенага шляху беларускай літаратурай з часоў узнікнення рамантызму ў культурнай прасторы Беларусі.

Супастаўленне твораў беларускай літаратуры XIX - пачатку XX ст. з паэмай "Дзяды" Міцкевіча (прызнаным шэдэўрам сусветнай літаратуры перыяду рамантызму, творам жыцця пісьменніка, суплётам аўтарскіх светапоглядных ідэй) дазваляе выявіць ідэнтыфікацыйныя адметнасці ў фарміраванні рамантызму ў беларускай літаратуры, раскрывае ўзмацненне інтэртэкстуальнага поля, абумоўленага асэнсаваннем творчай спадчыны А. Міцкевіча яго творчымі нашчадкамі, паказвае заканамернасці эстэтычных прэферэнцый на розных этапах развіцця беларускай гуманітарыстыкі.

У сваёй працы мы абапіраемся на канцэпцыю "польскамоўнай плыні ў беларускай літаратуры" (вызначаную паводле літаратуразнаўчых прац А. Міцкевіча, М. Багдановіча, А. Мальдзіса, У. Мархеля, І. Багдановіч, Г. Тычко), разглядаючы гэтае паняцце як вынік дыфузіі польскай і беларускай літаратуры. Безумоўна, важна ведаць, канстатаваць і класіфікаваць чыста беларускія з'явы і элементы, аднак спроба апераваць толькі гэтым матэрыялам прыводзіць да фрагментарнасці, урывачнасці ўсёй карціны развіцця беларускай літаратуры. Без польскамоўнага набытку творчасці вядучых беларускіх пісьменнікаў нашага краю немагчыма ахапіць цэласнасць усяго працэсу фарміравання беларускай культуры. І менавіта паэма "Дзяды" Міцкевіча як сукупнасць літаратурных ідэй першай трэці XIX стагоддзя, уздзеянне якіх адчувалі на сабе пісьменнікі Беларусі, выступае асновай праекцыйнага матэрыялу, на фоне якога высвечваюцца раней не заўважаныя літаратурныя факты.

Выяўленне "дыялагічных узаемадачыненняў паміж тэкстамі і ўнутры тэкстаў" (выказванне М. Бахціна [18, с. 475]) паэмы "Дзяды" і твораў еўрапейскіх пісьменнікаў вядзе да разумення значэння месца паэмы ў кантэксце еўрапейскага рамантызму, а даследаванне інтэртэкстуальных сувязей з "Дзядамі" твораў беларускіх пісьменнікаў дазваляе прасачыць традыцыі паэмы ў беларускай літаратуры. Комплексны параўнальна-супастаўляльны аналіз, які ўпершыню праведзены у нашай працы ў дачыненні да паэмы "Дзяды" і корпусу твораў беларускай літаратуры XIX ст., дазволіў ускрыць узаемасувязь наступных мастацкіх сістэм: "Фальклярызм А. Міцкевіча і творчасць беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст."; "Вобраз Айчыны ў "Дзядах" і ў творах

беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст."; "Тэма паэта і паэзіі ў паэме "Дзяды" і ў творах беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст."

Паняцце *інтэртэкстуальнасць* уключае ў сябе два тыпы сувязей:

1. Сувязь паміж тэкстамі на гістарычна-генетычным узроўні;
2. Сувязь паміж рознымі тэкстамі, дзе "чужое слова" абапіраецца на папярэдні тэкст, напрыклад, фальклорны.

Такім чынам, "прызнаючы універсальнасць паняцця *інтэртэкстуальнасць,* неабходна дапоўніць яго катэгорыямі, якія ўдакладнілі б сам тып падобных сувязей. Яны могуць быць названы "архетыпічнымі" і "інтэкстнымі". Яны не выключаюць адзін аднаго, а нярэдка узаемадзейнічаюць. Разам з тым іх размежаванне спрыяе выразнасці і мэтаскіраванасці літаратуразнаўчага даследавання" [32, с. 160].

Вызначэнне як "архетыпічных", "гістарычна-генетычных" інтэртэкстуальных сувязей твораў беларускіх пісьменнікаў і паэмы "Дзяды", так і "інтэкстных" (цытаты, перайманне, наследаванне, запазычанне, алюзіі, рэмінісцэнцыі і г.д.) - дапаўняе карціну станаўлення і развіцця беларускай літаратуры, прыадкрывае вытокі яе патэнцыялу, якія прывялі да фарміравання і трывалага існавання гэтага культурнага феномена. Гэта дазваляе выявіць у беларуска-еўрапейскім літаратурным узаемадзеянні не вонкавыя супадзенні-адрозненні, а сутнасныя мастацкія з'явы ў літаратуры, і найперш - у беларускай, а разам з тым адкрыць новыя ўзроўні ў фундаментальным асэнсаванні духоўна-культурных працэсаў у Беларусі, іх славянскага і агульна-еўрапейскага кантэксту.

# АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАБОТЫ

**Сувязь працы з буйнымі навуковымі праграмамі і тэмамі**

Дысертацыя звязана з выкананнем планавай навуковай тэмы "Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX - XX стст." (БелІСА №20013366 Паст. Прэзідыума НАНБ ад 5.07.2001 № 95) і планавай тэмы "Еўрапейскі рамантызм і беларуская літаратура XIX-XX стст." (БелІСА №2004589 Паст. Прэзідыума НАНБ ад 18.03.2004 №19.) Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

**Мэта даследавання** - у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый вызначыць і прасачыць эвалюцыю рамантычных традыцый літаратуры Беларусі XIX - пачатку XX ст. у супастаўленні з творчасцю Адама Міцкевіча, выявіць тыпалагічнае падабенства і разыходжанне ў творах беларускіх пісьменнікаў дадзенага перыяду з паэмай "Дзяды".

Пастаўленая мэта прадугледжвае вырашэнне наступных даследчых **задач:**

- вызначыць генезіс і ідэйна-мастацкую аснову драматычнай паэмы "Дзяды" як рамантычнага твора, ахарактарызаваць яго інспіратыўны патэнцыял у кантэксце беларускай літаратуры;
- выявіць тыпалагічныя і інтэртэкстуальныя сувязі твораў пісьменнікаў Беларусі XIX - пачатку XX ст. з паэмай "Дзяды" А. Міцкевіча як на гісторыка-генетычным, так і на інтэкстным узроўнях;
- раскрыць ідэйна-тэматычную сувязь твораў беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст. з паэмай "Дзяды" А. Міцкевіча;
- паказаць у гістарычным аспекце мастацкую спецыфіку інтэрпрэтацыі рамантычных традыцый у беларускай літаратуры XIX - пачатку XX ст.

**Аб'ект** даследавання - паэзія Адама Міцкевіча, яго паэма "Дзяды" з прыярытэтнасцю выяўленага ў ёй беларускага партыкулярнага элементу і нацыянальны літаратурны працэс (XIX - пачатак XX ст.) на этапе вылучэння беларускай літаратуры ў самастойны феномен еўрапейскай культуры, што выяўляецца ў беларускамоўных і польскамоўных тэкстах пісьменнікаў Беларусі адзначанага перыяду (Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, В. Каратынскі, Янка Лучына, З. Манькоўская, Ф. Багушэвч, Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч і інш.).

**Прадмет** даследавання - тыпалагічныя і інтэртэкстуальныя сувязі твораў беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст. і паэмы "Дзяды", а таксама рэцэпцыя і інтэрпрэтацыя ідэйна-мастацкіх дасягненняў Адама Міцкевіча ў творах беларускай літаратуры акрэсленага перыяду.

**Палажэнні, якія выносяцца на абарону**

1. Паэма "Дзяды", якая ўтрымлівае ў сабе беларускія партыкулярныя элементы, з'яўляецца важным фактарам літаратурнага працэсу Беларусі. Гэта выяўляецца ў тыпалагічных і інтэртэкстуальных сувязях з ёй твораў Я. Баршчэўскага, У. Сыракомля В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, З. Манькоўскай, Янкі Купалы і інш.

2. Пісьменнікамі Беларусі XIX - пачатку XX ст. падтрымліваецца пераемнасць літаратурнага засваення фальклору, адпаведнага рамантычнай метадалогіі Адама Міцкевіча, а пры іх звароце да беларускіх народных абрадаў і вераванняў прасочваецца тыпалагічная сувязь з паэмай "Дзяды".

3. У творах беларускіх аўтараў адзначанага перыяду адбываецца пазіцыянаванне вобраза Айчыны (Радзімы) з вобразам Айчыны (Радзімы) Міцкевіча з выразнай яго эвалюцыяй ад гістарычнай Літвы (Вялікага Княства Літоўскага) да Беларусі.

4. Тэма паэта і паэзіі, якая мае ў "Дзядах" асноватворнае значэнне, адлюстроўваецца і развіваецца беларускімі пісьменнікамі XIX - пачатку XX ст. Кампаратывісцкі аналіз раскрывае шматіпастацыйнасць гэтай тэмы: *паэт* - прарок, прыклад для свайго і наступных пакаленняў; *паэт* - збіральнік і захавальнік народнай мудрасці; *паэт* - суразмоўца, настаўнік; *паэт* - люстра душы чалавека, прамоўца яго патаемных дум; *паэт* - абаронца гонару чалавека; *паэт* - выразнік агульнанацыянальных памкненняў і спадзяванняў. Адбываюцца змены мэт і задач *паэзіі* як сацыяльна значнай галіны дзейнасці чалавека ў пэўных гістарычных умовах.

5. Развіццё рамантычных традыцый у літаратуры Беларусі XIX - пачатку XX ст. адлюстроўвае прагрэсіўны характар беларускага рамантызму і сведчыць пра адметнасць нацыянальнай літаратуры ў агульнаеўрапейскім культурным кантэксце.

**Асабісты ўклад прэтэндэнта**

Даследаванне з'яўляецца вынікам самастойнай навуковай працы аўтара з арыгінальнымі палажэннямі і высновамі. Навуковыя артыкулы, у якіх змешчаны яе вынікі, напісаны дысертантам самастойна, за выключэннем аднаго артыкула "Паэма Адама Міцкевіча "Дзяды": праблема адэкватнасці яе беларускага перакладу" (напісаны ў сааўтарстве з Кур'ян І.У.).

**Апрабацыя вынікаў дысертацыі**

Асноўныя палажэнні дысертацыі прайшлі апрабацыю на 10 міжнародных (у тым ліку замежных) і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях: IV Міжнародная навуковая канферэнцыя "Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазанаўства і літаратуразнаўства" (Віцебск, 24-26 красавіка 1997 г.); Міжнародная навуковая канферэнцыя "Мова. Літаратура. Культура"

(Мінск, 22-23 верасня 1998 г.); II Międzynarodowa konferencja naukowa "Słowo. Tekst. Czas." (Шчэцін (Польшча), 24-25 верасня 1998 г.); Рэспубліканская навуковая канферэнцыя "Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры" (Мінск, 25 мая 2001 г.); Навукова-практычная канферэнцыя "Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур" (Мінск, 3—4 кастрычніка 2002 г.); Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 180-годдзю з дня нараджэння польскага і беларускага паэта і этнографа Уладзіслава Сыракомлі (Мінск-Любань, 29-30 верасня 2003 г.); Рэспубліканская навуковая канферэнцыя "Сучасны літаратурны працэс: пісьменнікі і жыццё" (Мінск, 11 мая 2006 г.); Рэспубліканская навуковая канферэнцыя "Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні" (Мінск, 29 верасня 2006 г.); Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Янка Купала і Якуб Колас у сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя" (Мінск, 27-29 верасня 2007 г.); Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у еўрапейскім кантэксце" (Мінск, 5-6 лютага 2008 г.).

**Апублікаванасць вынікаў даследавання**

Вынікі дысертацыі прадстаўлены ў 30 публікацыях, сярод якіх 6 артыкулаў у навуковых часопісах, рэкамендаваных Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй (2,1 аўтарскага аркуша), 4 - у замежных і рэспубліканскіх навуковых зборніках (6,1 аўтарскіх аркуша), 10 - у матэрыялах навуковых канферэнцый (2,2 аўтарскіх аркуша) і 10 артыкулаў у рэспубліканскіх перыядычных выданнях (3,9 аўтарскіх аркуша). Агульны аб'ём апублікаваных матэрыялаў складае 14,3 аўтарскіх аркуша.

**Структура і аб'ём дысертацыі**

Структура дысертацыі адпавядае мэце і задачам даследавання і складаецца з уводзінаў, агульнай характарыстыкі работы, трох раздзелаў (у другім два падраздзелы, у трэцім - тры), заключэння і спіса выкарыстаных крыніц. Асноўны тэкст працы займае 114 старонак, бібліяграфічны спіс уключае 243 крыніцы і складае 19 старонак.

# РАЗДЗЕЛ I

## ПАЭМА А. МІЦКЕВІЧА "ДЗЯДЫ" Ў ДАСЛЕДАВАННЯХ АЙЧЫННАГА І ЗАМЕЖНАГА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Драматычная паэма "Дзяды" Адама Міцкевіча - прызнанае дасягненне польскай і сусветнай літаратуры, твор надзвычай важны для беларускай культуры.

Пасля паспяховага паэтычнага пераўзнаўлення беларускіх паданняў, пра што сведчаць Міцкевічавы балады і рамансы, апублікаваныя ў I томе "Паэзіі" (Вільня, 1822), "Дзяды" сталі наступным крокам засваення беларускага фальклору і беларускіх вераванняў. Паэтычны дар Міцкевіча дазволіў яму адчуць у вуснай народнай творчасці і таямнічых абрадах не толькі экзатычную прывабнасць для літаратуры, здольную абудзіць цікавасць публікі, але і ўлавіць сустрэчны рух - уздзеянне народнай свядомасці на жыццё чалавека ў грамадскай супольнасці. Універсальнасць маральна-этычных прынцыпаў, "запазычаных" паэтам у беларускіх Дзядах, дазволіла пераасэнсаваць факты ўласнага жыцця і гістарычныя падзеі Беларусі, Літвы і Польшчы і ўвесці іх у агульнагуманітарны кантэкст як узоры моцы і ўзвышэння чалавечага духу.

Большасць герояў паэмы мае рэальных прататыпаў - сучаснікаў аўтара, многія з якіх - ураджэнцы Беларусі. Сярод іх важнае месца займаюць сябры Міцкевіча - філаматы і філарэты. Усе яны выступаюць у паэме пад сапраўднымі імёнамі ці сяброўскімі мянушкамі. Польская мова, якой напісана паэма, насычана беларускімі лексічнымі і сінтаксічнымі элементамі. Міцкевіч, перавыдаючы ў 1829 г. у Пецярбургу другі том "Паэзіі", уключыў у выданне палемічны артыкул "Пра крытыкаў і рэцэнзентаў варшаўскіх", дзе выказаў свае перакананні: "Прызнаюся, што не толькі не засцерагаюся правінцыялізмаў, але наўмысна іх ужываю" [209, с. 256]. Тым самым ён набліжаў тэкст твораў, напісаных паводле фальклорных крыніц, да "арыгінальнага", вуснага гучання, чым, відавочна, стымуляваў цікавасць да беларускага слова і падрыхтоўваў зварот інтэлігенцыі краю да беларускай мовы. Гэта дае падставы разглядаць паэму Міцкевіча як адзін з трывалых падмуркаў для развіцця ідэі беларускага адраджэння і новай беларускай літаратуры.

Паэма, відавочна, зрабілася прыкладам для пісьменнікаў Беларусі XIX - пачатку XX стагоддзя. Выяўляюцца тыпалагічныя паралелі паміж паэмай "Дзяды" і некаторымі творамі Яна Баршчэўскага, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Зоф'і Манькоўскай, Янкі Купалы і інш.

Творчасць Міцкевіча ўплывала на фарміраванне светапогляду як паўстанцаў 1830-31 і 1863-64 гг. (напрыклад, паэзія Міцкевіча захапляла Кастуся Каліноўскага), так і адраджэнцаў пачатку XX ст.

Разам з тым, паэму "Дзяды" немагчыма разглядаць па-за кантэкстам еўрапейскай літаратуры. У тэксце твора ёсць алюзіі на факты антычнай гісторыі, сюжэтаў і вобразаў міфалогіі, Бібліі, паэм "Іліяда" і "Адысея" Гамера, "Паслання да Пізонаў" Гарацыя, "Вызваленага Ерусаліма" Т. Таса, "Боскай камедыі" А. Дантэ, папулярных ў свой час раманаў "Валерыя" Ю. дэ Крудэнэр, "Рабінзон Круза" Д. Дэфо, баек А. Гарэцкага, а таксама цытуюцца вершы Ё. В. Гётэ, Ф. Шылера, К. Рэйцэнтштэйна, І. Красіцкага, В. Рубана, ёсць палемічныя радкі ў адрас К. Козьмяна, С. Дмахоўскага, А. Пушкіна, В. Жукоўскага, згадваюцца Ю.-У. Нямцэвіч, І. Лялевель, П.-Ж. Беранжэ, Вальтэр, Дж. Г. Байран, К. Рылееў, А. Бястужаў і інш.; узяты эпіграфы да асобных частак паэмы з В. Шэкспіра і Ж.-П. Ф. Рыхтэра.

Паэма "Дзяды" паводле формы і ідэйнага насычэння займае адно з цэнтральных месцаў у еўрапейскай рамантычнай літаратуры XIX ст. Аднак "Дзяды" - гэта не проста выдатная рамантычная варыяцыя, што грунтуецца на польска-літоўска-беларускіх рэаліях, гэта развіццё і апагей ідэй рамантызму. Жорж Санд супастаўляла "Дзяды" з гётэўскім "Фаўстам" і байранаўскім "Манфрэдам" і, гаворачы пра спалучэнне свету метафізічнага і рэальнага, адзначала: "Прапорцыя Міцкевіча мне здаецца найлепшай. Ён не з'ядноўвае ідэю з каркасам, як Гётэ ў "Фаўсце", не аддзяляе каркас ад ідэі, як Байран у "Манфрэдзе". Рэальнае жыццё ў яго - сама па сабе карціна, якая ўражвае, бянтэжыць, палохае, а ідэя ў цэнтры. Свет фантастычны не па-за, не зверху і не знізу, ён у глыбіні ўсяго, рухаецца ў ім, душа ўсялякай рэальнасці ажывае ва ўсіх фактах рэчаіснасці. Кожная дзейная асоба, кожная рэч, нясе яго ў сабе і выяўляе на свой манер..." [175, с. 103]. В. Бялінскі таксама ставіць "Дзяды" Міцкевіча ў адзін шэраг з перадавымі творамі свайго часу, калі разважае наконт паэзіі рэальнай і ідэальнай: "Гэта навейшая паэзія бярэ свой пачатак ад старажытнай, бо ў яе пазычыла яна высакародства, велічнасць і паэтычную, узвышаную мову, настолькі супрацьлеглую звычайнай, размоўнай... Каб не гаварыць шмат, скажу, што да твораў такога роду належаць, напрыклад "Фаўст" Гётэ, "Манфрэд" Байрана, "Дзяды" Міцкевіча, "Лала-Рук" Томаса Мура, "Фантастычныя бачанні" Жан-Поля..." [21, с. 109].

Паводле ўспамінаў А.-Э. Адынца, сябра і спадарожніка А. Міцкевіча па еўрапейскіх вандраваннях, паэт сам ахарактарызаваў цэнтральную сцэну паэмы -"Вялікую імправізацыю" як "кульмінацыю байранаўскага кірунку паэзіі" [118, с. 437].

Нягледзячы на тое, што паэма "Дзяды" засталася недапісанай і публікавалася асобнымі часткамі, яна прыцягвала да сябе вялікую ўвагу грамадскасці розных еўрапейскіх краін. Джузэпэ Мадзіні, італьянскі рэвалюцыянер-дэмакрат, заснавальнік газеты *"L'Italia del Popolo" ("Італія Народа"),* пра Вялікую імправізацыю пісаў наступнае: "Для нас Міцкевіч больш чым паэт, яго голас - гэта голас мільёнаў. Мы не ведаем нічога больш тытанічнага па думцы і адначасова нічога больш паэтычнага па выяўленні, чым маналог Конрада ў турме" [76, с. 37].

І нават на тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе III частка паэмы была забаронена для друку і распаўсюджвання, яна, тым не менш, была добра вядомая чытацкай публіцы.

Яшчэ пры жыцці Міцкевіча паэма "Дзяды" перакладалася на французскую і англійскую мовы, былі зроблены таксама пераклады на рускую мову II і IV частак (адпаведна М. Врончанкі [86] і В. фон Роткірха [118 с. 476]). У 1855 г., у зборніку "Падпольная руская літаратура" (Лондан, 1855) М. Агароў змясціў ананімны пераклад верша "Do Przyjaciół Moskali" - заключнага ў паэме "Дзяды". Пад уражаннем "Урыўка" А. Пушкін стварыў знакамітую паэму "Медны коннік". Як своеасаблівую рэпліку на Ш частку "Дзядоў" Ю. Славацкі напісаў драматычную паэму "Кардыян".

"Дзяды" перакладзены на дзесяць еўрапейскіх моў.

Усё гэта сведчыць пра вялікі публічны рэзананс, які выклікала паэма "Дзяды" ў сучаснікаў Міцкевіча і ў іх нашчадкаў.

Паэме прысвечаны велізарны масіў даследчай літаратуры. Значнае месца, безумоўна, займае ў ім польскае міцкевічазнаўства. Фактычна ніводны польскі даследчык рамантызму не мог абмінуць увагай гэты твор Міцкевіча. Узгадаем некаторыя выданні канца мінулага - пачатка XXI стагоддзя: "Рамантызм" З. Ліберы, С. Макоўскага і Е. Саўрымовіча [202], "Рамантызм" А. Віткоўскай і Р. Пшыбыльскага [242], "Рамантызм і экзістэнцыя" М. Яніан і М. Жмігродскай [191]. Слова пра "Дзяды" гучыць і ў даследаваннях непасрэдна творчасці Міцкевіча - працы польскіх літаратуразнаўцаў В. Вайнтраўба, М. Дэрналовіч, К. Кастэніч, З. Кемпіньскага, Г. Крукоўскай, З. Макавецкай, Л. Падгорскага-Аколава, М. Півіньскай, С. Піганя, З. Стэфаноўскай і інш.

Цікавіла творчасць Міцкевіча і яго "Дзяды" і еўрапейскіх даследчыкаў літаратуры, напрыклад: Ж. Тамасучы (Італія) [239], А. Пірачкінаса (Літва) [221], Бёлчава Б. (Балгарыя) [179].

У польскім міцкевічазнаўстве існуюць манаграфіі, прысвечаныя толькі паэме "Дзяды" ці асобным яе часткам. Можна прасачыць паступовае паглыбленне даследчыкаў ад збору тэксталагічнай фактаграфіі іназіранняў над гісторыяй напісання паэмы (у чым неацэнная заслуга міцкевічазнаўцаў

Ю. Клейнера, Г. Масціцкага, Я. Мацяеўскага, С. Пiганя, С. Свіркі, і інш.) - у вобразна-мастацкую тканіну твора і яго кантэкстуальнае поле - В. Кубацкі ("Архідрама Міцкевіча. Даследаванні III часткі "Дзядоў" [199]), Р. Пшыбыльскі ("Слова і маўчанне героя палякаў. Даследаванне "Дзядоў" [226]), М. Цесьля-Карытоўска ("Дзяды" Адама Міцкевіча" [181]). Апошняя манаграфія падагульняе назапашаны навукова-аналітычны матэрыял перад 200-годдзем з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У працы Цесьлі-Карытоўскай падаюцца ўсе навукова абгрунтаваныя версіі вырашэння праблем па гісторыі напісання паэмы (час узнікнення задумы і тэкстаў), формы твора (розная трактоўка парадку частак паэмы), загадкавых слоўных формул і імёнаў (напрыклад, што значыць імя будучага выратавальніка Польшчы - "сорак і чатыры"). Ускрываецца двухпланавасць паэмы - яе балансаванне на мяжы свету рэальнага і метафізічнага, свету людзей і духаў, дзе любая рэалія мае свой адбітак у пазарэальных сферах. Аналізуецца значэнне драмы на фоне "рамантычнага пералому", сведкам і ўдзельнікам якога быў Міцкевіч. Прасочваецца станаўленне рамантычнага героя Міцкевіча, праводзіцца думка, што паэма - своеасаблівы рамантычны маніфест. Магчыма не так усебакова, як можна было, разглядаецца сувязь паэмы "Дзяды" з фальклорам, народнымі вераваннямі і народным светапоглядам.

Паэма "Дзяды" Міцкевіча - твор настолькі шырокасяжны ў ідэйным размаху, нават амбітны ў дасягненні універсальнай рэцэпцыі рэчаіснасці, што ніводнае даследаванне яго не можа лічыцца дастаткова поўным, завершаным, "выніковым". Напрыклад, на канферэнцыі "Адам Міцкевіч і Сусветная культура", што адбывалася ў Гродне і Навагрadку 12-17 мая 1997 г. з дванаццаці дакладаў, прысвечаных творчасці паэта да 1832 г., шэсць было паводле паэмы "Дзяды" [3, кн 1].

У 1998 годзе выходзіць праца В. Аварскага "Аб героях II часткі "Дзядоў" [217], у якой падаецца характарыстыка Міцкевічавых персанажаў адпаведна прынцыпу, які можна назваць сінхранічным (па аналогіі з сінхраніяй у мовазнаўстве, дзе ў адрозненне ад дыяхраніі моўныя з'явы разглядаюцца толькі ў сучасным (момантавым) стане). Рацыяналістычнае "прэпараванне" мастацкай рэчаіснасці, што выконвае прадстаўнік сучаснага урбаністычнага грамадства, не ўлічваючы глыбінную светапоглядную сувязь герояў Міцкевіча са старажытнай міфалогіяй і логікай тэургічных дзействаў, прыводзіць да неразумення матывацыі не толькі паводзін персанажаў, але і да няправільнага, "плоскага" разумення ўсяго твора. Адсюль у рацыяналіста-назіральніка ўзнікаюць зніжаныя азначэнні: "атупелыя мужыкі", Гусляр нясе "бязглудзіцу" [217, с. 8, 12]. На памылковасць такога спосабу рэцэпцыі паэмы ўказаў Уладзімір Мархель: "Ігнараванне ўмоўнасці мастацкага твора здольна пазбавіць аналіз не толькі той

змястоўнасці, на якую арыентаваўся аўтар, але і абяссэнсіць сам аналіз. Міцкевіч прапанаваў пэўныя правілы паэтычнага ўзнаўлення старажытнага беларускага абраду, які ў сваю чаргу мае ўласныя правілы здзяйснення, і з гэтым нельга не лічыцца" [107, с. 71].

Вывучэнне паэмы "Дзяды" ў польскім міцкевічазнаўстве прайшло вялікі шлях, ад якога, пэўна, з прычыны пошуку сенсацый ці задавальнення патрэб маскультуры ("здыманне сэнсавых вяршкоў"), нават пачалі адыходзіць падобныя да працы В. Аўчарскага, экстравагантныя "павароткі".

Да падобных "экстравагантных" прац, дзе аналізуюцца "Дзяды", можна далучыць кнігу "Адам Міцкевіч чалавек" Жана-Шарля Жыль-Мэсані, французскага фізіка і матэматыка, эвалюцыяніста і доктара медыцыны ў галіне псіхіятрыі і псіхалогіі, што "вывучыў польскую мову, каб чытаць творы Міцкевіча ў арыгінале" [188, (супервокладка)] і пасля зрабіць псіхалагічны (паводле З. Фрэйда) аналіз асобы Міцкевіча. Аўтар даследавання прыходзіць да высновы, што каханне да дзяўчыны, апісанае ў IV частцы "Дзядоў" і любоў да радзімы ў III частцы настолькі моцныя, паранармальныя, што ўтрымліваюць у сабе паранаідальныя рысы. Заўважаецца, што доктар медыцыны таксама карыстаўся сінхранічным прынцыпам, не прымаў пад увагу гістарычную эпоху, у якой жыў Міцкевіч, не суадносіў свае меркаванні з рамантычнай гіпербалізацыяй.

У расійскім літаратуразнаўстве даследаванні паэмы "Дзяды", акрамя прадмоў да выданняў рускіх перакладаў паэмы, у асноўным датычацца інспіратыўнага ўплыву "Урыўка" да паэмы "Дзяды" на "Меднага конніка" Пушкіна. Падрабязна пра гэта піша Ежы Свідзіньскі ў артыкуле "Міцкевіч і Пушкін у святле расійскіх даследаванняў 1927-1987 гг." Праблему тыпалагічных сувязей паміж "Урыўкам" да "Дзядоў" і "Медным коннікам" даследавалі В. Аляксандраў, Д. Благой, Б. Гарадзецкі, А. Гурэвіч, М. Ізмайлаў, А. Луначарскі, Л. Камароў, Г. Макагоненка, Б. Мейлах, Б. Тамашэўскі, Т. і М. Цяўлоўскія і інш. Адны даследчыкі, напрыклад Д. Благой, зводзілі ўплыў Міцкевіча да мінімуму, як вынік папярэдніх размоў паэтаў. Іншыя (Б. Гарадзецкі, Г. Макагоненка, Б. Мейлах) бачылі станоўчы ўплыў мяцежнасці Міцкевіча на бунтарскія рысы характару Яўгенія - героя "Меднага конніка"[23б, с. 50].

У гэтым рэчышчы нельга абысці ўвагай працу М. Эпштэйна "Царь Пётр на берегу Невы", што прысвечана тыпалагічным сувязям "Фаўста" Гётэ, "Урыўка" да "Дзядоў" Міцкевіча і "Меднага конніка" Пушкіна [170].

Праводзіла супастаўляльнае даследаванне паўднёвых рамантычных паэм Пушкіна і рамантычных паэм Міцкевіча ("Дзяды", ч II і IV, "Гражына", "Конрад Валенрод") А. Піатроўская. "...Супастаўленне ранніх рамантычных паэм

Пушкіна і Міцкевіча - піша даследчыца, - паказвае іх генетычную блізкасць, адзінства поглядаў паэтаў на грамадства і чалавека, свабодалюбівых ідэалаў... Псіхалагічны рамантызм ранніх паэм Пушкіна і Міцкевіча спалучаецца з грамадзянскім. [134, с 173]. Аднак апошняе абумоўлівае іх розначсць у стылістыцы і нацыянальным каларыце.

Праблемай узаемастасункаў "Урыўка" з "Дзядоў" і паэмай "Медны коннік" займаліся і нямецкія славісты. Вітольд Косьны ў артыкуле "Пушкін і Міцкевіч пад помнікам Пятра Вялікага. "Медны коннік" і "Урывак" III часткі "Дзядоў" у святле нямецкіх кампаратывісцкіх даследаванняў апошніх гадоў" узгадвае працы З. Бен-Порат, А. Кніге, І. Панфіловіча, А. Эбінхаўза і інш. Нямецкі даследчык прыводзіць слушнае выказванне З. Бен-Порат, што пры аналізе твораў літаратуразнаўцы не павінны задавальняцца канстатацыяй уплыву і ўздзеяння ранейшага тэксту на пазнейшы, але ўспрымаць повязь абодвух тэкстаў, як дыялог, які абодвум тэкстам прыносіць семантычную надбудову, вядзе да прыросту значэнняў, якіх без інтэртэкстуальнага разгляду не маюць ні ранейшы твор, ані твор, што выкарыстоўвае яго [197, с. 22-23].

Праблему кантэкстуальнага поля "Урыўка" да "Дзядоў" у расійскай літаратуры XIX ст. даследавалі і польскія мікевічазнаўцы. Марта Зеліньска [243] і Зоф'я Стэфаноўска [234].

На сучасным гістарычным этапе, Беларусь, як спадкаемніца Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, як радзіма Адама Міцкевіча, як сучасная незалежная краіна і адметная культурная прастора павінна выпрацаваць сваю сістэму поглядаў і гуманітарных ведаў адносна творчай спадчыны Адама Міцкевіча.

Адным з першых на гэтую праблему звярнуў увагу Станіслаў Станкевіч. У кнізе "Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі" [232], выдадзенай на польскай мове ў Вільні ў 1936 г., дзе значнае месца адведзена Адаму Міцкевічу. Вызначыўшы стылістычныя асаблівасці творчасці паэта, а таксама правёўшы аналіз паэмы "Дзяды" і супаставіўшы паэтыку твора са стылем беларускага фальклору, ён прызнаў Міцкевіча за беларускага пісьменніка. Свае погляды даследчык развіў у працы "Адам Міцкевіч - вялікі сын зямлі Беларусі (Да сотай гадавіны з дня смерці паэта)" (Бацькаўшчына № 47 - 48, - 1955.) [145]. Фактар беларускага (ліцвінскага) паходжання Міцкевіча ён прымаў у якасці галоўнага ў фармаванні генія паэта, што, безумоўна, вяло да аднабаковасці ў метадалогіі раскрыцця сутнасці праблемы. Станкевіч першы вызначыў патэнцыял уплыву "Дзядоў" на будучую, па "Дзядах" літаратуру: "ён (Міцкевіч - С.М) не ставаўся нявольнікам прымітыўных і сырых узораў народнае творчасці, але умеў яе прыгожаператапіць у высокамастацкія перлы пры адначасным захаванні іхняга народнага характару, свядомасці і

непасрэднасці. Дзеля гэтага "Балады" і перадусім "Дзяды" Міцкевіча былі найдасканалейшым выражэннем народнасці ў польскай рамантычнай паэзіі, а сваім этнічна-нацыянальным уплывам сталіся паказнікамі для многіх іншых польскіх рамантычных паэтаў, што творчасць гэтых апошніх развівалася таксама на беларускай народнай аснове, ды нават і пісьменнікі наступнай літаратурнай эпохі - пазітывізму, што выйшлі з Беларусі, ахвотна выкарыстоўвалі ў сваіх творах, як, прыкладам, Эліза Ажэшка, беларускія народныя матывы і надавалі сваім творам шырокі беларускі каларыт" [145, с. 25].

У 1955 годзе на рускай мове выйшла кніга беларускай даследчыцы літаратуры В. Цімафеевай "Великий польский паэт Адам Мицкевич" [151], у якой змешчана біяграфія пісьменніка, а таксама падаюцца звесткі пра пераклад некаторых твораў Міцкевіча на беларускую мову, якія выканалі В. Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, М. Танк, П. Пестрак, А. Зарыцкі, Н. Тарас, М. Клімковіч, В. Таўлай, С. Дзяргай.

Як сведчыць зборнік "Міцкевіч і Беларусь" (Мінск, 1997) [1], цікавасць да творчасці Міцкевіча ў Беларусі была пастаяннай, але навуковых прац было не шмат. Фактычна ў беларускім літаратуразнаўстве існуюць усяго тры манаграфіі, прысвечаныя непасрэдна творчасці Адама Міцкевіча. Гэта кнігі С. Брагі "Міцкевіч і беларуская плынь польскай літаратуры" (Нью-Йорк, 1957) [20]; А. Лойкі "Адам Міцкевіч і беларуская літаратура" (Мінск., 1959) [89] і У. *Мархеля* "Ты як здароўе..." Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры" (Мінск, 1998) [107] (другое дапрацаванае выданне гэтай манаграфіі - *Мархель, У. Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч - прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры. Мінск, 2003.* [108]). У 2006 годзе выйшаў дапаможнік для студэнтаў-філолагаў А. Брусевіча "Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча" (Гродна) [24].

У сваёй кнізе С. Брага засяроджвае ўвагу на асвятленні нацыяпрыналежнага аспекту ў праблеме "Міцкевіч і Беларусь". Паведамляецца, што само прозвішча Міцкевіча паходзіць ад старажытнага родавага прозвішча Міцька, і правільней пісаць Міцькевіч, бо нібыта сам паэт спачатку ў рукапісах ставіў над "с" крэсачку - Mickiewicz [20, с. 5]. Даследчык слушна сцвярджае: "У Міцькевічавай творчасці сустракаем беларускія элементы markdown рознага характару: моўныя, фальклорныя, бытавыя, сюжэтныя, краявідныя... Беларускія элементы... не нейкая толькі павярхоўная закраса для "каларытнасці". Яны арганічна з ёю зрослыя, яны неадлучныя, яны ў самых каранёх гэтай творчасці. Гэта зусім натуральная з'ява ў пісьменніка, які радзіўся ў Беларусі, тамка рос і духова сфармаваўся пад беспасярэднім уплывам тагачаснага быту й культуры беларускага сялянства й мясцовай шляхты"

[20, с. 17]. С. Брага не абыходзіць увагай і паэму "Дзяды", у якой яго больш цікавяць партыкулярна-ландшафтная факталогія. Таксама прыводзіць немалаважную заўвагу, што "рэха Імправізацыі з "Дзядоў", можна заценіць у Купалавым вершы "Цару неба і зямлі" [20, с. 23]. Аднак даследчык недаацэньвае ўплыў Міцкевіча на беларускую літаратуру з прычыны "сацыяльнага шляхецкага аспекту" [20, с. 23], чым фактычна адмаўляе "мясцовай шляхце" ролю носьбіта і захавальніка беларускага менталітэту, што прыводзіць да памылковага падзелу (разрыву) асабістага і творчага дыскурсу Міцкевіча: на тое, што ад сялян, - тое беларускае, і на тое, што ад шляхты, - тое польскае.

У працы А. Лойкі з прычыны тагачаснага стану беларускага літаратуразнаўства вялікае значэнне надаецца сацыяльнаму аспекту творчасці Міцкевіча, гучыць інтанацыя рэвалюцыйнага пафасу: "непрымірымы вораг прыгонніцтва, гнеўны выкрывальнік крыважэрных памешчыкаў" [89, с. 15], падрабязна разглядаюцца факты крытыкі Міцкевічам прыгоннага права, у чым можна заўважыць класавае апраўданне паэта: хоць ён і прадстаўнік шляхты, але змагаўся за волю для сялянства. Безумоўна, гэта паказвае пазіцыю Міцкевіча-гуманіста і погляды перадавой шляхты, што кіравалася прыкладам Тадэвуша Касцюшкі, які, як вядома, даў вольную сваім сялянам у Беларусі і неграм-рабам у Амерыцы.

Хоць навязаная звонку сацыяльна-класавая скіраванасць манаграфіі А. Лойкі зніжае яе якасны бок, аднак да вартасных набыткаў даследавання трэба аднесці раскрыццё праблемы суадносін творчасці А. Міцкевіча з беларускім фальклорам, у тым ліку супастаўляльны аналіз ІІ часткі "Дзядоў" з беларускімі замовамі, формуламі-заклінаннямі (якія сабраў этнограф Е. Раманаў). У манаграфіі прасочваецца ўздзеянне Міцкевічавага рамантызму на творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка і іншых беларускіх пісьменнікаў. (Алег Лойка ў пазнейшых сваіх працах працягваў быць адным з адданых папулярызатараў Адама Міцкевіча ў Беларусі, даследчыкам повязі творчасці вялікага рамантыка з беларускім фальклорам і літаратурай.)

І С. Брага, і А. Лойка ў вышэй узгаданых кнігах праводзяць тэзіс пра існаванне "беларускай плыні" ці "школы" ў польскай літаратуры. Тым самым яны паўтараюць азначэнне самога Міцкевіча, дадзенае ім у ХХХ лекцыі па славянскіх літаратурах, прачытанай у "Калеж дэ Франс": "Дзве школы пачалі цяпер вырысоўвацца ў польскай літаратуры - літоўская і ўкраінская" [210, с. 375]. Пад словам "школа" разумеецца згуртаванне прыхільнікаў падобных ідэй, далей у тым жа значэнні Міцкевіч выкарыстоўвае слова "кірунак" [210, с. 375]. Азначэнне "польская літаратура" Міцкевіч відавочна ўжываў у сэнсе "рэчыпаспалітаўская". Як Украіна і Літва (Беларусь) - часткі аднаго

тэрытарыяльна-дзяржаўнага ўтварэння - Рэчы Паспалітай, так і літаратуры іх - часткі агульнай літаратуры. Такім чынам, з польскага (рэчыпаспалітаўскага) пункту гледжання - польскамоўную літаратуру, створаную ў Беларусі, правільна называць "літоўскай (ці беларускай) плынню польскай літаратуры", але ж з сучаснага беларускага пункту гледжання азначэнне "літоўская" відавочна "адчужае" ад Беларусі гэтую літаратуру. А. Мальдзіс, адчуўшы недакладнасць такой фармуліроўкі, пісаў "...прыняць тэрмін "беларуская" школа (польскай літаратуры - *С. М.)* можна толькі з істотнейшымі агаворкамі. На нашу думку, лепш карыстацца тэрмінам М. Багдановіча, які польскую літаратуру, узрослую на глебе мясцовага, беларускага патрыятызму, асцярожна называў асобнай, "краёвай" літаратурай" [100, с. 26]. Аднак, і тэрмін Багдановіча "непразрысты". Па-першае, калі гэта літаратура пэўнага "краю" ці "нашага краю", то чаму не падаецца назва "краю"; па-другое, гэты тэрмін сходны з эўфемізмам "Северо-Западный край", уведзеным царскім урадам пасля забароны назвы "Беларусь". Звяртае ўвагу на праблему вызначэння польскамоўнай літаратуры, што паходзіць з тэрыторыі Беларусі, Галіна Тычко. У кнізе "Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнасці ў польскай літаратуры XIX - пачатку XX стагоддзяў" (Мінск, 2001) [153] даследчыца падкрэслівае, што паняцце рэгіянальнай школы, адносна польскай літаратуры, яшчэ пры жыцці А. Міцкевіча прапанаваў польскі крытык А. Тышынскі (1811 - 1880 гг.), вылучыўшы чатыры школы ў польскай літаратуры - літоўскую, украінскую, пулаўскую і кракаўскую. Аднак, як слушна заўважае Г. Тычко, "паняцце беларускай рэгіянальнай школы ўвогуле вельмі складанае, і павінна стаць аб'ектам асобнага даследавання найперш з-за нявызначанасці этнічнага наймення беларускай народнасці ў XIX ст.: літвіны, тутэйшыя, беларусы" [153, с. 8]. Галоўным крытэрыем вызначэння школы, паводле А. Тышынскага, з'яўлялася адметнасць духу і стылю, пазначаныя характэрным для дадзенага рэгёна адзінствам. Г. Тычко, аналізуючы прапанаваныя дэфініцыі гэтага паняцця, што існуюць у польскім літаратуразнаўстве (даследчыцы М. Яніан) і ў беларускім (Н. Перкіна, А. Лойкі, А. Мальдзіса), робіць выснову: "творцы літоўскай школы суадносяцца найперш з беларускай зямлёй і беларускім нацыянальным менталітэтам" [153, с. 8].

Калі падыходзіць да літаратуры так званай "літоўскай школы" з пункту беларускага гледжання - то, фактычна, гэтая літаратура можа быць вызначана, як "польскамоўная плынь у беларускай літаратуры".

І С. Брага, і А. Лойка, разглядаючы творчасць А. Міцкевіча ў беларускіх каардынатах, тым не менш прыводзяць азначэнне "літоўскай (беларускай) плыні" толькі з пазіцыі польскай літаратуры. Даследчыкі не прымаюць да ўвагі

гістарычна абумоўленую дыфузію дзвюх літаратур, што адбывалася з XVI і да першай паловы XX ст.

XIX ст., якое "адкрыла" рамантызм, з яго зваротам да народнай творчасці, можна разглядаць як апошнюю моцную фазу гэтай дыфузіі. Узаемапранікненне назіраецца на ментальным, лексіка-семантычным, паэтычна-вобразным, маральна-эстэтычным, сюжэтным узроўнях. Адным з фактараў такой дыфузіі была забарона царскім урадам беларускага друку, таму пісьменнікі, нават пачынаючы пісаць па-беларуску, пераходзілі на польскую мову (напрыклад, Я. Баршчэўскі) і ўжо ў польскамоўнай стыхіі выяўлялі беларускія рэаліі. Падзяляць гэтую літаратуру на асобныя беларускія ці польскія элементы, вобразна кажучы, тое самае, як раскласці паветра і спрабаваць дыхаць ці толькі азотам, ці толькі кіслародам.

Уплыву творчасці А. Міцкевіча на беларускую літаратуру, у асноўным на беларускіх літаратараў XIX - пачатку XX ст., прысвечаны першы раздзел кнігі В. Каваленкі "Вытокі. Уплывы. Паскоранасць / Развіццё Беларускай літаратуры XIX - XX ст." (Мінск, 1975). Даследчык аналізуе працэс пранікнення рамантычных ідэй Міцкевіча ў мастацкую практыку беларускіх літаратараў. "Творчасць Міцкевіча, - піша В. Каваленка, - не проста ўплывала на развіццё беларускай дакастрычніцкай літаратуры нейкімі асобнымі аспектамі, а ўсім багаццем ідэйна-мастацкага зместу, высокім агульным узроўнем літаратурнай свядомасці" [61, с. 71-72]. У кнізе гаворыцца пра вялікае значэнне паэмы "Дзяды" для беларускай літаратуры, якая "рэалістычна і ў той жа час паэтычна перадае "аблічча" роднай зямлі", [61, с. 70].

У 1998 годзе пабачыла свет кніга С. Дразда "Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства (беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі XIX - пачатку XX стагоддзяў" (Гродна, 1998) [47]. Уласна праблеме *Міцкевіч і Купала* адводзіцца два падраздзелы першага раздзела кнігі. Большасць матэрыялу аддадзена літаратурным узаемастасункам Янкі Купалы з польскай літаратурай увогуле і, у прыватнасці, з творчасцю Ю. Славацкага, І. Крашэўскага, М. Канапніцкай, Э. Ажэшка.

Што датычыцца праблемы *Міцкевіч і Купала*, то аўтар надае шмат увагі біяграфічным фенаменальным фактам: дзень нараджэння Адама Міцкевіча супадае з Калядамі, дзень нараджэння Янкі Купалы - з Купаллем; супастаўляе некаторыя абставіны жыцця і смерці паэтаў. У літаратурным плане - выяўляе рамантычныя матывы Адама Міцкевіча ў паэзіі Янкі Купалы, у тым ліку матывы "Дзядоў" у Купалавых творах: "Цару неба й зямлі", "На могілках", "Забытая скрыпка", "Сон на Кургане", "Радаўніца" (сёмая частка паэмы "Яна і я"). Асобна даследуе вобраз беларускага селяніна ў Адама Міцкевіча і Янкі Купалы. "Што характэрна для тыпалогіі эстэтычных сістэм Міцкевіча і Купалы?

- запытвае С. Дрозд, - Найістотнейшым, лічым, тое, што польскі паэт Міцкевіч на старонках "Дзядоў" удыхнуў літаратурнае жыццё беларусу - простаму хлопу." [47, с. 52]. Тут "польскасць" Міцкевіча відавочна паказвае прыналежнасць паэта да шляхты, чым падкрэсліваецца яго "па-засаслоўная" павага да беларускага "простага люду". Аднак неабходна заўважыць, што Міцкевіч у "Дзядах" не ўжывае слова *chłop*, а выкарыстоўвае *wieśniak* ("жыхар вёскі", "вясковец"), якое не мае канатацыі "няроўнасці", "падпарадкаванасці". Разуменне і падтрымка годнасці чалавека - найважнейшае дасягненне рамантызму, якое адстойваў у літаратуры Міцкевіч.

Станоўчым момантам кнігі С. Дразда - ёсць спроба асэнсаваць паралелізм тэмы *паэта і паэзіі* Янкі Купалы і Адама Міцкевіча. "Міцкевіч і Купала - гэта перш за ўсё дзве самыя гуманістычныя чалавечыя канцэпцыі, дзве літаратурна-мастацкія дэкламацыі, два метады адлюстравання рэчаіснасці, параўнальна-тыпалагічна блізкія і розныя..." [47, с. 49].

Якасна новым крокам у беларускім міцкевічазнаўстве стала манаграфія У. Мархеля "Ты як здароўе..." Адам Міцкевіч і тэндэнцыя адраджэння беларускай літаратуры" (Мінск, 1998) [107]. Даследчык пераасэнсоўвае значэнне і месца творчасці Міцкевіча ў сусветнай літаратуры, сцвярджаючы: "... няма патрэбы затрачваць намаганні дзеля высвятлення суадносін "або - або", "ці - ці", а ёсць яснае ўсведамленне высокага "і - і", узвышанага над катэгорыяй прыналежнасці" [107, с. 4]. Далей ён піша: "Міцкевіч належыць усяму свету, чалавецтву, і нам павінна абыходзіць іншае - наша ўспрыманне постаці паэта і яго спадчыны. Аб'ектыўна яно не можа быць ва ўсім адэкватным польскаму ўспрыманню Міцкевіча. Аднак без гэтага як формы самапазнання ні палякам, ні беларусам не абысціся. Двухбаковае ўспрыманне вялікага паэта двума народамі патрэбна ім дзеля асэнсавання ўласнага шляху ў супольнай гісторыі, дзеля ўзаемаразумення і ўзаемапазнання - у Міцкевічу і праз Міцкевіча" [107, с. 4]. У даследаванні адзначаецца ўплыў лёсавызначальных фактаў біяграфіі паэта на яго творчасць, прасочваецца роля Міцкевіча ў замацаванні ў беларускай літаратуры некаторых жанраў (санета, балады і як наступніцы балады - гутаркі). Праводзіцца параўнаўчы аналіз матываў радзімы ў творчасці Міцкевіча і яго паслядоўнікаў на Беларусі. Як важную тэму даследавання можна разглядаць супастаўленне дзейнасці Ф. Скарыны і А. Міцкевіча - ускрываюцца механізмы, якія абумовілі немагчымасць поўнага звароту беларускага першадрукара і вялікага рамантыка да жывое мовы народу. У манаграфіі падкрэсліваецца вялікая роля паэмы "Дзяды" ў творчасці Міцкевіча і на фоне крытыкі працы В. Аўчарскага "Аб героях II часткі "Дзядоў", даецца аналіз гэтай часткі паэмы.

У. Мархель праводзіць тэзіс, што "з пункту бачання перспектывы эвалюцыйнага набліжэння таленавітых пісьменнікаў - ураджэнцаў Беларусі - да

беларускамоўнай творчасці Міцкевіч знаходзіўся на магістральным шляху развіцця новай беларускай літаратуры, і яго паэзія ўдзельнічала ў гэтым развіцці..." [107, с. 123]. А вылучэнне адносна беларускіх польскамоўных пісьменнікаў паняцця кантамінацыйнай білінгвальнасці [106, с. 33] дазволіла распрацаваць згаданую вышэй канцэпцыю "польскамоўнай плыні ў беларускай літаратуры".

Падтрымлівае гэту канцэпцыю і І. Багдановіч, якая ўскрывае сутнасць сармацка-рыцарскага рамантызму вялікага наваградчаніна: "Узнаўленне сармацка-рыцарскага архетыпу ў рамантызме азначала вяртанне да нацыянальных традыцый, укарэненых яшчэ ў часы барока і занядбалых у часы асветніцкага класіцызму. Праз А. Міцкевіча сармацка-рыцарская традыцыя кладзе свой адбітак і на беларускую літаратуру, на ўсю культуру Беларусі ў цэлым" [6, с. 32].

Важным набыткам беларускага міцкевічазнаўства сталі артыкулы С. Мусіенкі. У сваіх працах ("Белорусский фольклор в творчестве Адама Мицкевича" [139], "Беларускія фальклор і праблема рамантычнага героя (русалкі) у творчасці А. Міцкевіча, А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі" [112], Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды" [112] і інш.) даследчыца аналізуе метадалогію Міцкевіча па літаратурным засваенні вуснай народнай творчасці, вераванняў, звычаяў і абрадаў беларусаў. А. Брусевіч у сувязі з гэтым адзначае: "С. Мусіенка паказвае... тыя адносіны А. Міцкевіча да беларускай культуры, якія мелі творчы характар, разглядае розныя метады і спосабы выкарыстання паэтам вуснай народнай творчасці: стылізацыю, пераасэнсаванне, кантамінацыю, новыя трактоўкі вядомых сюжэтаў..." [25, с. 19]. Вызначаныя даследчыцай інавацыйныя адметнасці міцкевічаўскага фальклярызму несумненна з'яўляюцца базіснымі для далейшага вывучэння ўплыву беларускага фальклору на творчасць Адама Міцкевіча.

У пэўнай ступені як азнаямляльны, першапачатковы збор інфармацыі па міцкевічазнаўству выступаюць каментарыі да кнігі з творамі Міцкевіча: *Міцкевіч, А. Выбраныя творы. / Укладанне Я. Брыля — Мінск, 1955* [112]; *Міцкевіч, А. Зямля наварудская, краю мой родны.../ Укладанне А. Мальдзіса - Мінск, 1969* [119]; *Філаматы і філарэты / Уклад., перакл., прадм., біяграфічныя даведкі пра аўтараў і каментары К. Цвіркі. - Мінск, 1998* [156]; *Міцкевіч, А; Вершы і паэмы. Прадм. А. Лойкі. Уклад. А. Клышкі і К. Цвіркі - Мінск, 2000 [111]; Міцкевіч, А. Дзяды /Перакл. прадм. і каментар К. Цвіркі - Мінск., 2001* [116]; *Міцкевіч, А. Выбраныя творы./ Укладанне, прадм. і каментар К. Цвіркі. - Мінск, 2003* [113]. Два апошнія выданні з прычыны шматлікіх факталагічных і тэксталагічных памылак не могуць разглядацца як навукова дакладныя.

У 1999 г. аўтарам гэтага даследавання быў выдадзены двухтомнік паэмы "Дзяды", дзе корпус навуковых каментарыяў для беларускага боку быў распрацаваны разам з польскім міцкевічазнаўцам Зоф'яй Стэфаноўскай, а

таксама была ўпершыню прааналізавана метадалогія вырашэння праблемы перакладу паэмы на беларускую мову [117], [118].

Неабходна ўзгадаць рускамоўныя кнігі, выдадзеныя ў Беларусі, што прысвечаны жыццю і творчасці Адама Міцкевіча: "Жаль перестать быть литвином" В. Клімчука (Брэст, 1998,) [76] і "Мицкевич и Пушкин: истоки и традиции русской поэзии" М. Ткачова ( Мінск, 2003) [152].

У першай змешчаны матэрыял па біяграфіі і творчасці Міцкевіча, праводзіцца гіпотэза паходжанне назвы Літвы ад старажытнага славянскага племені люцічаў-велетаў, чым даводзіцца, што назва Літва спракавечная назва паўночна-заходніх земляў Беларусі. Адсюль "ліцвінскасць" Міцкевіча трэба разглядаць як тоеснае "беларускасці", а самога Міцкевіча, як вялікага беларускага пісьменніка.

У другой аўтар М. Ткачоў разглядае творчасць Міцкевіча ў ракурсе рускай літаратуры XIX ст. і, відавочна, пераацэньвае факт уплыву на Міцкевіча рускай паэзіі таго перыяду, гіпербалізуе славянафільскі элемент у творчасці паэта, што не дазваляе аўтару разгледзець узнятую ім праблему комплексна.

Пытанні ўздзеяння творчасці Адама Міцкевіча на Янку Купалу разглядаюцца ў вышэйзгаданай манаграфіі Г. Тычко "Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнасці ў польскай літаратуры XIX - пачатку XX стагоддзяў" (Мінск, 2002). У кнізе грунтоўна даследуецца сувязь паэмы Міцкевіча "Конрад Валенрод" з "творчым і жыццёвым лёсам" [153, с. 3] беларускага класіка. Прасочваецца развіццё тэмы паэта-прарока ў паэзіі Янкі Купалы. У асобным раздзеле манаграфіі "Роля сну ў драме А. Міцкевіча "Дзяды", падаецца гісторыя напісання гэтага твора, апісваецца яго структура, адзначаецца яго важнасць як для польскай літаратуры, так і для беларускай. Г. Тычко з'яўляецца аўтарам прадмовы і каментарыяў да фрагменту перакладу паэмы на беларускую мову, змешчаным у часопісе "Полымя" № 12 за 1998 год.

Даследуе праблему *Адам Міцкевіч і Беларусь* А. Брусевіч у кнізе "Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча" (Гродна, 2008) [25]. Разглядаюцца творы паэта, якія ўтрымліваюць у сабе "беларускі субстрат", што праяўляецца на ідэйна-мастацкім, тэматычным, вобразным узроўнях. Даследчык супастаўляе "Балады і рамансы", "Гражыну", "Дзяды" і фальклорны матэрыял беларускага народа, сцвярджае: "...беларуская культура становіцца асновай, на якой грунтуецца светапогляд А. Міцкевіча, філасофіяй яго паэзіі" [25, с. 3]. Асобны раздзел кнігі прысвечаны непасрэдна "Дзядам" - "Беларускі народны абрад у драматычнай паэме А. Міцкевіча "Дзяды", у якім А. Брусевіч праводзіць тэксталагічны аналіз частак твору, выяўляючы сувязі паэмы з народнымі слоўнымі формуламі, замовамі, заклёнамі (паводле прац фальклярыстаў

П. Шэйна, Е. Раманава, А. Сержпутоўскага), а таксама параўноўвае з іншымі фалькларыстычнымі творамі А. Міцкевіча і прыходзіць да наступных высноў:

- беларускі памінальны абрад не толькі аб'яднаў драматычную паэму, але і злучыў у адно розныя перыяды творчасці паэта;
- беларускія Дзяды абумовілі ўвядзенне ў сюжэт драматычнай паэмы шэраг другіх фальклорных вобразаў, матываў, тым самым падкрэсліўшы цэласнасць і ўзаемаабумоўленасць беларускай народнай культуры;
- творчае выкарыстанне беларускага народнага абраду дапамагло А. Міцкевічу выявіць, акрэсліць і ўвасобіць у мастацкім творы галоўныя эстэтычныя прынцыпы рамантызму;
- філасофскае асэнсаванне беларускага абраду Дзядоў дазволіла А. Міцкевічу выявіць ролю творчай асобы ў адносінах да свайго народа і радзімы;
- дзякуючы беларускаму абраду, які складае аснову ідэйнай сутнасці драматычнай паэмы "Дзяды", творчасць А. Міцкевіча выходзіць на якасна новы ўзровень, а сам твор становіцца лепшым узорам еўрапейскага рамантызму [25, с. 122].

Ліратаратурная спадчына Міцкевіча ў кантэксце беларускай літаратуры XIX і пачатку XX ст. даследуецца ў працах А. Бельскага, А. Бурава, В. Еўмянкова, С. Мусіенкі. Закранaлі праблему Міцкевіч і беларуская літаратура ў сваіх даследаваннях А. Верабей, В. Гапава, У. Гніламёдаў, М. Грынчык, У. Казбярук, У. Конан, І. Навуменка, Н. Перкін, Л. Тарасюк, М. Хаўстовіч, І. Штэйнер і інш. Вялікую ролю ў вывучэнні літаратурнай спадчыны А. Міцкевіча адыгралі міжнародныя канферэнцыі, дзе адбываўся абмен думак айчынных і замежных міцкевічазнаўцаў. Найбуйнейшыя: "Адам Міцкевіч і сусветная культура" (Гродна, Навагрудак 12-17 мая 1997), вынікам якой стала выданне пяці кніг матэрыялаў, дзе прадстаўлены шырокі дыяпазон даследаванняў [3]; Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры" (Мінск, 7-22 верасня 1998 г.) [2]; Янка Купала і Адам Міцкевіч: IV Міжнародныя Купалаўскія чытанні (Мінск, 9 верасня 1998) [170]. Неабходна адзначыць наступныя зборнікі навуковых прац: "Вечныя праблемы і вобразы ў творчасці Адама Міцкевіча: Зборнікі матэрыялаў міжнар. навук.-тэарэт. канф. "Асоба і творчасць А. Міцкевіча ў кантэксце сусветнай літаратуры (Брэст, 1998) [127]; "З краю Навагрудскага..." (малая айчына і ў жыцці і творчасці Адама Міцкевіча (Гродна 2006) [58].

Асобнай манаграфіі, прысвечанай паэме "Дзяды" ў беларускім літаратуразнаўстве не існуе. Паэма згадвалася ў асноўным у сувязі з літаратурным засваеннем беларускага фальклору і выяўленнем уласна беларускіх рэалій, разглядам некаторых мастацкіх феноменаў, а таксама

з'яўлялася аб'ектам кампаратывісцкіх прац (даследаванні С. Мусіенкі "Традыцыі містэрыі ў драматычных паэмах Адама Міцкевіча "Дзяды" і Янкі Купалы "Адвечная песня" [131]; "Рух героя ў сюжэце драматычнай паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды" [130]; праца Г. Тычко "Роля сну ў драме А. Міцкевіча "Дзяды" [153, с 90 - 95];). А. Верабей у кнізе "Максім Танк і польская літаратура" (Мінск, 1984) супастаўляе паэму "Дзяды" з некаторымі творамі беларускага паэта [30]; А. Бураў прадставіў "спробу параўнальнага аналізу" "Дзядоў" і "Фаўста" Ё.В. Гётэ[28].

Падагульняючы вышэй сказанае, можна зрабіць наступныя высновы:

- паэма А. Міцкевіча "Дзяды" яшчэ пры жыцці аўтара заслужыла ў ацэнках сучаснікаў статусу ўзорнага рамантычнага твора (выказванні Ж. Санд, В. Бялінскага, Дж. Мандзіні і інш.), што ў сваю чаргу абумовіла трывалую ўвагу да яго чытачоў і літаратараў наступных пакаленняў;

- вывучэнне паэмы "Дзяды" ў польскім літаратуразнаўсве прайшло вялікі шлях. Заўважаецца паступовы адыход даследчыкаў ад збору тэксталагічнай фактаграфіі і назіранняў над гісторыяй напісання паэмы (у чым неацэнная заслуга міцкевічазнаўцаў Ю. Клейнера, Г. Масціцкага, Я. Мацяеўскага, С. Піганя, С. Свіркі і інш.) і паглыбленне ў вобразна-мастацкую тканіну твора і яго кантэкстуальнае поле, пры чым акрэсліваецца кампазіцыйная адметнасць паэмы, прасочваецца станаўленне рамантычнага героя, а таксама ўпершыню разглядаецца беларускі фальклорны матэрыял, выкарыстаны паэтам у "Дзядах" (В. Кубацкі, Р. Пшыбыльскі, З. Стэфаноўска, М. Цесьля-Карытоўска, М. Яніан і інш.);

- у расійскім літаратуразнаўстве даследаванне гэтага твора Адама Міцкевіча ў асноўным датычацца тыпалагічных сувязей паміж "Урыўкам" "Дзядоў" і "Медным коннікам" Аляксандра Пушкіна, а таксама інспіратыўнага ўплыву, які зрабіў песняр Літвы на русскага паэта (працы В. Аляксандрава, Д. Благога, Б. Гарадзецкага, А. Гурэвіча, М. Ізмайлава, Л. Камарова, А. Луначарскага, Г. Макагоненка, Б. Мейлаха, Б. Тамашэўскага, Т. і М. Цяўлоўскіх, М. Эпштэйна і інш.);

- у беларускім міцкевічазнаўстве можна прасачыць эвалюцыйны рух ад паасобных канстатацый фактаў біяграфіі і творчасці Міцкевіча і разгляду толькі беларускіх элементаў (што нярэдка "здрабняла" дыскурс Міцкевіча) да шырокага абагульнення феномена паэта і стварэння канцэпцыі польскамоўнай плыні ў беларускай літаратуры. Калі раман у вершах "Пан Тадэвуш" выступае як вянец творчасці Міцкевіча, то паэма "Дзяды" - гэта яе стрыжань. І тое, што здзіўляла польскіх даследчыкаў - насычанасць твора партыкулярнымі элементамі - правінцыйныя, лакальныя з'явы - ужыванне беларусізмаў, апісанне мясцовага ландшафту, побыту мясцовай шляхты і сялян, іх паводзін,

выхаванасці, звычаяў і вераванняў (напрыклад, звычай класці на магілы сваякоў ежу) - беларускія літаратуразнаўцы ўспрымалі як прыналежныя маркеры, што ўказвалі на тыя рэаліі краю, якія па-мастацку ўзнаўляў аўтар, каб стварыць шырокую вобразную карціну;

-адным з найвялікшых дасягненняў і інавацый паэмы "Дзяды" выступае "патрыятычны рамантызм", дзе партыкулярныя элементы арганічна ўпісваюцца ў яе тканіну. Фактычна пастулюецца рамантызм неэкзатычны, а "прыроджаны", які грунтуецца на саміх культурных пластах краю;

- каштоўнасць паэмы "Дзяды" для Беларусі не толькі ў тым, што ў яе аснову пакладзены беларускі фальклор і народныя вераванні, што ў ёй падаецца зрэз нашай гісторыі і назіранні над побытам і жыццём насельнікаў краю, але перш-наперш у тым, што яна адкрывае шляхі для самаідэнтэфікацыі і самаўсведамлення беларусаў. І гэтымі шляхамі за пакаленнем Адама Міцкевіча на землях Беларусі ішлі яго творчыя спадкаемцы.

# РАЗДЗЕЛ 2

# ГЕНЕЗІС ПАЭМЫ "ДЗЯДЫ" Ў ЕЎРАПЕЙСКІМ І АЙЧЫННЫМ КУЛЬТУРНЫМ КАНТЭКСЦЕ

## 2.1 Структурна-кампазіцыйныя асаблівасці паэмы "Дзяды"

Паэма не была завершана. Кожная яе частка можа лічыцца асобным творам, хаця, безумоўна, між імі існуе кантэкстуальная і сюжэтная сувязь.

Гісторыя стварэння асобных частак паэмы яшчэ не да канца высветлена.

Найперш Міцкевіч напісаў II частку, пасля IV, затым пачаў I, але не закончыў і замест яе напісаў баладу "Здань". У паслядоўнасці "Здань", II частка, затым IV паэма была апублікавана ў другім томе "Паэзіі" Міцкевіча ў Вільні (1823 г.). Гэтыя часткі паэмы прынята называць "віленска-ковенскія "Дзяды". (Сустракаецца сінанімічная назва "ковенска-віленскія "Дзяды").

Задуму паэмы трэба аднесці да 1820 г., калі з'явіліся першыя накіды II часткі. "Хроніка жыцця і творчасці Міцкевіча" падае дату - канец 1820 г. [186, с. 256]., Ю. Клейнер і С. Пігань лічаць, што чарнавік II часткі ўзнік вясною 1820 г. Аднак Я. Мацяеўскі, даследуючы храналогію напісання паэмы, звярнуў увагу на інфармацыю пра лекцыі, якія наведваў Міцкевіч, менавіта на той перыяд, калі паэт мог зацікавіцца творчасцю Гётэ, бо вольны пераклад з Гётэ быў уключаны ў першую рэдакцыю II часткі. Адсюль вынікае час напісання: пачатак траўня - канец кастрычніка 1821 г. [213, с. 449]. Амаль год часавай разбежкі дае падставы меркаваць, што ў перыяд напісання першых чарнавікоў "Дзядоў" Міцкевіч паралельна працаваў над сваімі знакамітымі баладамі і рамансамі, змешчанымі ў першым томе "Паэзіі" (Вільня, 1822 г.), што, безумоўна, уплывала на стварэнне тэксту паэмы; таксама тады быў напісаны найпапулярнейшы ў Беларусі санет "Да Нёмана", які матывам тугі па родных мясцінах і суму па блізкіх сябрах і каханай дзяўчыне пераклікаецца з IV часткаю "Дзядоў".

Часткі II і IV былі закончаны ў 1822 г. у Коўне і адпраўлены ў Вільню да сябра - паэта Яна Чачота для перадачы ў друк. Міцкевіч дагэтуль рабіў на адным з пасяджэнняў філаматаў разгляд Чачотавага лібрэта оперы "Маргарыта з Зэмбацына", і сваю новую паэму ён уяўляў як вялікі оперны твор. Менавіта опера была галоўнай "зброяй" у змаганні з "астоямі" класіцызму. Як адзначае В. Кубанкі, паэтыка оперы для рамантыкаў "абвяшчала свабоду драматычную, паэтычную, змену месца дзеяння і таксама сінтэз мастацтва" [199, с. 23]. Міцкевіч падхопліваў і развіваў у сваёй творчасці літаратурныя погляды Чачота.

Акрамя таго неабходна адзначыць, што Ян Чачот не толькі перапісваў начыста ўрыўкі "Дзядоў", дасланыя Міцкевічам з Коўна, рэдагаваў тэкст паэмы, але і быў аўтарам некаторых радкоў паэмы. Міцкевіч ведаў пра каханне Яна Чачота да Зосі Малеўскай. Яна стала прататыпам для гераіні II часткі паэмы і ў першапачатковым тэксце мела імя Каруся. Міцкевіч у лісце да Яна Чачота 25 студзеня / 6 лютага 1823 г. прызнаваўся: "Гэты вобраз Карусі ў "Дзядах" зроблены паводле таго, што Томаш (Тамаш Зан - *С.М.)* мне распавёў пра яе (Зосю Малеўскую - С.М). Я змяніў імя толькі для рыфмы... Калі ты ў паэтычным гуморы, даю табе дазвол, ці бо прашу restituere textum (перарабіць тэкст уласна - *С.М.)* і змяніць імя, і разам з тым давядзецца адзін ці два радкі перарабіць. Табе павінна гэта ўдасца!" [211, с. 214].

Вось Чачотавы радкі, што ўвашлі ў канчатковы тэкст паэмы:

*Lecz i z Józia i z Antosia*
*Śmieje się pierchliwa Zosia.* [1]
[117, с. 52]

Таксама Міцкевіч не быў задаволены радком, дзе апісвалася рытуальнае запальванне чопа з гарэлкай. Ніводзін з варыянтаў радка самому Міцкевічу не падабаўся. 9/21 красавіка 1823 г. ён пісаў Чачоту: "... сам вырашы, што хочаш, ці папраў: *stawcie znowu*, альбо напішы як было, я ўмываю рукі і больш пра аніякую праўку чуць не хачу. Не ведаеш, як гэта жахліва смяротна, найсмяротнейша для мяне, нязносна. Дай мне спакой!" [211, с. 214].

Чачот паставіў у тэкст свой варыянт:

*Stawcie w środku kocioł wódki...* [2]
[117, с. 30]

Супрацоўніцтва Чачота з Міцкевічам у справе рэдагавання і выдання "віленска-ковенскіх "Дзядоў" падрабязна даследуе Т. Свірка у кнізе "З Міцкевічам пад руку, альбо жыццё і творчасць Янан Чачота" (Варшава, 1989) [238].

Некалькі радкоў Яна Чачота ў паэме "Дзяды" Міцкевіча - амаль непрыкметная кропля ў паэтычным акіяне "Дзядоў", але яна сведчыць, як

[1] ***Але Юзя і Антося***
***Гучна высмеяла Зося...***
[117, с. 53] (Тут і далей падаецца пераклад аўтара даследавання).

[2] ***...І пастаўце чоп гарэлкі...***
[117, с. 31]

заўважыў У. Мархель, што "дружба паэтаў-філаматаў таксама была складнікам іх творчасці, складнікам натхняльным і стымулюючым" [106, с. 45].

Несумненна, вельмі важны для Беларусі факт, што сябрам-дарадцам Міцкевіча ў час напісання паэмы "Дзяды" быў Ян Чачот, які, бясспрэчна, лічыцца адным з пачынальнікаў новай нацыянальнай беларускай літаратуры.

Заслуга Яна Чачота і ў тым, што, дзякуючы яго старанням, былі захаваныя для нашчадкаў фрагменты тэксту, знятыя цэнзурай. Міцкевіч, даведаўшыся, што цэнзар не прапусціў чатыры радкі балады "Здань" і так званую "пацалункавую страфу" ў IV частцы "Дзядоў", гнеўна пісаў Чачоту: "Калі б у мяне было што даць замест "Дзядоў" альбо не прымушала іх друкаваць праведзеная падпіска, я не выпусціў бы гэткае скалечанае дзіця з выкалатым вокам" [211, с. 214].

Пасля выхаду II тома "Паэзіі" Чачот даваў сябрам паэта рукапіс "пацалункавай страфы", каб яны змаглі ад рукі дапісаць яе ў сваю кніжку. У сярэдзіне XX ст. Варшаўскі музей Міцкевіча набыў II том "Паэзіі", што належаў філарэту Адольфу Янушкевічу, дзе і была яго рукою ўпісана "пацалункавая страфа". Гэта дазволіла ўключыць, здавалася б, ужо страчаны фрагмент у выданне: *Mickiewicz A. Dzieła. T.3. Dramaty* (Варшава, 1995) [213].

Чачот ахаваў ад аўтарскай праўкі вольны пераклад шылераўскага верша "Амалія".

Безумоўна, за працай над "Дзядамі" сачылі і іншыя філаматы і філарэты, сябры Міцкевіча, - Тамаш Зан, Францішак Малеўскі, а таксама прафесар Віленскага універсітэта Іаахім Лялевель. Нягледзячы на такую ўвагу да новай паэмы Міцкевіча, паэт не змог яе завершыць і прадставіў публіцы толькі II і IV часткі.

Лёс "віленска-ковенскіх" I і III частак "Дзядоў" не да канца высветлены. Найбольш праўдападобна, што Міцкевіч іх знішчыў. Караліна Паўлава (Яніш) у сваіх успамінах расказвае, што на яе пытанне, чаму Адам Міцкевіч апублікаваў толькі дзве часткі "Дзядоў" з чатырох, паэт адказаў: "Перачытаўшы дзве астатнія, перад тым як аддаць у друк, я знайшоў іх гэткімі мізэрнымі і сумнымі, што кінуў у агонь" [125, с. 695]. Трэцяя частка ў той ранейшай рэдакцыі знікла назаўсёды, а першая захавалася ва ўрыўках.

Незаконачанасць "Дзядоў" прымушала паэта зноў і зноў вяртацца да напісання паэмы. Але сапраўдная праца над імі распачалася пасля паўстання 1830-1831 гадоў. Спачатку паражэнне паўстання выклікала ў паэта вялікі адчай, ён нават быў блізкі да самагубства, а пасля адчуў вялікую творчую энергію супраціву несправядлівым вынікам гістарычных падзей.

Вясной 1832 г. у Дрэздэне на працягу некалькіх тыдняў была створана новая, трэцяя па чарзе напісання частка, якая ў літаратуразнаўстве атрымала назву - "дрэздэнскія "Дзяды". Праца настолькі захапляла паэта, што

кульмінацыйную сцэну - "Вялікую імправізацыю" ён напісаў за адну ноч. Міцкевіч пра яе казаў: "У літаратурнай творчасці час не мае значэння, усё залежыць ад сілы натхнення. Маналог Конрада я напісаў на працягу адной ночы" [218, с. 6]. Пра стварэнне "Вялікай імправізацыі" Э. Адынец успамінае: "Ён напісаў яе на працягу адной ночы, і не толькі напісаў, але і нават перапісаў начыста, баючыся і дапускаючы, што можа памерці назаўтра..." [118, с. 437]. Як адзначае С. Пігань, тэкст "Вялікай імправізацыі" паэт больш не правіў, а цалкам уключыў той дрэздэнскі чыставы варыянт у рукапіс III часткі "Дзядоў"; гэта быў "тытанічны выбух творчай энергіі паэта, з'явішча раптоўнае, дасягненне адзінага ўзлёту" [218, с. 6].

У III частку "Дзядоў" Міцкевіч уключыў "Урывак" ("Ustęp"), які ўяўляе сабой цыкл вершаў, напісаных паводле пецярбургскіх уражанняў - дарогі ў ссылку ў 1824-1825 гадах. І ўжо ў Парыжы дадаў прадмову, тлумачэнні, верш "Do Przyjacół Moskali" і паставіў прысвячэнне:

*Святой памяці*
*Яну Сабалеўскаму*
*Цыпрыяну Дашкевічу*
*Феліксу Кулакоўскаму*
*маім сябрам па вучэнні, па затачэнні, па выгнанні,*
*якія цярпелі перäслед*
*за любоў да Айчыны і памерлі ад тугі па Айчыне*
*ў Архангельску, Маскве, Пецярбургу,*
*народнай справы*
*пакутнікам*

Усе яны былі навучэнцамі Віленскага універсітэта, сасланыя за ўдзел у студэнцкіх таварыствах у Расію, родам адпаведна з Беластока, Падляшша і Мазыра.

III частка была апублікавана ў IV томе "Паэзіі" (Парыж, 1832). Міцкевіч пісаў пра новую частку "Дзядоў": "Гэты твор, аднак, яшчэ далёкі да завяршэння, патрабуе далейшага развіцця, што звяжа ўсе фрагменты і складзе з іх арганічнае цэлае" [209, с. 283].

Нават пасля з'яўлення "Пана Тадэвуша" думка пра працяг працы над "Дзядамі" не пакідала Міцкевіча. У лістах і размовах ён дзяліўся ёю са сваімі сябрамі. Падчас стварэння позняга цыклу лазанскай лірыкі, ён паведамляў: "Кінуў на паперу колькі радкоў першай часткі "Дзядоў" [118, с. 470] На жаль, гэты тэкст I часткі да нас не дайшоў.

Міцкевіч распрацоўваў філасофскае абгрунтаванне сваёй канцэпцыі ўзаемазалежнасці свету рэальнага і метафізічнага. Яшчэ за два гады да смерці ў 1853 г. ён выпадкова сустрэў у адной з парыжскіх бібліятэк свайго знаёмага Армана Леві, які шукаў творы Якаба Бёмэ. Міцкевіч сам па памяці выклаў тэасафічную сістэму Якаба Бёмэ для Леві, паказаў яе асаблівасці і дадаў свае каментары. На шчасце, Леві валодаў стэнаграфіяй. Гэтак на французскай мове паўстала кніга *Jakob Boehte par Adam Mickiewicz (Якаб Бёмэ паводле Адама Міцкевіча)* [215]. Міцкевіч быў зацікаўлены ідэямі гэтага нямецкага містыка і яго паслядоўнікаў, бо іх працы пацвярджалі яго перакананні, якія ён спрабаваў выкласці ў "Дзядах".

Толькі ў 1861 годзе было апублікавана некалькі ўрыўкаў, вядомых як "фрагменты I часткі "Дзядоў", што належалі "віленска-ковенскаму" перыяду творчасці Міцкевіча.

Незакончанасць, фрагментарнасць паэмы абумовіла адкрытую кампазіцыю. "Для формы адкрытай, - піша польская даследчыца рамантызму М. Яніан, - значным з'яўляецца шматсюжэтнасць, разнароднасць, раз'яднанасць, асіметрычная множнасць акцыі, прасторы і часу. Драма з адкрытай формай выкарыстоўвае тэхніку змены пунктаў бачання з разнастайнымі ацэнкамі часта выкліканымі асацыяцыямі [192, с. 432-433]. "Адкрытая форма" дазволіла аўтару "Дзядоў" уключыць у тэкст творы розных жанраў: балады "Здань" (Уступ да II часткі), "Зачараваны юнак" (I частка); імправізацыі, асобныя вершы ("Урывак" НІ часткі). Нягледзячы на, здавалася б, неверагодную рознастылёвасць, кампазіцыя падпарадкавана ўнутранай логіцы. Паэма "Дзяды", да якой на працягу ўсяго свайго жыцця ў словах і думках вяртаўся Адам Міцкевіч, стала для яго своеасаблівым творчым палігонам, дзе ён мог выпрабоўваць літаратурныя інавацыі.

Несумненна, істотным для развіцця беларускай літаратуры стаў факт удзелу і ўплыву беларускіх літаратараў, а перадусім Яна Чачота і філарэтаў і філаматаў, на працэс напісання "Дзядоў".

## 2.2 Ідэйна-эстэтычныя аспекты паэмы "Дзяды" ў дыскурсе рамантызму

Тлумачачы французскаму перакладчыку задуму паэмы "Дзяды", Адам Міцкевіч пісаў: "Вера ва ўплыў свету нябачнага, нематэрыяльнага на сферу людскіх думак і дзеянняў ёсць асноўнай ідэяй польскае паэмы; развіваецца яна паступова ў асобных частках драмы, прымаючы розныя кшталты паводле розніцы месца і часу" [209, с. 283]. Трэба абумовіцца, што было б не зусім

карэктна ўкладваць у дэфініцыю "польская паэма", ужытую аўтарам, сучасны "нацыянальна-прыналежны" сэнс. Мы пагаджаемся з англійскім гісторыкам-паланістам Норманам Дэйвісам, які перакананы, што "людзі, якія дбалі пра рэстаўрацыю дзяржавы, падобную да даўняй Рэчы Паспалітай, надалей разважалі пра польскасць у катэгорыях ненацыянальных. Міцкевіч, напрыклад, не бачыў аніякай прычыны, з-за якой не мог быць адначасова і "палякам", і "ліцвінам" [184, с. 30]. У. Мархель таксама адзначае: "...ёсць падставы сцвярджаць, - што ў беларускім асяроддзі польскасць грунтавалася на ідэі адраджэння Рэчы Паспалітай і на антыімперскіх, антыцарскіх настроях, г.зн. нацыянальна-вызваленчы рух, вяршынямі якога былі паўстанні 1830-1831 і 1863-1864 гадоў, афармляўся на беларускай зямлі не так праз нацыянальныя ўяўленні, як праз рэтраспектыўны дзяржаўны патрыятызм" [106, с. 5]. Для раскрыцця паняцця "польскасці" жыхароў Вялікага Княства Літоўскага неабходна ўлічваць і тагачасныя еўрапейскія міжнародныя адносіны. У паэме "Дзяды" выпісаны *браты-ліцвіны (Litwini bracia*), натхнёныя ідэалам свабоднай Рэчы Паспалітай, іх паплечнікі па барацьбе - *вучні са Жмудзі (studenci ze Żmudzi*); згадваюцца жыхары Палесся - *пінчукі*, а таксама *польскія* паны з *Беларусі.* Разумеючы адметнасць славянскіх земляў былога Вялікага Княства Літоўскага, аўтар "Дзядоў" у прадмове да ІІІ часткі паэмы азначае іх як "літоўска-рускія правінцыі", дзе слова *рускі* мела не сучасную семантыку, а азначала наогул "усходнеславянскі". Аднак, нягледзячы на гэта, Міцкевіч далей піша, - "сярод універсітэцкай моладзі існавалі розныя літаратурныя таварыствы, што мелі на мэце захаванне мовы і польскае нацыі, - права на гэта было замацавана Венскім кангрэсам і прывілеямі імператараў [118, с. 13]. Вядома, што навуковыя студэнцкія таварыствы, у ліку якіх былі філаматы і філарэты, акрамя захавання польскай мовы, збіралі і даследавалі беларускі фальклор, а іх удзельнікі нават пісалі творы па-беларуску. Дастаткова згадаць пра вершы і зборнікі беларускіх песень сябра Міцкевіча Яна Чачота. Такім чынам, ураўноўваючы ў юрыдычных правах жыхароў "літоўска-рускіх" (у сучасным геаграфічным сэнсе - беларускіх) і жамойцкіх правінцый (у сучасным геаграфічным сэнсе - літоўскіх) з палякамі як грамадзян былой Рэчы Паспалітай, а таксама разглядаючы беларускую мову, якая з Міцкевічавых слоў - "мова Статуту ВКЛ" і "самая гарманічная і з усіх славянскіх моў найменш змененая", "самая музычная", "мова дыпламатычнай перапіскі літоўскіх князёў" [156, с. 122] - як адну з традыцыйных моў Рэчы Паспалітай, аўтар "Дзядоў" не так выяўляў паланістычныя сімпатыі беларускай шляхты, як імкнуўся зрабіць жыхароў былога ВКЛ, а значыць і іх мовы, суб'ектамі міжнароднага юрыдычнага права, прызнанага ў Еўропе. Пашыраючы на Літву і Беларусь дамовы Венскага кангрэса, Міцкевіч выводзіў Вялікае Княства Літоўскае -

былую юрыдычна раўнапраўную частку Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў - на сусветную палітычную арбіту, тым самым супрацьстаяў паглынанню краю Расійскай імперыяй, дзе, як адзначаў Міцкевіч у каментарыі да "Дзядоў", у адрозненне ад земляў Кароны, была ўведзена агульнарасійская сістэма чыну. [118, с. 380].

Абараніць край ад палітычнага і маральнага ўціску, паказаць яго унікальнасць і абгрунтаваць права на самавызначэнне, чым і паставіць яго ў адзін шэраг з іншымі дзяржавамі, нават нягледзячы на страту самастойнасці, маглі мастацкія творы, што ўтрымлівалі б нацыянальныя каштоўнасныя элементы і былі б эстэтычна роўныя перадавым еўрапейскім узорам.

Літаратура разглядалася Міцкевічам як сродак волевыяўлення і рэагавання народа, які, у сваю чаргу, успрымаўся рамантыкамі як асаблівы аўтаномны індывідуум у чалавецтве.

У прадмове да І тома "Паэзіі", што выйшаў у 1822 г. у Вільні, ён піша: "Неабходна шукаць прамую залежнасць і паслядоўнасць падзей, паказваць, як услед за пераменамі пачуццяў, характару і меркаванняў народа адбываюцца перамены і ў самой паэзіі, - якая і ёсць найпраўдзівейшым выразнікам векавечных імкненняў народаў" [209, с. 186]. Твор мастацтва павінен канцэнтраваць не толькі адкрытыя, відавочныя імкненні, але і тыя, што ўтоены ў свеце "народнай душы".

Згодна з вышэй адзначаным, справядлівым будзе выказванне М. Мішчанчука: "Беларуская зямля ўзгадавала мастака, прызнанага класіка польскай літаратуры. Аднак ён і класік беларускай літаратуры XIX стагоддзя, што нараджалася ў сілу неспрыяльных грамадска-сацыяльных абставін адразу на беларускай, польскай і рускай мовах. Адам Міцкевіч, што пісаў па-польску, думаў і мысліў па-беларуску, па-ліцвінску" [127, с. 41]. Гэтая білінгвальнасць, відавочна, давала магчымасць паэту глыбей распазнаць патаемныя імкненні "народнай душы" ліцвіна-беларуса і рэпрэзентаваць іх з дапамогай літаратурнай польскай мовы ў шырокіх грамадскіх колах Еўропы.

Адам Міцкевіч свядома ўключае свае творы ў кантэкст еўрапейскай рамантычнай літаратуры і абгрунтоўвае гэта ва ўступным артыкуле да І тома "Паэзіі". Паэт тлумачыць тэрмін "рамантызм", робіць экскурс у гісторыю літаратуры і аналізуе сучасныя яму тэндэнцыі ў еўрапейскай літаратуры. Акрамя таго, у кнізе змешчана балада "Рамантычнасць" - паэтычны маніфест рамантызму. Міцкевіч, цытуе ў эпіграфе Шэкспіра: - *Methinks, Isee... Where? In my mind's eўes ( — Здаецца, што бачу... — Дзе? — Перад вачыма душы маёй),* "пераадкрывае", пераасэнсоўвае паняцце "вока душы, зрок душы". Дзяўчына Каруся - гераіня балады - удзень бачыць свайго памерлага каханага Яся,

гаворыць з ім. Вакол сабраліся здзіўленыя людзі, а мудрэц пераконвае натоўп, што нікога побач няма. І толькі паэт разумее яе:

*Дзяўчына бачыць, — кажу з дакорам, —*
*Людзі ёй вераць глыбока.*
*Адчуванне і вера мне больш гавораць,*
*Як шкло мудраца і вока.*

*Мёртвыя праўды расказваеш люду:*
*Свет цэлы ў пылінцы знаходзіш, здэцца.*
*Не знаеш жывых праўд — і не ўбачыш цуду.*
*Май сэрца, глядзі ў сэрца!*

[111, с. 26] (Пераклад Н. Тарас)

Падобнае адбываецца і з Пустэльнікам-Густавам з IV часткі "Дзядоў", які ў доме Ксяндза бачыць і размаўляе са сваёй каханай. Аднак Ксёндз, які таксама кахаў і меў жонку (Ксёндз - уніяцкі святар) таксама можа бачыць зрокам душы, што вельмі здзіўляе Пустэльніка-Густава. Ксёндз прамаўляе:

*Таму, чый зрок бяздушшам не прытуплены,*
*Няцяжка разгадаць каханка тайны.*

[117, с. 121] (Тут і далей пераклад паэмы "Дзяды" аўтара даследавання.)

Такі ж "зрок душы" мае Гусляр з II часткі "Дзядоў", які бачыць і заклікае чысцовыя душы на абрад.

Сувязь з першым маніфестам відавочная, таму паэму "Дзяды" можна разглядаць як спробу напісання другога маніфесту, бо мала мець "зрок душы", трэба яшчэ навучыцца "карыстацца" ім, іншымі словамі, трэба навучыцца ўплываць на свет душаў людзей. І гэта задача найгалоўнейшая для паэта-рамантыка.

У НІ частцы "Дзядоў", у "Вялікай імправізацыі", напісанай прыкладна праз дзесяць гадоў пасля II і IV частак, Конрад (новае пераўвасабленне Густава), знаходзячыся ў зняволенні, можа, дасягнуўшы азарэння, адным паглядам спыніць лёт птушак, убачыць праз сцены спробу самагубства маладога патрыёта Ралісона. І нават ліхі дух не можа вырваць у яго "вока душы", "бо мацнее вока".

Важна адзначыць, што, паводле тэксту паэмы, такія здольнасці чалавеку мог надаць на абрадзе Дзядоў Гусляр, які з дапамогай **песні** і **веры** кіруе непрыкаянымі душамі. Так, у фрагментах І часткі, што былі надрукаваны пасля

смерці Міцкевіча, Гусляр прамаўляе словы, якія можна ўважаць за ключавыя ў творы:

*З **песняй, верай** — на сцяжыну*
*Пойдзем, хто жыве ў адчаі,*
*З думай цяжкай ці ўспамінам.*
[117, с. 197]

Гусляр у час абраду Дзядоў нават можа выклікаць душу жывога чалавека, праўда, яна няздатная адказваць на яго пытанні ці просьбы, ды і ён не можа ў поўнай меры кіраваць ёю. Гэтак у IX сцэне III часткі Гусляр кажа:

*Зрэдчас на духаў зграмаджэнні*
*У ноч Дзядоў абраным людзям*
*Жывых магчыма вызваць цені.*
*На балю шумным цела будзе,*
*На гульбішчы, на полі бою,*
*Там застанецца у спакоі, —*
*Душа па імені названа*
*Аб'явіцца празрыстай зданяй,*
*І вуснаў быццам бы не мае,*
*Стаіць здранцвелая, нямая.*
[118, с. 275-277]

Міцкевіч у прадмове да II часткі "Дзядоў" называе Гусляра "валхвяцом (жрацом) і паэтам". Менавіта спалучэнне "зроку душы" (уласцівасць валхвяца) і песні (уласцівасць паэта), у час найвялікшага азарэння (што і адбываецца ў час абраду Дзядоў) можа даць слову чалавека тую неверагодную моц, з дапамогай якой можна было кіраваць душамі не толькі продкаў, але жывых людзей і можа скіраваць іх, жывых людзей, на подзвігі дзеля ідэалаў дабра, справядлівасці, свабоды.

"Пранікненне ў тое, што адбываецца ў парыве азарэння, - казаў Міцкевіч, - складае аснову мастацтва" [53, с. 420]. Менавіта тады мастацтва можа авалодаць думкамі і душамі людзей. Конрад у "Вялікай імправізацыі" - у час найвялікшай моцы натхнення - усклікае:

*Уладай, што я над Прыродай маю,*
*Хачу абняць людскія душы,*
*Шлях птушкам, зорам лёгкім жэстам вызначаю,*
*Людзьмі таксама кіраваць я мушу...*

І, звяртаючыся да Бога, ён прамаўляе:

*Калі дасі мне ўладу, роўную Тваёй,*
*Я свой народ ствару, як песню трапяткую,*
*І больш вялікае, чым Ты зраблю я дзіва —*
*Бо песня будзе назаўжды шчаслівай!*

[118, с. 89]

Паэма "Дзяды", відавочна, захоўвае ў сабе праграму станаўлення рамантычнага героя, ставіць агульнагуманітарную задачу маральна-эстэтычнага кіравання сусветам, які складаецца з антыноміі свету рэальнага і метафізічнага. Гэта дазваляе разглядаць твор як мастацкі маніфест пакалення, дзе паказваецца ўзор светаўспрымання і мэты імкнення для людзей "новага часу". "У "Дзядах", - адзначае беларуская даследчыца літаратуры С. Мусіенка, - зыходзяцца ў фокус сутнасныя рысы ўсёй творчасці Міцкевіча: рамантычны герой, фальклор, абрады, якія выкарыстоўваюцца аўтарам, захоўваючы нацыянальны, а часам і рэгіянальна-мясцовы характар, набываюць касмічнае вымярэнне" [130, с. 57].

Густаў-Конрад - носьбіт культуралагічнага базіса, створанага і захаванага беларускім (ці літоўска-рускім паводле тэрміналогіі аўтара) народам, пры тым, падтрымку ў яго знаходзяць імкненні як сялян, так і шляхты, ён сэрцам успрымае веру продкаў, што складаецца са спалучэння царкоўнай традыцыі і беларускіх вераванняў, і чэрпае адтуль светапоглядныя перакананні. Безумоўна, яны суадносяцца са старажытнаславянскай і грамадзянскай (рэчыпаспалітаўскай) самаідэнтыфікацыйнай платформай. Аднак пачатак узыходжання яго ад "запаленца"-юнака да "ўладара душаў" бачны ў феномене беларускага Гусляра, які не толькі адкрывае юнаку "вока душы", але і сваім прыкладам індуктара паміж светам рэальным і метафізічным натхняе яго на самаўдасканаленне, на пошук шляху да вышэйшага азарэння.

Акрамя таго, можна вылучыць некалькі партыкулярных элементаў, што служаць для раскрыцця этна-культурнай прыналежнасці галоўнага героя Густава-Конрада (прататыпа самога аўтара):

- усе падзеі, звязаныя з ім, у паэме лакалізаваны на тэрыторыі яго радзімы (апрача "Урыўка" да паэмы, у якім супастаўляецца Расія з радзімай Густава-Конрада);

- паэма абапіраецца на хроніку нядаўняга мінулага;

-большасць персанажаў мае сваіх дакладных прататыпаў - жыхароў земляў былога Вялікага Княства Літоўскага;

- у польскай мове героя выяўляюцца рэгіянальныя рысы: яго мова насычана беларускай лексікай.

Густаў-Конрад - ураджэнец літоўска-рускіх (беларускіх) зямель, ён добра ведае народныя песні і паданні, шануе старажытныя беларускія вераванні, цікавіцца гісторыяй краю і краіны. У сукупнасці, галоўны герой паэмы "Дзяды", незалежна ад яго грамадзянскай пазіцыі - патрыёта Рэчы Паспалітай, выступае' як носьбіт рэгіянальнага аспекту ўспрымання рэчаіснасці. Тым самым ён - прыклад перш-наперш для сваіх землякоў.

Партыкулярнасць паэмы - апісанне мясцовых краявідаў і рэальных падзей; выяўленне ў ёй пачуццяў, мараў і жаданняў прадстаўнікоў сучаснага аўтару пакалення; ужыванне беларусізмаў; выкарыстанне фальклору і вераванняў беларусаў, - ускрывае заканамерную сувязь паміж лакальным (унікальным) і універсальным. Дэманструе пошук незвычайнага (фенаменальнага) ў звычайным (элементарным), што, безумоўна, асабліва важна для паэта-рамантыка. Польскі міцкевічазнавец З. Стэфаноўская, пішучы пра "Дзяды" Міцкевіча, заўважае: "Напружанасць паміж партыкулярным і універсальным можа стаць панадным фактарам у паэтычнай мове твора" [118, с. 471].

Відавочны філасофскі падмурак паэмы: класічная нямецкая філасофія, ідэі тэарэтыкаў рамантызму Ёгана Фіхтэ, Вільгельма Шэлінга, братоў Фрыдрыха і Вільгельма Шлегеляў. На філалагічныя працы апошняга Міцкевіч абапіраўся, пішучы свой уступны артыкул да I тома "Паэзія" - "Пра рамантычную паэзію". Вядома, што Міцкевіч наведваў лекцыі Гегеля.

У "Дзядах" Міцкевіч развівае рамантычную канцэпцыю свету, распрацаваную нямецкімі філосафамі. Свет разглядаўся як суцэльнасць, пабудаваная на антыноміях бачнага і прыхаванага. Гэта перакананне грунтавалася як на ідэалістычнай філасофіі (дакладней *спірытуалістычнай),* так і на аснове назірання над народнымі вераваннямі і міфамі.

Разуменне свету як антынамічнай сукупнасці стала вызначальнай адзнакай рамантычнага мыслення. Да найчасцей экспанаваных антыномій у рамантызме можна аднесці: дух і матэрыя, дабро і зло, пачуццё і розум, каханне - здрада, "маладыя" і "старыя", "вонкавае" і "ўнутранае", дол - горы, зямля - неба, "жывое"-"мёртвае", народ - манархічны ўрад (кароль, цар), пакрыўджаныя - крыўдзіцелі, адзінка - натоўп і г.д.

Як правіла, сінтэзуе ў сабе гэтыя антыноміі чалавек - прадстаўнік народа, абранец, герой, здольны воляю спалучыць гэтыя антыноміі ў сваім духу, ад чаго ён становіцца мацнейшым - набывае геніяльнасць. Зносіны паміж сферай ідэальнага і чалавекам адбываюцца з дапамогай незвычайных з'яў прыроды, сноў, знакаў звыш, прадбачанняў, пачуццяў. Але толькі чыстаму, несапсаванаму

цывілізацыяй і чалавечымі заганамі герою можа адкрыцца сфера духоўнага - у гэтым можна разглядаць асновы рамантычнай маралі: Чалавек будзе моцным і шчаслівым, толькі калі ён духоўна гарманічны.

Адсюль паважнае стаўленне рамантыкаў да індывідуальных рысаў чалавека. Такая цікавасць вяла ў глыбіні псіхікі, ускрывала некаторыя працэсы свядомасці і падсвядомасці. Абганяючы навуковыя веды, рамантызм выявіў шматлікія псіхафізічныя працэсы чалавека. Былі апісаны разнастайныя эмоцыі чалавека. Апрача таго, рабіліся спробы зразумець не толькі ўнутраны свет чалавека, але і выйсці з антрапалагічных межаў, узняцца разам з духоўнай абалонкай чалавека ў свет душы, ствараць душою. Менавіта рамантыкі першай паловы XIX ст. адчулі волю і імкненне да новага акту мастацтва. Як заўважае польскі даследчык М. Кузяк: "Неабходна памятаць, што для рамантыкаў літаратурная дзейнасць набірае вартасці эстэтычныя і антрапалагічныя, пераўтвараецца ў светапоглядныя кшталты, а не толькі выступае, як збор пэўных норм, якія неабходна рэалізаваць падчас творчага акту" [201, с. 352]. Гэта абумоўлівае вялікую ўвагу, якую надавалі пісьменнікі-рамантыкі імправізацыі, дзе літаратура выступае інструментам, з дапамогай якога фіксуюцца і робяцца спробы аналізу "рухаў душы" - імкненняў і жаданняў асобы чалавека - у дадзеным выпадку самога творцы, адбываецца адначасовы працэс самадаследу і самаідэнтыфікацыі сябе ў свеце. У паэме "Дзяды" маюцца некалькі імправізацыі а II сцэна HI часткі цалкам аддадзена гэтаму літаратурнаму жанру, яна вядома ў літаратуразнаўстве, як "Вялікая імправізацыя", што стала прыкладам і крыніцай маральна-эстэтычных ідэй для сучаснікаў Міцкевіча і наступных пакаленняў творцаў.

Адным з важнейшых дасягненняў рамантызму было асэнсаванне народа як аўтаномнага індывідуума ў чалавецтве, што павяло за сабою вывучэнне фальклору, вераванняў, гісторыі, а таксама спружынілася да апісання, так званай "душы народа", што цяпер часткова ўваходзіць у паняцце менталітэт. Стала відавочна, што спецыфіка асобнага народа залежыць не толькі ад геаграфічнай прасторы, якую ён займае, не толькі ад ладу яго жыцця, але і ад духоўных багаццяў, назапашаных і перададзеных з пакалення ў пакаленне.

Гэтыя ідэі нямецкіх філосафаў былі развіты і на "жывым" прыкладзе беларускіх вераванняў, прадэманстраваны ў паэме "Дзяды".

Акрамя філасофскага еўрапейскага кантэкстуальнага поля, пры асвятленні праблемы генезісу "Дзядоў" варта адзначыць моцны агульналітаратурны кантэкст: традыцыі антычнай, біблейскай і сярэдневяковай еўрапейскай літаратуры адбіваліся на фарміраванні тэкставай прасторы паэмы.

Таксама вызначаецца група еўрапейскіх пісьменнікаў, больш блізкіх па часе аўтару "Дзядоў", чыя творчасць паўплывала на інспірацыю паэмы.

Геаграфія імёнаў даволі шырокая. Але ёсць шэраг твораў, якія выступаюць своеасаблівымі прадвеснікамі паэмы. Ці наўпрост, ці ўскосна Міцкевіч абапіраецца на іх, выбірае пэўныя ідэі і развівае іх.

Да такіх твораў неабходна аднесці раманы "Юлія, альбо Новая Элаіза" Ж.-Ж. Русо і "Пакуты маладога Вертэра" Ё. В. Гётэ, драмы "Разбойнікі" Ф. Шылера і "Манфрэд" Дж. Г. Байрана, а таксама першую частку "Фаўста" Ё. В. Гётэ. Асобна трэба сказаць пра паэму "Карсар" Дж. Г. Байрана.

Акрамя апошняга твора, усе маюць драматургічную аснову (згаданыя раманы ўяўляюць сабой лісты герояў, якія пэўным чынам можна лічыць маналогамі або дыялогамі). Драматургічнасць дазваляла праз самавыказванні герояў паўней раскрыць іх унутраны свет.

Міцкевіч паказвае, як уплывалі на станаўленне Густава героі гэтых твораў. Характэрныя радкі з IV часткі "Дзядоў" - Пустэльнік-Густаў бярэ кнігі, што стаяць у шафе, і пытаецца:

*Жыццё нябеснай Элаізы, ксёнжа, знаеш?*
*А Вертэра агонь і слёзы?*
[117, с. 85].

Пасля Густаў гартае адну кніжку і здзіўленні прамаўляе:

*Wszakże lubisz książki świecki...*

*Ach, te to książkie* ***zbójeckie!***

У нашым перакладзе:

*Аднак жа любіш кніжкі свецкія, зямныя?*
*Але ж* ***разбойныя*** *усе кніжкі тыя!*
[117, с. 86-87]

За словам *zbójeckie (разбойныя)* хаваецца намёк на драму Ф. Шылера "Разбойнікі".

Далей па тэксце паэмы, калі Пустэльнік-Густаў пазнае дом, дзе ён знаходзіцца, і яго гаспадара, то з горыччу і гневам канстатуе, што Ксёндз, былы яго настаўнік, вінаваты ў цяперашнім гаротным стане свайго найлепшага вучня:

*Хто вінаваты, маю права я спытаць,*
*І адкажу, што ты, бо навучыў чытаць!*
*І кнігі мне дзівосныя даваў чытаць!*
*І пеклам для мяне зямлю зрабіў і раем.*
[117, с. 137]

Гэтымі словамі Густаў прызнаецца, што цяпер ён духоўна звязаны з героямі тых кніг, ён успрыняў іх ідэалы і светапогляд і таксама, як і яны, мае вельмі супярэчлівае стаўленне да навакольнага свету.

Супастаўляючы героя "Дзядоў" з героямі гэтых твораў, можна вызначыць пэўную заканамернасць. Густаў, як і Юлія (Новая Элаіза), мае незвычайную моц пачуццяў, але ж гісторыя кахання яго падобная да кахання Вертэра. Вертэр - самагубца, і Густаў здзяйсняе акт самазабойства, але застаецца жывы, бо перад намі, аказваецца, быў не сам герой, а яго дух, што прыйшоў у родныя мясціны з папераджальнымі маральна-павучальнымі мэтамі. Менавіта гэтыя мэты збліжаюць Густава ў фінале IV часткі з Карлам Маарам - героем "Разбойнікаў" Шылера, у якога абавязак вышэйшы за каханне і само жыццё. У III частцы Конрад (пераўвасоблены Густаў) ужо больш падобны да байранічнага героя. З аднаго боку, гэта самотны геній Манфрэд, а з другога - дзейны, няўрымслівы герой-карсар. Можна адзначыць некалькі супадзенняў - у II частцы "Дзядоў" і "Манфрэдзе" Байрана адзін і той жа эпіграф, узяты з "Гамлета" Шэкспіра:

*There are more things in Heaven and Earth,*
*Thun are dreamt of in yur philosophy.. .*[3]

а герой паэмы "Карсар" носіць тое самае імя, якое абраў сабе для далейшага жыццёвага шляху Густаў - Конрад.

Існуе выказванне Міцкевіча пра паэму Байрана "Карсар", зробленае яшчэ да напісання III часткі "Дзядоў", якое ў пэўнай ступені раскрывае і псіхалагічныя рысы Конрада: "Што ў апошні час прываблівала ўвагу Еўропы ў галіне палітыкі? Усеагульная і доўгая вайна, звяржэнне вялікім народам усіх старых законаў і забабонаў, адзін чалавек, што змог узвысіцца, дзякуючы ўласнай моцы, і падпарадкаваць шматлікія народы. Такая карціна навеяла не аднаму філосафу смутнейшыя думкі аб чалавецтве і аб той уладзе, якую можа займець адзін моцны і геніяльны чалавек. Гэта і складае асноўную ідэю эпічных паэм Байрана. Дарэчы было заўважана, што некаторыя рысы Карсара былі спісаны з партрэта Напалеона" [209, с. 252].

**[3] Ёсць болей з 'яў на свеце,друг Гарацый,**
**чым сніцца філасофіі тваёй (Пераклад Ю. Гаўрука).**

Згадкі пра Напалеона прысутнічаюць у III частцы "Дзядоў", як Карсар Байрана, як вялікі імператар, Конрад Міцкевіча зняволены, але ж гэта толькі загартоўвае яго, бо ён дае веры добраму духу, які кажа:

*О, людзі! Кожны з вас, самотны і замкнёны,*
*Мог вераю і думкай зруйнаваць бы троныI*
[118, с. 29]

У вобразе Конрада Міцкевіч пераасэнсоўвае байранічнага героя. Яго сум аўтар "Дзядоў" напаўняе імкненнем да "ўлады душаў", прагаю паэтычнага натхнення, пошукам моцы слова. Аднойчы на лекцыі ў Калеж дэ Франс Міцкевіч прамовіў, што "найвышэйшыя паняцці спірытуальнай філасофіі могуць быць выказаны моваю даступнай" [202, с. 75], а гэта значыць, што магчыма знайсці славесную формулу, якая адкрые нябачныя далягляды метафізічнага свету.

А самоту байранічнага героя Міцкевіч замяніў прадстаўніцтвам мільёнаў:

*Імя маё мільён, бо за мільёны*
*Люблю і мукі я трываю...*
[118, с. 95]

Манфрэд - ідэальна самотны герой, і ні Фея, ні магутны д'ябал Арыман, ні яго каханая не могуць разарваць гэту самадастатковую адзіноту. Такі ж самы самотны Карсар, праўда, болей аддадзены сваёй абранніцы, а калі тая памірае, ён проста знікае, цалкам аддаўшыся сваёй самоце. Конрад жа ўвесь у радзіме, яго самота напоўнена тысячамі былых і будучых пакаленняў. Тым самым Міцкевіч перастварае вобраз байранічнага героя, узмацняе яго патрыятызмам. Немалаважная дэталь, што дзеянне паэмы Міцкевіча адбываецца не ў экзатычных краях, як у "Карсары" ці "Манфрэдзе", а ў ваколіцах, з дзяцінства знаёмых аўтару і галоўнаму герою паэмы. Міцкевіч рамантызуе прастору родных яму мясцін, чым сцвярджае, што моцы духу можна дасягнуць не дзесьці ў заморскіх далячынях, а ў сябе на радзіме.

Зусім іншыя тыпалагічныя сувязі назіраюцца паміж паэмай "Дзяды" і "Фаўстам" Гётэ. (Вышэй мы ўжо закранаралі тэму супастаўлення "Фаўста" і "Дзядоў".) Непасрэднае, фабульнае судакрананне заўважаецца толькі ў фрагментах I часткі "Дзядоў", дзе ў баладзе "Зачараваны юнак" мы бачым вобраз чарнакніжніка Твардоўскага, да якога Міцкевіч звяртаецца і ў жартаўлівай баладзе "Пані Твардоўская".

Пана Твардоўскага ў пэўнай ступені можна лічыць польскім і літоўска-рускім (беларускім) аналагам Фаўста, напрыклад, паводле Яна Баршчэўскага, пан Твардоўскі пэўны час жыў у Полацку і там меў у сваім падпарадкаванні д'ябла [15, с. 202]. А як непасрэдны прадстаўнік інфернальнага ў фрагментах І часткі выступае Чорны Паляўнічы. Яго вобраз хутчэй за ўсё быў узяты з оперы Вэбера "Вольны стралец", дзе таксама дзейнічае Чорны Паляўнічы Саміэль, адзін з правобразаў Мефістофеля Гётэ. Густаў, што аднойчы заблукаў у лесе, раптам сустракаецца з невядомым паляўнічым. І той, як выяўляецца, ведае яго сардэчную тайну. Але ж Густаў не давярае незнаёмцу і спыняе таго выкрыкам:

*...Стой! Не падыходзь! Стой дзе стаіш!*

[117, С.219]

Болей прадстаўніка інфернальнага, што мог бы прэтэндаваць на ролю праведніка Густава-Конрада, мы ў паэме не бачым. У адрозненне ад усяведнага Фаўста, Густаву-Конраду непатрэбны спакусы ці перакананні ў цікавасці свету. Яму не трэба ні даследаваць, ні выкрываць, ні высмейваць заганы чалавецтва і чалавека: ён іх бачыць, не трэба таксама сачыць за прыўкрасамі жыцця і шукаць "цудоўнага імгнення". Густаў-Конрад цвёрда ведае, **што** яму трэба паспець зрабіць, і сам ідзе да ўзвышэння свайго духу. У Густава-Конрада было каханне, прызначанае Богам, у яго ёсць Радзіма, за якую трэба змагацца, у яго ёсць мэта - знайсці шлях да "ўлады душаў", падкрэслім, да справядлівай улады душаў. Таму прадстаўнікі ліхіх сіл не могуць нічога прапанаваць Густаву-Конраду, яны для яго слабыя, бо прапанаваныя ім спакусы непатрэбныя яму. Ліхія сілы змагаюцца за яго душу толькі тады, калі той знаходзіцца ў непрытомным стане, але і тут яны відавочна прайграюць светлым духам ці набожнаму ксяндзу Пятру.

Толькі сам Бог, які кіруе ўладай душаў, можа быць роўны і неабходны творцу.

Ролю праведніка па свеце рэальным і метафізічным у паэме папераменна адыгрываюць у І і ІІ частках - Гусляр, у IV - Ксёндз-настаўнік, у ІІІ - Ксёндз Пётр, ва Урыўку - мастак Аляшкевіч, якога за яго цікавасць да кабалістычнага вучэння таксама называюць гусляром. Фактычна шлях Густава-Конрада да пазнання таямніц азарэння ідзе ад Гусляра - народнага паэта і валхвяца праз уніяцкага прапаведніка і набожнага каталіка Ксяндзя Пятра да зноў-такі Гусляра - "вучонага валхвяца", масона, кабаліста, даследчыка Бібліі, які ўмее "выклікаць духаў" і які напрыканцы паэмы робіць прароцтва вялікіх бураў і пераменаў.

Пэўным чынам да інфернальнага ў паэме "Дзяды" можна аднесці вобраз Пецярбурга і яго заснавальніка - Пятра І.

*Раскажа дойлід прыказку такую:*
*Людзьмі быў Рым адвечны збудаваны,*
*Багі ўзнялі Венецыю марскую,*
*Але хто бачыў Пецярбург - адчуе,*
*Яго паставілі, хіба, шатаны...*
[118, С.315]

Гэта адзначае М. Эпштэйн. У сваёй працы "Царь Пётр на берегу Невы" даследчык з дапамогай праекцыі паэмы "Медны коннік" на II частку "Фаўста" Гётэ і "Урывак" да HI часткі паэмы "Дзяды" Міцкевіча (твораў, напісаных прыкладна ў адзін час) раскрывае двухпланавасць вобраза Пятра I у Пушкіна - Два пачаткі: мефістофелеўскі і фаўстаўскі. З аднаго боку - дэманічная моц і падступнае імкненне - збудаваць горад на балоце, дзе непазбежныя паводкі, як бясконцая кара роду чалавечаму, а з другога - фаўстаўская прага пераўтварэння небяспечнага абшару ў падуладны сіле і розуму чалавека горад. Дыялектычны вобраз Пятра I у Пушкіна супрацьпастаўляецца адмоўна-дэманічнаму аднапланаваму вобразу Пятра I у Міцкевіча. Насамрэч, цар Пётр паўстае ў Міцкевіча то ў антычалавечым абліччы, па загаду якога ўбіваюцца ў дрыгву тысячы драўляных паляў, і ў працэсе гінуць тысячы паднявольных людзей, то ў гратэскавым выглядзе злоснага цара, што стрыжэ бароды баярам, каб "уз'еўрапеіць" Расію. Аднак за аднапланавасцю, катэгарычна-адмоўным вобразам Міцкевічавага Пятра I праступае далёкасяжная светапоглядная пазіцыя аўтара "Дзядоў", ураджэнца Вялікага Княства Літоўскага, спадкаемца ідэй шляхецкай дэмакратыі. Апрача таго, паводле маральных перакананняў, узятых Міцкевічам з беларускіх Дзядоў, не дэманічны прымус аднаго чалавека над другімі вядзе да ўпарадкавання свету, а толькі гарманічнае суладдзе свету рэальнага і свету душаў (сукупнасць маральна-якасных уласцівасцей народу цалкам і асобнага яго прадстаўніка). I тое, чым захапляўся ў Пятры I Пушкін, бянтэжыла і выклікала непрыняцце ў Міцкевіча, бо ніводнаму чалавеку, у якога ўласная асоба грунтуецца на гарманічнай і моцнай душы, ніводнаму народу, у якога сувязь са светам душаў не перарываецца, не патрэбны "дэспат-узрушальнік". Бо ўся мефістофелеўская ліхая моц Пятра I і ўся рацыянальная фаўстаўская прага ўсё роўна слабейшыя за вечнасць і моц душы. Усклікнуў жа Конрад (прататып самога Міцкевіча) да Бога:

*Са мной бой будзе больш крывавы, чым з шатанам.*
*За розумы ён біўся, мне ж патрэбны сэрцы!*
[118, с. 93]

Так, асобе і народу патрэбна дапамога ў выглядзе прыкладу ўзвышэння духу, але не ў выглядзе дэспатычнага ўціску. Ні Мефістофель і ні Пётр I, а гусляр - паэт і валхвец - вось той прыклад. Менавіта таму Аляшкевіч, якога Міцкевіч таксама называе гусляром, робіць страшнае прадказанне для расійскай сталіцы і імперыі:

*Другое будзе прысуду здзяйсненне,*
*Бог разнясе падмуркі Вавілону,*
*І асірыйскага астоі трону,*
*А трэцяе, не дай Бог бачыць часу.*
[118, с. 369]

Гэтае прадказанне прыводзіць М. Эпштэйн як факт непрыняцця Міцкевічам велічнасці дзяржаўнай пабудовы імперыі, якой захапляўся Пушкін. Разумеючы прароцтва Аляшкевіча толькі як прадчуванне паводкі, своеасаблівага сімвала апакаліпсіса, Эпштэйн піша: "У Міцкевіча гэта (паводка - С.М) прадказана, у Пушкіна гэта выяўлена. Народ у паэме ("Медны коннік" - *С.М.)* "зрит, бежит и казни ждет" [170, с. 59]. Але ж з нашага боку трэба дадаць, што словы прароцтва адносяцца не так да паводкі, якую Пушкін, паводле ўласнага прызнання , вырашыў паказаць "больш верна, хаця і без яркіх колераў" [135, с. 150], як да будучага ўзрушэння. Паводка ў Міцкевіча і ёсць самім прароцтвам, знакам, які расшыфроўвае "гусляр" Аляшкевіч. Гэта папярэджанне, што з часам страшэнны патэнцыял душэўнай дысгармоніі ўнутры дзяржаўнай пабудовы Расійскай імперыі прывядзе, як прадказваў Міцкевіч, да больш моцнай катастрофы, якую і бачыць будзе страшна.

Далей М. Эпштэйн адзначае: "Лёс сваёй нацыі бачыцца яму (Пушкіну - *С.М.)* як гістарычнае пераўтварэнне фаўстаўскага ў мефістофелеўскае, як перамогу велічнага дзяржаўнага ладу, аб'яднальнага парадку, чым можна смела ганарыцца (гэтага, на жаль, не дадзена Міцкевічу), і крушэнне асабістага пачатку, правоў на прыватнае жыццё, чаму трэба жахацца (ад гэтага, на шчасце, пазбаўлены Гётэ). Паэма Пушкіна двухбаковая, абдымае абодва настроі, выказаныя асобна Гётэ і Міцкевічам. Пушкін выкарыстоўвае мастацкае двухгалоссе: аўтар - герой - у якасці дакладнай адпаведнасці гістарычнай двухсветавасці: цар - падданы. Нельга прымаць за поўную праўду ні хвалу аўтара Пятру, ні зняслаўе героем Пятра, бо аўтару як стваральніку натуральна быць салідарным з царом-стваральнікам, а герою як асобе выдуманай і падпарадкаванай належыць наракаць на стваральніка і гаспадара. Таму заканамерна, што голас Пушкіна - творцы паэмы - услаўляе Пятра, творцу Пецярбурга, а голас Яўгенія, створанага персанажа, "твари", кляне

звышчалавечую моц цудатворнага будаўніка" [170, с. 63]. Фактычна, даследчык за "двухгалоссем" паэмы "Медны коннік" міжволі паказвае і двухаблічнасць аўтара, самога падданага цару, які з захапленнем прымае "велічнасць" іерархічнай пабудовы свету і не ідзе далей "двухгалоснай" канстатацыі такой гістарычнай "двухсветавасці: цар - падданы". У Міцкевіча таксама знаходзім гістарычную адпаведнасць "двухсветавасці: гаспадар - ладанны", можна хаця б узгадаць трагічны вобраз дзяншчыка ва "Урыўку", што замерз у полі на футры пана, бо не наважыўся парушыць загад і сысці з таго месца. Міцкевіч не можа прымаць і згаджацца, а тым больш услаўляць такі стан рэчаў:

*Бядак слуга!Твой подзвіг, смерць — найначай —*
*Заслуга псу, а чалавеку грэх,*
*Табе пашанай будзе панскі смех,*
*Што верны быў да скону па-сабачы.*
*Бядак-слуга! Душа не перастане*
*Аплакваць твой учынак і старанне,*
*Шкада мне вас, гаротныя славяне,*
*Нямы народ, тваёй шкада мне долі,*
*Ты знаеш толькі гераізм няволі.*
[118, с. 362]

Нават да Творцы творцаў - Бога - Конрад у "Вялікай імправізацыі" спрабуе кінуць: "Ты не бацька свету, але... цар", аднак вымавіць апошняе абразлівае для Бога слова не стае моцы, за яго гэта робіць ліхі дух. Беларускі латаратуразнавец А. Бураў, супастаўляючы "Дзяды" і "Фаўста", заўважае: "Выпрабаванне галоўных герояў адзначаных твораў абумоўлена сутыкненнямі святла і цёмных пачаткаў (Бога і Мефістофеля, станоўчага і адмоўнага бакоў у душы героя "Дзядоў")" [28, с.45]. На нашу думку, у выпадку з Густавам-Конрадам выпрабаванне героя абумоўлена не так "сутыкненнем станоўчага і адмоўнага бакоў" яго душы, як супрацьпастаўленнем яго ўнутранага свету і свету вонкавага. Міцкевіч вуснамі свайго героя з сумам і трывогай адзначае злавеснасць гістарычна складзенага несправядлівага парадку - "скарузлай і нетрывалай пабудовы свету", што можа прывесці да неверагодных катаклізмаў. Уладзімір Конан, параўноўваючы паэмы Гётэ і Міцкевіча, робіць выснову: "Міцкевічавы "Дзяды" бліжэй да "Фаўста" Гётэ, чым да традыцыйнага эпасу. Тут ёсць універсальнасць, сінтэз паэтычных тэмаў і медытацыяў А. Міцкевіча, рэквіем па героях, усведамленне трагізму людской гісторыі, прадбачанне сусветных войнаў і прароцтва яднання народаў у будучым царстве Духу" [74,

с.371]. Можна сцвярджаць, што прадчуванні Міцкевіча і прароцтва, укладзенае ў вусны "гусляра" Аляшкевіча, шмат у чым у XX стагоддзі спраўдзіліся.

Несумненна, разгляд кантэкстуальнай сувязі "Фаўста" і "Дзядоў" паглыбляе разуменне аўтарскай задумы паэмы Міцкевіча, яе наватарства і стылю, прыадкрывае праблемы псіхалогіі творчасці. У сувязі з гэтым Жорж Санд пра "Дзяды" Міцкевіча пісала: "...карціна такая, што ні Байран, ні Гётэ, ні Дантэ не маглі б іх намаляваць... І нават сам Міцкевіч, быць можа, меў толькі адну хвілю ў жыцці, калі яго наведала напраўду звышпрыроднае натхненне..." [175, с. 104].

Як яшчэ пры жыцці Адама Міцкевіча заўважыла Жорж Санд, асобным магутным кантэкстуальным фонам для паэмы "Дзяды" выступае "Боская камедыя" Дантэ, якая для рамантыкаў лічылася базавым паэтычным першаўзорам. Міцкевіч сам пераклаў на польскую мову некалькі фрагментаў з "Боскай камедыі".

У паэме "Дзяды" Міцкевіч па-свойму пераўвасабляе дантаўскую стратэгію пазнання ўзаемасувязі свету-іншасвету. Праваднік Дантэ ў пекла - паэт Вергілій, праваднікам героя паэмы "Дзяды" Густава ў чысцец, які падаецца, паводле народных беларускіх уяўленняў, у свет пакутных душаў, як мы адзначалі вышэй, спачатку становіцца Гусляр - паэт і валхвец, пасля гэта роля пераходзіць да Ксяндза-настаўніка, а затым - да Ксяндза Пятра і нарэшце - да мастака-містыка Аляшкевіча, чарнакніжніка, "гусляра-чараўніка". Густаў-Конрад імкнецца як быццам паўтарыць праз зямныя выпрабаванні Дантаў шлях, каб самому стаць, падобна Вергілію, праваднікам у свет душаў і, нават болей, - атрымаць з дапамогай пачуццёвага слова ўладу над душамі. І шлях гэты герою "Дзядоў" наканаваны. З IV часткі "Дзядоў", аўтабіяграфічнай для Міцкевіча і біяграфічнай для Густава-Конрада, мы даведваемся, што ў юнацтве ён меў свайго праваднік ў рай: як у Дантэ - гэта каханая Беатрычэ, так у Густава-Конрада - гэта Марыля. Але ж логіка развіцця падзей, храналогія жыцця - што з'яўляецца адной з Дантавых універсалій - непахісная: для таго, каб трапіць у рай, спачатку трэба спусціцца ў пекла. Таму дадзенае нябёсамі каханне Густава, калі "адна зорка заззяла над імі", "калі яны былі злучаныя ланцугом прызначэння", калі "адно і тое ж думалі, любілі", "адно і тое ж сэрцы захапляла", ёсць і першым выпрабаваннем, і паваротным пунктам для самапазнання і вызначэння ўласнага жыццёвага кірунку. Для моцнага духам чалавека - выбару няма, і нават самазабойства, якое імітуе Густаў ці ўяўляе наяве, не прынясе паратунку ад лёсу (гэта яго адрознівае ад гётэўскага Вертэра і ад пазнейшага Эдмунда, героя драмы "Апантаны" В. Дуніна-Марцінкевіча). Апошнія словы Густава, у якіх чуюцца адбіткі Дантавай маральнай канстанты, сведчаць пра гэта:

*Слухайце, зважайце ў сябе лепей,*
*Так паводле Божага наказу,*
*Хто да смерці пабываў на небе,*
*Мёртвы ў неба трапіць не адразу.*

Хор, які першы і апошні раз з'яўляецца ў IV частцы і які па аналогіі з II і I часткамі можа складацца з усіх дзеючых асоб - людзей і духаў - паўтарае гэтыя словы са зменай асобы дзеяслова:

*Слухайма, зважайма ў сабе лепей,*
*Так паводле Божага наказу,*
*Хто да смерці пабываў на небе,*
*Мёртвы ў неба трапіць не адразу.*
[117, с. 181]

Згодна з першапачатковай задумай аўтара, гэта мусілі быць заключныя словы паэмы. Шляхам ад процілеглага Міцкевіч прыводзіць чытача-слухача - рэцэпіента паэтычнага тэкстасвету - да перашапачатку, быццам прапануючы паўтарыць для самога сябе яго шлях і на сабе выпрабаваць справядлівасць Дантавай маральнай формулы.

Варта адзначыць яшчэ адну літаратурную крыніцу, з якой жывіўся Міцкевіч пры напісанні "Дзядоў". Гэта - творчасць філаматаў і філарэтаў. Сваёй дзейнасцю па даследаванні і апрацоўцы этнаграфічнага матэрыялу яны назапашвалі той эстэтычны патэнцыял, які праявіўся ў паэзіі Міцкевіча. Асабліва трэба адзначыць творчасць блізкага сябра і рэдактара паэмы "Дзяды" Яна Чачота. У яго баладах, напісаных, паводле перакананняў С. Свіркі, у 1818-1819 гг. [238, С.42], можна прасачыць тыя ж вобразы і матывы, што пасля будуць выкарыстаны і развіты ў баладах Міцкевіча і паэме "Дзяды".

Ужо ў пачатку Чачотавай балады "Наваградскі замак" мы сустракаем краевугольнае паняцце рамантызму - "зрок душы". Аднак Чачот яшчэ не напаўняе яго магутнасцю пазнання і ўзвышэння над светам рэальным і апелюе да павучальнай сентэнцыі прымірэння сэрца і розуму, спадзяецца на веру ў вучоную мудрасць. У Міцкевіча, як было паказана вышэй, усё наадварот.

У паэме "Дзяды" ёсць і прамое запазычанне з балады Яна Чачота "Узногі". Гаворка ідзе пра злоснага пана, які жорстка сёк розгамі сялян за тое, што яны без дазволу збіралі ягады і грыбы ў яго лесе. (У "Дзядах" сяляне збіраюць плады ў панскім садзе.) Аднолькавая кара спасцігае пана-ліхадзея ў баладзе Чачота і паэме Міцкевіча - яго рвуць на часткі птушкі. Праўда, у "Дзядах" вядома, што гэта душы замучаных панам сялян. Фактычна Міцкевіч

выкарыстаў гэты фальклорны сюжэт для ілюстрацыі адной з ідэяў паэмы - вызначэнне разнастайных праяў узаемазалежнасці свету рэальнага і метафізічнага, падпарадкаваных усеагульнаму маральнаму закону.

Балады Яна Чачота з доляй сентыменталізму і дыдактычнасці характарызуюць важны перадрамантычны этап развіцця літаратуры на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Нягледзячы на кароткі часавы прамежак - літаральна два-тры гады (да з'яўлення балад Адама Міцкевіча) ён падрыхтаваў глебу для ўзыходжання і росквіту вялікага рамантызму, што яшчэ каля стагоддзя (да паэм Янкі Купалы) будзе, бадай, ці не асноўным кірункам беларускай літаратуры.

Такім чынам, генезіс паэмы "Дзяды", твора, што стаў квінтэсенцыяй рамантычных ідэй, у большым супадае з вытокамі беларускага рамантызму, вызначанымі К. Лецкам:

- беларускі фальклор і вераванні;
- біблейская традыцыя і рэлігійная літаратура;
- пісьмовая славеснасць сярэднявечча;
- літаратура Асветніцтва і класіцызму. [85, с. 318, 329]

Да гэтага неабходна дадаць антычныя міфы, антычную літаратуру і гісторыю, дзе таксама можна выявіць крыніцы рамантычнага светаадчування, якія ўздзейнічалі на кніжную славеснасць Беларусі, і непасрэдна на стварэнне паэмы "Дзяды". Усё гэта так ці інакш адлюстроўваецца ў тэксце паэмы. Міцкевіч будучы літаратуразнаўцам, безумоўна, увабраў у сваёй творчасці лепшыя элементы папярэдніх літаратурных эпох.

Аднак, як найважнейшыя фактары, што паўплывалі на генезіс паэмы "Дзяды", неабходна азначыць наступныя:

- палітычнае становішча краю (як унутры Расійскай імперыі, так і на знешняй арэне);
- рамантычныя ідэі нямецкай філасофскай школы;
- еўрапейскі літаратурны кантэкст;
- літаратурная сітуацыя ў краі.

## РАЗДЗЕЛ 3

## "ДЗЯДЫ" А. МІЦКЕВІЧА І РАМАНТЫЧНЫЯ ТРЫДЫЦЫІЎ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX - ПАЧАТКУ XX СТ.

"Ён быў для людзей нашага пакалення і мёдам, і малаком, і жоўцю, і кроўю духоўнай. Мы з яго ўсе, Ён падхапіў нас на ўзнятай хвалі свайго натхнення і кінуў у свет..." - пісаў пра Адама Міцкевіча Зыгмунт Красіньскі. (Ліст да Солтана ад 8 снежня 1955 г. [202, с. 228].)

Гэтыя словы можна аднесці і да пісьменнікаў, што распачыналі на радзіме паэта-выгнанніка новую беларускую літаратуру. Творчасць Міцкевіча стала ідэйна-духоўным падмуркам для развіцця і станаўлення ўласнабеларускага рамантызму, які пераўтварыўся ў магутны рухавік усяго літаратурнага працэсу ў краі.

"Калі мы сёння гаворым пра генезіс і традыцыі беларускага рамантызму, - адзначае І. Багдановіч, - то значыць мы гаворым пра традыцыю, ля вытокаў якой стаіць Адам Міцкевіч і якую ён сцвердзіў уласнай творчасцю, увасобіўшы ў рытуальнай польскамоўнасці сутнасную мадэль нацыянальнага (краёва-беларускага і польскага рэчпаспалітаўскага) духоўнага космасу і асаблівасці культурна-гістарычнага быцця народа, да якога этна-генетычна належыў". [6, с. **28]**

Дакладнасць і архетыпічная адпаведнасць "духоўнаму космасу" краю прапанаваных Міцкевічам літаратурна абумоўленых канцэптаў і ўзораў уводзіла ў іх арбіту пісьменнікаў, што ішлі за ім. Яны быццам бы выкарыстоўвалі вынайдзены і апрабаваны Міцкевічам інструментарый, вырашаючы пастаўленыя часам і сацыяльна-палітычнай сітуацыяй новыя творчыя задачы, узбагачаючы і польскую (калі пісьменнік, па тэрміналогіі У. Мархеля, білінгвальны [106, с. 33]), а таксама і беларускую культурную прастору.

Мы пагаджаемся з І. Багдановіч, якая сцвярджае, што "духоўна-эстэтычнае поле Міцкевічава ўплыву было настолькі магутным, што ў ім знаходзіўся так ці інакш кожны з айчынных творцаў. Уплыў праяўляўся ў іх творчасці як алюзіі, рэмінісцэнцыі, наследаванне матываў і вобразаў, як жанравая інварыянтнасць, інтэртэкстуальнасць" [6, с. 30].

Што датычыцца непасрэдна паэмы "Дзяды", то прамыя алюзіі і рэмінісцэнцыі да яе прасочваюцца ў творчасці Я. Баршчэўскага (драматычная паэма "Жыццё сіраты"). Параўнаем мову Анёлаў з II часткі "Дзядоў" Міцкевіча і Духаў дзетак з паэмы Я. Баршчэўскага "Жыццё сіраты":

У Міцкевіча:

А н ё л а к

*...Промні зіхацяць над намі*
*Са світанку камізэлькі,*
*Паглядзі за плечукамі,*
*Як у матылькоў, скрыдэлькі.*
*У раі ўсяго дастатак,*
*Штодня новая забаўка,*
*Дзе ні ступім —ўстане траўка*
*Бліснуць кветак вачаняты...*

II частка "Дзядоў" [117, с. 27-30]

У Баршчэўскага:

Д у х і   д з е т а к

*...Хутка, хутка засвітає*
*Прыйдзе ранак новы*
*Гляньце, хмарка расвітае*
*Як вянок ружовы*

*Дык ляцім, там, на нябёсах,*
*Люба нам свабода,*
*Там вясёлы ў лёсу посах*
*Вечная пагода...*

"Жыццё сіраты" [15, с. 353]
(Пераклад Р. Барадуліна)

Перакліканне з Міцкевічавым творам тут відавочнае: падобная паэтыка фрагмента і функцыя хароў у творах.

Прывядзем яшчэ некалькі прыкладаў. Драматычная паэма "Obłąkany" В. Дуніна-Марцінкевіча (у перакладзе П. Бітэля назва гучыць як "Апантаны") напісана на ўзор IV часткі "Дзядоў" (гэта адзначае А. Мальдзіс [100, с. 25]). "Наяўнасць літаратурных уплываў засведчыў першы буйны твор Марцінкевіча на польскай мове - меладрама "Апантаны", - піша Я. Янушкевіч. - Яшчэ Ю. Галомбэк звярнуў увагу на падабенства меладрамы з драматычнай паэмай А. Міцкевіча "Дзяды" [189, с. 55 - 57]. Несумненна, В. Дунін-Марцінкевіч у сваім творы, калі апісваў каханне маладога паэта, то і ў самім вобразе гэтага паэта наследаваў "Дзяды" Міцкевіча. У тэксце меладрамы сустракаюцца

шматлікія рэмінісцэнцыі да твору Міцкевіча. Можна дапусціць, што В. Дунін-Марцінкевіч свядома абраў IV частку "Дзядоў" за ўзор для сваёй меладрамы, і аўтару было важна, каб гэта заўважылі чытачы, для гэтага ён выкарыстаў прамую цытату з IV часткі "Дзядоў".

*Kobieto -puchu marny! - tak poeta głosił:*
*I on burze miłosne w życiu swym przenosił...*[4]
[48, с.195]

Безумоўна, паэт, пра якога ўзгадвае Эдмунд - Адам Міцкевіч, і гаворка ідзе пра каханне Міцкевіча да Марылі Верашчакі. Герой Дуніна-Марцінкевіча дакладна паўтарае Густава з IV часткі "Дзядоў". Юнак, перажываючы разрыў з каханай, усклікае:

*Kobieto —puchu marny! Ty wietrzna istoto!*[5]
[118 ,с.154]

У сваёй меладраме Дунін-Марцінкевіч імкнецца выкрыць сацыяльныя прычыны вар'яцтва галоўнага героя: **бяздушнасць** (вылучана *Я. Янушкевічам),* хлусню, фарысейства." [173, с.12] Можна выявіць тыпалагічныя паралелі драмы "Апантаны" і "Гамлета" Шэкспіра - апазіцыя героя свецкаму асяроддзю, што абумоўлівае "ўяўнае", "імітацыйнае" вар'яцтва героя, бо з-пад маскі "душэўнахворага" бесперашкодна можна выказаць востракрытычныя рэчы. "У меладраме "Апантаны", адзначае Я. Янушкевіч, - Дунін-Марцінкевіч абвінавацiў Паэтніцкую (адну з галоўных гераіняў твора - заўвага - *С.М)* і іншых падобных "нявест" у сквапнасці, карыслівасці, дзікунстве, безнадзейнай сапсаванасці Захадам. Абвінавачанні з вуснаў герояў меладрамы "Апантаны" заставаліся надзённымі ў XIX ст..." [173, с. 12 ].

Гэтаму кантэкстуальнаму полю, безумоўна, адпавядае IV частка паэмы "Дзяды" А. Міцкевіча, дзе Густаў-Пустэльнік, які прыйшоў у дом Ксяндза выглядае падобным да шаленца-блуканца:

***Кабета I - ты пух марны! Вось паэта слова***
***I ён цярпеў кахання буры адмыслова...***
[48 , с Л95] (Пераклад П.Бітэля).

***Жанчына! Марная пушынка!.. Істота ветру!***
[117, с. 155].

*Umarły!., o nie! tylko umarły dla świata!*
*Jestem pustelnik, czy mnie rozumiecie?*[6]
[117, c.72]

Гэтую формулу - *umarły dla świata* (мёртвы для свету), несумненна, выкарыстоўвае Дунін-Марцінкевіч для характарыстыкі свайго героя.

Рознаўзроўневыя інтэртэкстуальныя сувязі з "Дзядамі" Міцкевіча назіраюцца ў іншых творах пісьменнікаў Беларусі XIX ст.

Верш У. Сыракомлі "З палацаў пыхлівых адвечна..." - гэта іранічная пародыя рамантычнай песні Густава, героя IV часткі "Дзядоў", наследаванай Міцкевічам з Шылера (як заўважае У. Мархель [105, с. 95]). Акрамя таго, пра паэму "Дзяды" згадваецца ў гутарцы "Вулічны кнігар", дзе ў вусны старога гандляра кнігамі Сыракомля ўклаў словы, якімі ён перадае сваё стаўленне да твораў Міцкевіча:

*...то ўдалыя творы!*
*Аб "Дзядах", "Валенродзе" Літва ўжо гаворыць...*
[147, с. 151] (Пераклад М. Лужаніна)

Вядома, што Вінцэсь Каратынскі быў адным з першых міцкевічазнаўцаў, пакінуў дадатак да біяграфіі паэта і нарыс "Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэнне і маладосць Адама Міцкевіча". Паводле гэтых твораў мы можам меркаваць, якую павагу меў Каратынскі да "апальнага" і "забароненага" паэта, якое вялікае значэнне ён надаваў яго творчасці. У нарысе з самага пачатку пастаўлена аўтарскае параўнанне "наш Міцкевіч - наш Гамэр, пры тым самога Каратынскага можна лічыць малодшым сучаснікам Міцкевіча (прайшло толькі 6 год з дня смерці Міцкевіча, калі гэты нарыс выйшаў у друк) [66, с. 163].

Паводле тэкстаў заўважаецца, што Вінцэсь Каратынскі цікавіўся не адно толькі біяграфічным звесткамі пра Міцкевіча, звязанымі з Наваградчынай, але і добра ведаў творчасць паэта - напрыклад, у бібліяграфічным нарысе прыводзіць цытаты з "Пана Таэвуша". У заключным абзацы выкарыстоўвае алюзію, якая адсылае да XVIII Крымскага санета "Аю-даг".

Безумоўна Вінцэсь Каратынскі добра ведаў і паэму "Дзяды" Міцкевіча.

Вызначаюцца інтэртэкстуальныя сувязі верша Каратынскага "Miłość" (у перакладзе Г. Тумаса - "Любасць") з паэмай "Дзяды" Міцкевіча.

Веруючы ў заканамернасць эстэтычнага ў светабудове, Міцкевіч скіроўвае свайго героя "Дзядоў" на актыўныя пошукі гармоніі Сусвету, якія амаль

**_О не, нябожчык я для свету!_**
**_Пустэльнік я! Мяне вы зразумейце!_**
[117, с. 73].

прыводзяць яго да сутыкнення з Найвялікшым Творцам. Каталізатарам гэтых пошукаў выступае каханне-любоў. Густаў-Конрад праходзіць выпрабаванне гэтым пачуццём.

Першае выпрабаванне: *любоў да жыцця* - заключаецца ў стваральнай дзейнасці маладосці (моладзі). Недарма ў IV частцы "Дзядоў" ёсць аўтарская самацытата з "Оды да маладосці". Гэта *любоў да жыцця* выратоўвае Густава - па тэксце паэмы - Густаў думае пра самагубства і, нават, спрабуе яго здзейсніць. *Любоў да жыцця* вядзе да наступнага - *любові да каханай* - да *кахання.*

Другое выпрабаванне: *Каханне.* Яно - *Бога прызначэнне.* Адна зорка ззяе над закаханымі, яны - тая адзіная душа, якая была ў Небе, а на Зямлі раз'яднана і павінна зноўку злучыцца.

Аднак паводле паэмы - Марыля выходзіць замуж за іншага, чым "разрывае злітаваны ланцуг".

Гэта каханне да абранніцы пераўтвараецца ў *любоў да Айчыны.*

Трэцяе выпрабаванне: *любоў да Айчыны.* Аднак Айчына ляжыць пад чужынцам, прыніжана самаўладдзем. Такім чынам, *любоў да Айчыны* спараджае *любоў да свайго народу.*

Чацвёртае выпрабаванне: *любоў да народу.* Разуменне несправядлівасці сучаснага паэту становішча, у якім знаходзіцца мудры і багаты адвеку народ (усе яго саслоўі), вядзе да пошуку справядлівасці, роўнасці і павагі між народамі. Адсюль вынікае *любоў да чалавецтва.*

Пятае выпрабаванне: - *любоў да чалавецтва.* Аднак на планеце далёка не ўсё гэтак радасна. *Любоў да чалавецтва* "ўскалыхвае" імкненне адкрыць і спазнаць гармонію Сусвету.

Калі ў паэме "Дзяды" гэтыя градацыі сусветнае Любові прапануюцца як прыступкі для самаўдасканалення, якія трэба не так прайсці, як даказаць сабе самому, што ты на іх здольны, то ў вершы "Любасць" Вінцэся Каратынскага, яны выпісаныя, як ужо ад нараджэння дадзеныя чалавеку. Фактычна Каратынскі апісвае квінтэсенцыю *выпрабаванняў любоўю*, што дагэтуль былі прадбачаныя ў паэме Міцкевічам.

Верш Каратынскага пачынаецца гімнам жыццедарнаму духу Любасці: *"Całą przyrodę jeden duch sprzęga... "* [196, с. 18].У перакладзе Г. Тумаса:

*Дух адзін лучыць гоні сусвету.*
*Зваць яго Любасць: светлая мара*
*Ў квецені буйнай, бегах планетных*
*Дух той спазнае, дух жыццядарны.*

[66, С.24]

Каратынскі падае градацыі Любові ў выглядзе пастулатаў, толькі, пры супастаўленні з Міцкевічавай формулай, заўважаюцца некаторыя адрознасці: *каханне да дзяўчыны* ў яго заменена *любасцю да сямейкі.* А "сусветная гармонія" - падпарадкаваная Богу:

*Любасць як будзе ў сэрцах супольнай*
*Да Сям'і, Краю, Люду планеты,*
*З ёй як зямля ўся станецца вольнай —*
*Бог загасцюе ў лучнасці свету.*

[66, **С**.24].

Гэта гаворыць пра глыбока маральныя, хрысціянскія карані паэзіі Каратынскага, пра веру ў надыход справядлівасці на зямлі, калі ў людзях сальюцца тры любові - да сям'і, чалавецтва і радзімы. Несумненна гэта супадае з ідэйным планам паэмы "Дзяды".

Вышэй прыведзеныя прыклады сведчаць як пра шырокую папулярнасць і веданне "Дзядоў" у Беларусі, так і пра пэўны ўплыў паэмы, які адчувалі на сябе айчынныя творцы.

Важным і больш значным аспектам, акрамя наяўнасці тэкставых фактаў паэмы "Дзяды" ў іншых творах, ёсць назапашаны ёй матывацыйны і тэматычны патэнцыял, што праектаваўся на будучыя літаратурныя інавацыі. "Уплыў Міцкевіча на той літаратурны працэс, які працякаў на яго радзіме, - адзначае У. Мархель, - больш выяўляўся не ў прыватна-версіфікатарскіх наследаваннях, а ў адраджэнскім стымуляванні адкрыцця радзімы паэтамі наступнага пакалення" [107, с. 94]. Сваёй творчасцю Міцкевіч задаваў каардынаты гэтага адкрыцця, паэт вызначыў ідэйна-мастацкае бачанне Айчыны ў святле гістарычных, маральных, этнічных каштоўнасцей і, як піша І. Багдановіч, "замацаваў у свядомасці пакаленняў ліцвінска-беларускую канцэпцыю Айчыны, упершыню назваўшы яе і абвясціўшы такім чынам шлях яе адраджэння" [6, с. 31]. З іншага боку, Міцкевіч акрэсліў кодэкс гонару рамантычнага героя ў паэме "Дзяды", якую, як мы адзначалі вышэй, можна назваць творам жыцця паэта. Міцкевіч прапанаваў у ёй светапоглядныя арыенціры і маніфеставаў праграму станаўлення героя, ідэал якога - служэнне радзіме. А жыццё і творчасць самога паэта павінны былі стаць прыкладам здзяйснення гэтай праграмы, натхненнем і ўзорам для наступнага пакалення. Гэты феномен І. Багдановіч азначае як "сармацка-рыцарскі комплекс паводзін рамантычнага героя, вядомы яшчэ з часоў барока, і які Міцкевіч узнавіў, адсоўваючы на задні план арыстакратызм і родавы снабізм, але вылучаючы і развіваючы ў новай гісторыка-культурнай

сітуацыі (страта дзяржаўнасці і ідэалогіі асветніцкага рацыяналізму) рыцарскую дамінанту" [6, с. 101].

Служэнне Айчыне, а гэта значыць служэнне і яе народу, і паступовае разуменне, што служыць трэба не якому-небудзь аднаму, няхай і самаму актыўнаму саслоўю - сярэдняй і заможнай шляхце, але і малапісьменным сялянам, вяло да звароту пісьменнікаў, выхаваных на польскай кніжнай традыцыі, да беларускай мовы. Праўда, гэта абумоўлівала пісьменнікам бачанне свайго чытача - дэвіз "пішу для сялян" часта прыводзіў да дыдактычнасці і спрошчанасці твораў. На гэта ўказваў Сыракомля ў сваіх разглядах твораў В. Дуніна-Марцінкевіча. У артыкуле "Працы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, змешчаным у газеце "*Kurjer Wileński*" ён пісаў: "Марцінавічу належыць заслуга, што літоўска-рускі народ, зацікавіўшыся даступнымі яму аповесцямі, распаляе чужую для яго ахвоту да чытання" [147, с. 509].

Дунін-Марцінкевіч спрабаваў прымірыць асвету, якая вядзе да дыдактычнасці і намагання даходлівага тлумачэння пэўных сацыяльна-палітычных з'яў, з высокай самааддачай і самакшталтаваннем, абвешчаным рамантызмам. Аднак для рамантыкаў важна не навучыць іншага, а на ўласным прыкладзе паказаць магчымасці, закладзеныя ў кожным чалавеку. Нягледзячы на першапачатковы крызісны характар творчасці Дуніна-Марцінкевіча, што тлумачыцца нераспрацаванасцю беларускай літаратурнай мовы, неўсталяванай версіфікацыйнай сістэмай, слабой падрыхтаванасцю і начытанасцю рэцыпіента беларускай літаратуры, - паэт, прытрымліваючыся прынцыпаў "служэння Айчыне", змог творча эвалюцыянаваць з пазіцыі паэта-настаўніка да паэта-грамадзяніна.

Шлях Дуніна-Марцінкевіча даволі тыповы для білінгвальных пісьменнікаў Беларусі. Ім прайшлі В. Каратынскі, Ф. Багушэвіч і інш., розніца толькі ў рэгламентацыі дыдактыкі ў іх творчасці. Адгалоскі той першапачатковай дыдактычнасці можа пачуць у ранняй паэзіі Якуба Коласа. Але ж стварэнне вобраза паэта-грамадзяніна, паэта, як высокадухоўнай асобы, як прыкладу для пакалення і нашчадкаў аказаўся больш прадуктыўным.

З паняцця "служэнне Айчыне", сінтэзаванага Міцкевічам з архетыпічных адметнасцей краю і непасрэдна выказанага ў своеасаблівай квінтэсенцыі рамантычных ідэй - паэме "Дзяды" (кульмінацыя ІІІ частка, "Вялікая імправізацыя") - можна вылучыць тры асноўныя тэматычныя кірункі, што атрымалі развіццё ў беларускай літаратуры сярэдзіны ХІХ - пачатку ХХ ст., у якіх знайшлі выяўленні ўзаемадачыненняў суб'екта літаратуры (творцы) і аб'екта літаратуры (творчасці):

І. Хто я, як творца ў гісторыка-культурным, духоўна-аксіялагічным плане (самарэфлексія над сваімі "каранямі" і паходжаннем), адсюль - паэтычнае

даследаванне фальклору, вераванняў і гістарычнай памяці народа. Выяўленне і прапаганда маральных каштоўнасцей беларуска-літоўскага краю, а праз тое і ўзвелічэнне яго.

2. Хто я ў цяперашнім часе, праблема самаідэнтыфікацыі і вызначэння свайго культурнага арэала, адсюль - тэма *Айчыны.* Адраджэнскія, антыпрыгонніцкія, дэмакратычныя матывы.

3. Асэнсаванне мэты творчасці, адсюль - тэма *паэта і паэзіі*, станаўленне рамантычнага героя як высокамаральнай адзінкі грамадства, самавыхаванне творцы, яго адказнасць за лёс народа. Праблема паэта і грамадства, паэзіі (літаратуры) і грамадства.

## 3.1 Фальклярызм А. Міцкевіча і творчасць беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст.

У прадмове да II часткі паэмы Міцкевіч пісаў: "Нашы Дзяды маюць тую асаблівасць, што паганскія абрады памяшаны з усведамленнямі хрысціянскай рэлігіі і, галоўным чынам, з - Днём памінання памерлых, які амаль супадае па часе з Дзядамі. Просты люд верыць, быццам пачастункамі, напоямі і спевамі прыносіць палёгку душам, што томяцца ў чысцы.

Пабожная святая мэта, самотнае месца, начны час, фантастычныя абрады калісьці моцна хвалявалі маё ўяўленне; я ўслухоўваўся ў казкі, апавяданні і песні пра нябожчыкаў, што вяртаюцца з просьбамі ці перасцярогамі; і ва ўсіх гэтых неверагодных змысленнях можна было ўлавіць пэўныя маральныя ідэі, пэўныя павучанні, вобразна выказаныя народам.

Паэма "Дзяды" прадстаўляе вобразы менавіта ў падобным духу, абрадавыя спевы, замовы і закляцці вялікай часткаю пададзеныя дакладна, а недзе даслоўна ўзятыя з народнай паэзіі" [117, с. 19].

Малады аўтар выступае супраць старасвецкіх поглядаў, характэрных для эпохі класіцызму, калі ўсё народнае лічылася дзікім, грубым, ахутаным цемрашальствам і невуцтвам. Паэтычны зрок Адама Міцкевіча дазволіў яму ў, здавалася б, незвязаных паміж сабой забабонах і прымхах, таемных абрадах, неверагодных паданнях і нават жахлівых апавяданнях разгледзець спрадвечную этыку і эстэтыку народа, пэўныя правілы жыцця на зямлі гэтага краю. Перад ім паўстала велічная архітэктоніка духоўнага ландшафту Літвы-Беларусі, якая ахоплівала глыбокае мінулае і сягала ў далёкую будучыню, пераўзыходзіла межы зямнога быцця чалавека, выводзіла, як верыў сам паэт, да мяжы судакранання свету рэальнага і свету метафізічнага. Ён быццам бы раскрываў

сакрэт гарманічнага суіснавання "былых і будучых пакаленняў" і адкрываў невычэрпную крыніцу прыгажосці маральнай і паэтычнай.

Безумоўна, літаратары, што ішлі за ім не маглі не чэрпаць з гэтай крыніцы. І калі ў сваіх творах яны звярталіся не толькі да казак, легенд, паданняў, песень, але выкарыстоўвалі - літаратурна апрацоўвалі - народныя тэургічныя дзействы - то відавочна, яны стваралі і развівалі тую рамантычную традыцыю, якую на землях Беларусі распачаў у сваіх "Дзядах" Адам Міцкевіч.

Беларуская даследчыца С. Мусіенка вызначае асноўныя рысы міцкевічаўскага фалькларызму:

- фальклор дапамагаў Міцкевічу ў пошуках "жывой праўды" і даваў магчымасць сур'ёзна аргументаваць свае ідэйна-мастацкія адкрыцці;
- фальклор не быў самамэтай у творчасці паэта. Ён ужываў розныя метады і спосабы яго выкарыстання: стылізацыі, преаасэнсаванне, кантамінацыі, новыя трактоўкі вядомых сюжэтаў;
- Міцкевіч з павагай ставіўся да маральных перакананняў беларускага народа. Пры выкарыстанні фальклорных крыніц ён заўсёды выразна праводзіў мяжу паміж дабром і злом і наказваў апошняе;
- фальклор дапамог Міцкевічу зразумець прыгажосць і душу беларускага народа, дакрануцца да рэалій яго жыцця і побыту, палюбіць яго песні, казкі, паданні... [132, с. 216].

Адным з першых спадкаемцаў рамантычнага метаду Міцкевіча становіцца Ян Баршчэўскі.

Яшчэ ў 1817 г., амаль равеснікі Ян Баршчэўскі і Адам Міцкевіч маглі б вучыцца ў Віленскім універсітэце і разам удзельнічаць у таварыствах філаматаў і філарэтаў. Аднак з-за свайго фінансавага становішча, Баршчэўскі не змог трапіць ва універсітэт: "ужо накіраваўся ў Вільню, - паведамляе М. Хаўстовіч, - але ў апошні момант прыняў прапанову свайго знаёмага і заняўся гувернёрствам" [15, с. 6].

Гэта сустрэча адбылася ў канцы 20-х гадоў XIX ст. ў Пецярбургу, магчыма, у той час Міцкевіч рыхтаваў пецярбургскае перавыданне "ковенска-віленскіх "Дзядоў" і "Гражыны" і занава перажываў карціны мінулага, пераасэнсоваў свае творчыя ідэі. Аўтар "Дзядоў" нават паправіў сваёй рукою некалькі вершаў Баршчэўскага. Несумненна, на пецярбургскіх сустрэчах землякоў-ліцвінаў гаворка заходзіла пра літаратуру. Магчыма, тады Баршчэўскі адчуў моц і красу рамантычнай канцэпцыі свету, ён змог убачыць свой шлях да пазнання свету душаў - маральна-эстэтычнага набытку беларускага народа.

Выпускнік Полацкай езуіцкай акадэміі Ян Баршчэўскі ведаў і шанаваў прынцыпы класіцызму. Нават у ранніх беларускамоўных вершах "Дзеванька",

"Гарэліца", "Размова хлопаў" ("Рабункі мужыкоў") можна заўважыць прыкметы дыдактыкі і травестацыі, характэрнай для літаратуры Асветніцтва.

У 30-я - 40-я гады ў творчасці Баршчэўскага ўжо амаль не будзе матыву павучання, наадварот, пісьменнік сам будзе чэрпаць народную мудрасць у міфалогіі і фальклоры беларусаў. Акрамя таго, ён падтрымае новы для таго часу рамантычны напрамак. "Класік Баршчэўскі, - піша Ю. Барташэвіч, - пад уплывам новых уяўленняў пакрысе ператвараўся ў рамантыка" [14, с. 359].

Жанравы арсенал Баршчэўскага збольшага паўтарае міцкевічаўскі: лірычныя вершы, балады, санеты, драматычная паэма.

Балады Баршчэўскага як бы запаўнялі нішу, пакінутую Міцкевічам. У той час літаратурная грамадскасць яшчэ не ведала баладаў Я. Чачота. "Толькі была, як выключэнне, - адзначае М. Хаўстовіч - публікацыя асобных баладаў Т. Зана ("Цыганка"), А. Ходзькі ("Маліны"), а таксама А. Грот-Спасоўскага" [15, с. 20].

Аднак пясняр полацкай зямлі, адштурхоўваючыся ад заходнееўрапейскай "паэзіі магіл", ад усёй традыцыі паэтычнай пераапрацоўкі фальклорнага матэрыялу змог бліскуча раскрыць новы жанр - апавяданне, напісанае паводле беларускіх легенд і вераванняў. Нават баладу "Зарослае возера" Баршчэўскі пасля перапісаў прозаю ў апавяданне "Рыбак Родзька". "...У прозе сюжэт балады не толькі паўтораны, - адзначае У. Мархель, - а стылёва пашыраны" [106, с. 65].

Сам Ян Баршчэўскі прызнаецца: "Балады былі пачаткам таго, пра што я меў намер сказаць падрабязней. Гэта ў чалавечай натуры - ад песні пераходзіць да апавядання пра тое, што нас найбольш займае" [15, с. 81].

У 40-х гадах XIX ст. паўстаў цыкл апавяданняў Баршчэўскага, аб'яднаных пад назваю "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", які па праву лічыцца цэнтральным творам пісьменніка. М. Хаўстовіч піша: "Гэта паўнавартасны мастацкі (а не фальклорны альбо напаўфальклорны зборнік - як часта без усялякае аргументацыі сцвярджаецца ў нашым літаратуразнаўстве) твор, вобразна-выяўленчыя сродкі якога накіраваны на выяўленне беларускае нацыянальнае ідэі... У "Шляхціцы Завальні" пісьменнік закранае ўсё кола пытанняў, звязаных з беларускаю нацыянальнаю думкаю. Ім робіцца спроба геаграфічнага апісання краю, яго гісторыі і нават эканамічнага стану. Яшчэ з большаю паўнатою Я. Баршчэўскі падае своеасаблівасці нацыянальнага характару беларуса, ягоны светапогляд, раскрывае ўнутраную прыгажосць ягонае душы" [15, с. 20].

Відавочна Баршчэўскі ідзе сваім шляхам у тую ж, шуканую Міцкевічам "краіну душаў" і "краіну душы" асобнага чалавека. В. Каваленка ў свой час заўважыў, што "У Шляхціцы Завальні" Я. Баршчэўскага ўжываюцца запазычанні з рамантызму Міцкевіча" [70, с. 375]. Такім чынам, справядлівым

будзе меркаванне, што Баршчэўскі сваім творам падтрымлівае ідэі і пэўным чынам даказвае прынцыпы і канцэпцыі, абвешчаныя вялікім наваградчанінам. Факусуючы сваё літаратурнае даследаванне на беларусе не як на гістарычным ліцвіне, грамадзяніне Рэчы Паспалітай абодвух народаў, жыхары Еўропы і ўсяго свету (як гэта мы бачым у Міцкевіча), а як на жыхары сваёй зямлі, урословаму у свой азёрна-лясны ландшафт, Баршчэўскі адкрывае тыя запаветныя духоўныя багацці краю, што спрадвеку дазвалялі яе насельнікам змагацца і пераадольваць ліха гістарычнае, матэрыяльнае, нацыянальнае.

Кампазіцыйна "Шляхціца Завальню" часта параўноўвалі з "Тысяча і адной ноччу". Аднак у зборніку арабскіх казак апавяданне ідзе ад адной асобы, у "Шляхціцы Завальні" расказваюць свае гісторыі розныя людзі, якія маюць яскравыя характарныя адрозненні. Можна казаць, што кампазіцыя "Шляхціца Завальні" ўтрымлівае ў сабе моцную драматургічную аснову. На адной сцэне - дом Завальні - змяняюцца персанажы, што вядуць дыялогі і маналогі-расказы. Фактычна гэта дазваляе правесці параўнанне кампазіцый "Шляхціца Завальні" і "Дзядоў" Міцкевіча. Прасочваецца аналогія з тымі часткамі паэмы, дзе апісваецца сам абрад "Дзядоў". Дзеянне адбываецца ў капліцы, рэй вядзе Гусляр, які выклікае духаў, і яны распавядаюць яму свае гісторыі. У творы Баршчэўскага дзеянне адбываецца ў доме шляхціца Завальні, сам шляхціц у часе начной завірухі на падваконні ставіць свечку, каб праезджы люд не заблукаў на возеры Нешчарда, а змог завітаць да яго ў дом, і кожны па просьбе Завальні распавядае свае расказы. Функцыя Гусляра з "Дзядоў" як бы перададзена Завальні, зычліваму шляхціцу, выратавальніку падарожных. Перад чытачом разгортваецца фантастычны ўсёахопны абрад жыцця Беларусі. І ў гэтым можна заўважыць вялікую філасофію свету. Кожны, хто б ён ні быў, пан ці селянін, магутны фізічна ці калека, відушчы ці сляпы, злосны ці дабрадзейны, ён у час небяспекі роўны з усімі, яму аднолькава, як і ўсім, патрэбна ратаванне і дапамога, як тым непрыкаяным душам падчас Дзядоў. І грань паміж запрашэннем у дом Завальні і запрашэннем на Дзяды эфемерная і пралягае адразу ж за сценамі дома Завальні, дзе пануе мароз і завіруха. Тут дарэчы прыгадаць страшэнную гісторыю, якую распавёў у сваім знакамітым вершы "Паштальён" яшчэ адзін білінгвальны беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля. І ў II частцы "Дзядоў" Міцкевіча адна з птушак - дух сялянкі - расказвае, што замерзла з дзіцем на руках, збіўшыся ў мароз з дарогі. Падобны сюжэт выкарыстоўвае і Янка Купала ў паэме "Зімою".

Кожны, хто трапіў у дом шляхціца Завальні, мае груз свайго жыцця і груз жыцця сваіх сяброў, суседзяў і знаёмых, таму мы бачым і чуем не толькі праезджых, але і тых, пра каго яны распавядаюць. Колькасць персанажаў узрастае ў геаметрычнай прагрэсіі, сюжэтныя лініі пераплятаюцца, задзейнічаны

не толькі душы жывыя, але і тагасветныя, а таксама духі ландшафту Беларусі, духі прыродных з'яў і нават дух самой радзімы - Плачка.

Як у "Дзядах", так і ў "Шляхціцы Завальні" паўстае грандыёзная карціна ўзаемапранікнення свету рэальнага і звышрэальнага, і ва ўсім гэтым бясконцым рознанапраўленым віраванніназіраецца цудоўная гармонія.

Функцыянальна падобныя ролі паэта - Густава-Конрада ў "Дзядах" і аўтара ў "Шляхціцы Завальні". У "Дзядах" гэта спачатку маўклівы дух, што раптам узнік перад Гусляром падчас абраду, пасля - дух Густава, які прыйшоў у дом Ксяндза з расказам пра свой лёс, пасля гэта перароджаны Конрад - палымяны змагар за Айчыну і справядлівасць, пасля - ссыльны аўтар "Урыўку", якому наканавана сустрэцца з "гусляром" Аляшкевічам і выслухаць яго грознае папярэджанне-прароцтва Расійскай імперыі. Густаў-Конрад адначасова і аб'ект (персанаж), і суб'ект (аўтар) паэмы. Праз яго эмоцыі і словы мы ўспрымаем ідэі і дзеянні герояў твора. У "Шляхціцы Завальні" аўтар - таксама і суб'ект, і аб'ект твора. Менавіта ён вырашыў нас пазнаёміць са шляхціцам Завальнем, а пасля сам пры шляхціцы-"гусляры", перарасказаўшы паэмы Гамера, пераўтвараецца ў маўклівага "духа"-назіральніка, аднак праз яго эмоцыі і каментары мы таксама ўспрымаем падзеі. Адрознасць у тым, што Густаў-Конрад - гэта прыклад і прапанова нам быць такімі ж, як ён, прайсці і прыняць той жа шлях змагання і пошуку моцы свайго духу, аўтар "Шляхціца Завальні" - гэта нашы вушы і вочы, гэта гід па фантастычным свеце Беларусі і асцярожны кіраўнік нашымі пачуццямі.

Існаванне ў беларускай літаратуры постаці Яна Баршчэўскага яскрава пацвярджае канцэпцыю "польскамоўнай плыні беларускай літаратуры". Наяўнасць беларускамоўных вершаў у спадчыне паэта ўжо само па сабе ўключае яго ў шэраг пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Пераважная большасць польскамоўнай творчасці Баршчэўскага пабудавана на беларускіх рэаліях. Апрача таго, цэнтральны твор "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" не толькі "перасыпаны" сапраўднай беларускай лексікай і неадаптаванымі да польскага вымаўлення "правінцыялізмамі", але па сутнасці сваёй ёсць аўтапераклад з беларускай мовы на польскую. "Не кожны чытач зразумее беларускую мову, дык гэтыя народныя апавяданні, якія пачуў я з вуснаў простага люду, вырашыў (наколькі змагу) у даслоўным перакладзе напісаць па-польску", - прызнаваўся аўтар [15, с. 94]. Хаця і ў гэтым сваім прызнанні Баршчэўскі аддаваў належнае агульнаеўрапейскай рамантычнай традыцыі "перакладжэння" ў літаратурную форму народных літаратурных узораў, якую прыўнёс ў Беларусь Адам Міцкевіч. І калі Міцкевіч у "Дзядах" у польскамоўны масіў твора ўстаўляў узятыя з фальклору ці стылізаваныя пад фальклор паасобныя радкі ці строфы, то Баршчэўскі ўжо на аснове шырокага

беларускага матэрыялу рабіў вольны аўтарскі пераклад на польскую мову, перасыпаны цытатамі з беларускіх песень ці гутарак, і абрамляў яго літаратурным польскамоўным тлумачэннем. Гэтую беларускасць у польскамоўнай тэкставай тканіне тонка адчуў Рамуальд Зямкевіч, які называў Баршчэўскага "першым беларускім пісьменнікам XIX стагоддзя". "Балады, апісацельныя вершы Баршчэўскага, а таксама і "Шляхціц Завальня" так і просяцца, каб іх пералажыць на беларускую мову, бо ўсё гэта ўзята жыўцом з беларускага жыцця і ў польскай літаратуры не мае і не будзе мець такога вялікага значэння" [59, с. 9]. Праўда, Р. Зямкевіч быў даволі строгі ў ацэнцы польскіх калег-літаратуразнаўцаў. Паколькі Баршчэўскі, як прадстаўнік, з польскага пункту гледжання, "беларускай плыні польскай літаратуры", безумоўна, будзе мець цікавасць і ў літаратуразнаўцаў за Бугам. Даследчык Т. Грабоўскі піша: "Заслугоўвае Баршчэўскі на ўзгадку з трох прычын: а) з увагі на шэраг паэтычных твораў, насычаных зыкам рамантызму, у той ці іншай ступені залежных ад Міцкевіча (асабліва драматычная паэма "Жыццё сіраты"); б) з погляду на яго гарачую цікавасць песняй і прозай беларускага народа, якія не толькі збіраў, але і на іх канве сплятаў сваё фабулярнае і паэтычнае, як на польскай, так і на беларускай мовах; в) з погляду на выбітныя, на тыя часы, дэмакратычныя перакананні, супраць паншчыны, прыгону сялян і за арганізацыю агульных школ на дзвюх мовах той зямлі, для людзей на вёсках" [187, с. 447].

Баршчэўскі ўспрыняў ідэі Міцкевіча і, ўзброены імі, змог адкрыць у Беларусі невядомыя яшчэ культурныя пласты. Рамуальд Падбярэзкі сцвярджаў, што Баршчэўскі змог падабрацца да "самай жыццёвай асновы і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабою народ, часта з усёй прывабнасцю ягоных яшчэ паганскіх фантазій, якія апраменьвае сваім, так бы мовіць, беларускім гафманізмам" [14, с. 335]. Непасрэдна сутыкаючыся з жыццём насельнікаў свайго краю, Ян Баршчэўскі ў сваіх творах спасцігаў і адкрываў свету космас беларускай душы, чым непасрэдна спрыяў самаіндэнтыфікацыі беларускага народа.

У апавяданні "Успаміны пра наведанне роднага краю" са зборніка "Шляхціц Завальня" Ян Баршчэўскі апісвае абрад выклікання ценяў двух ганчакоў легендарнага князя Боя, якіх звалі Стаўры і Гаўры. Шмат разоў гэтыя сабакі ратавалі гаспадара ад небяспекі і тым заслужылі павагу як пры жыцці, так і пасля смерці. І некаторыя сяляне верылі, што калі ў адмысловы дзень пачаставаць гэтых сабак, выканаць абрад, падобны да абраду "Дзядоў", то духі сабак будуць дапамагаць сялянам. "Можа, гэта камусьці здалося; можа, гэта справа злых духаў, - піша Ян Баршчэўскі, - а можа проста фантазія народа беларускага, якому заўсёды мрояцца чары і духі ў размаітых постацях, і ў

кожнай з гэтых істотаў свой абавязак: духі водныя, зямныя, хатнія, вартаўнікі лясоў і скарбаў [15, с. 89-90]. Але ў гэтых вераваннях бачыцца не толькі адгалоскі старажытнага анімізму, але, як адзначаў Міцкевіч у прадмове да "Дзядоў", - спрадвечная народная мараль.

Павер'е пра духаў сабак Стаўры і Гаўры выкарыстоўвае і В. Дунін-Марцінкевіч ў вершаваным апавяданні "Стаўроўскія дзяды". Калі "Дзяды" Міцкевіча былі напісаны на польскай мове з украпленнямі беларусізмаў, "Шляхціц Завальня", па прызнанні аўтара, перакладзены на польскую мову з беларускай, то "Стаўроўскія дзяды" ўжо створаны па-беларуску. Фальклорны матэрыял, яго пластычнасць і ўпісанасць у архетыпічны ландшафт краю сваёй арганічнасцю вымагаў пераходу краёвай літаратуры на беларускую мову. Дунін-Марцінкевіч, безумоўна, адчуваў, якія страты нясе фальклорна скіраваная літаратура ў перакладзе на іншую мову.

Адразу ж пасля выхаду ў свет "Вечарынаў..." В. Дуніна-Марцінкевіча У. Сыракомля прывітаў іх у карэспандэнцыі "Gazety Warszawskiej" (23 чэрвеня 1855): "...дададзім яшчэ некалькі слоў у сувязі са "Стаўроўскімі дзядамі". Справа вялікага значэння, як збіраць з чыста гістарычнай мэтай легенды, што маглі застацца з часоў дахрысціянскай славяншчыны, так і па-мастацку ўзнаўляць у паэзіі тую мінуўшчыну, што сінеецца з імглы вякоў, - мінуўшчыну, некаторыя звесткі аб якой запісала для нас гісторыя, а некаторыя мы выкапалі з курганоў. Здаецца, невялікі запас, але і з гэтага нямногага геніяльны паэт можа стварыць рэч Гамеравай моцы... Спасцігнуць усё гэта, умець падслухаць біццё сэрца гэтага народа, умець ключом уласнай шчаслівай інтуіцыі прачытаць іерогліф паданняў... - вось задача паэта, вось яго шырокая ніва. "Вечарніцы" п. Марцінкевіча добра сведчаць аб яго кваліфікацыі ў гэтых адносінах, няхай жа яе прызнае сам у сабе і прысвеціць сябе выключна народным творам. Наша выцвілая шляхецкая літаратура мае досыць працаўнікоў - у народнай ён адзін" [147, с. 497].

Заслугай В. Дуніна-Марцінкевіча ёсць тое, што ён, пачынаючы ад спробаў пісаць "для народа", пісаць на тым зніжаным узроўні, які абумоўліваў яго ўласнае ўяўленне аб магчымасці разумення літаратуры простым людам, пераадольваючы пачатковую неадпаведнасць стану беларускага пісьменства запатрабаванням сучаснага яму літаратурнага твора, усё ж такі стварыў цэласныя ўзоры новай беларускай літаратуры.

Вершаванае апавяданне "Стаўроўскія дзяды" сведчыць аб гэтым. "Стаўроўскія дзяды" - твор даволі арыгінальны, утрымлівае ў сабе ўласцівасці як фальклорнай і гістарычнай балады, так і павучальнай гісторыі. Змяшчае апісанне народных абрадаў. Вось фрагмент Дзядоў паводле Дуніна-Марцінкевіча:

*Кася дубовы стол накрывае,*
*Даніла пляху гарэлкі стаўляе;*
*Выглянуў - аслі госці не ідуць?*
*Найпершы казляр туды паявіўся,*
*Гаспадару ўпояс пакланіўся,*
*За ім - гусляр, там свае брыдуць.*

*Ксёндз нехрышчоны не святу грамніцу*
*Яркім агнём запаліў,*
*К сцяне яе прыляпіў,*
*Бліснула полымя на цэлу святліцу.*

*З гусляром яны малітву началі,*
*Дзядоў Даніліных жыццё паміналі,*
*А як кончылі, душачкі сустрэлі,*
*Згасілі свечку дый за стол заселі.*
[48, С.430 - 431]

Тыпалагічны гэтае апісанне адпавядае абраду Дзядоў, якое ў сваёй паэме прапанаваў Адам Міцкевіч:

*ГУСЛЯР*
*Дзверы на завал зачынім,*
*Поўнач блізка, каб, ні шчэлкі!*
*Вы бярэце жмут лучыны,*
*І пастаўце чоп гарэлкі*
*Кій над вамі я ўздымаю,*
*Хай гарэлка запалае,*
*Толькі жвава, толькі смела!*

*СТАРАЦ*
*Зроблена!*

*ГУСЛЯР*
*Даю знак ясны!*

*СТАРАЦ*
*Пыхнула і закіпела,*
*Раптам згасла...*
[117, С.31]

У сваім творы аўтар "Стаўроўскіх дзядоў" звяртаецца да часоў сівой даўніны, у дахрысціянскае мінулае краю і аднаўляе старажытны абрад, несумненна, выкарыстоўваючы свае ўласныя назіранні за жыццём беларускага сялянства. Відавочна, В. Дунін-Марцінкевіч быў знаёмы з прадмовай А. Міцкевіча да віленска-ковенскіх "Дзядоў", дзе пясняр Літвы тлумачыў чытачу паходжанне абраду, яго сутнасць. (Цытата з IV часткі "Дзядоў" у паэме Дуніна-Марцінкевіча "Апантаны" пацвярджае гэта; II і IV часткі "Дзядоў" былі апублікаваны разам у другім томіку "Паэзіі" Міцкевіча (Вільня, 1823)).

У прадмове гаворыцца:

*"Uroczystość ta początkiem swoim zasięga czasów pogańskich i zwała się niegdyś ucztą kozła, na której przewodniczył Koźlarz, Huslar, Guślarz, razem kapłan i poeta (gęślarz)* "[7] [117 с.17].

В. Дунін-Марцінкевіч у польскамоўных каментарах да "Стаўроўскіх дзядоў" нібыта папраўляе Міцкевіча, раздзяляючы функцыі Казляра і Гусляра:

*"Kazlar — Kapłan pogański.*
*Huslar - Lirnik, czyli bard wiejski za szasów poganizmu "*[8] [48 с. 441 ].

Міцкевічу было важна падкрэсліць, што індуктарам паміж светам жывых і светам духаў можа быць толькі незвычайны чалавек - адначасова і паэт, і жрэц, і менавіта моц яго слова і азарэння дае шанц на злучэнне - судзеянне двух светаў. Гусляру ж дапамагае весці абрад Дзядоў абраны сярод сялян і ўсімі паважаны старац. У "Стаўроўскіх дзядах" Казляру, якога аўтар называе "нехрышчоным ксяндзом", дапамагае весці абрад не старац, а Гусляр. Можна дапусціць, што Дунін-Марцінкевіч пайшоў за логікай жыцця: жрэц адказвае за малітву і заклёны - за словы, а "вясковы бард" за гукавое і музычнае суправаджэнне. Параўнанне Казляра з нехрышчоным ксяндзом інтэртэкстуальна адпавядае II частцы "Дзядоў" Міцкевіча. Як было адзначана вышэй, у першапачатковай задуме паэмы, абрад павінен быў весці ксёндз, і, нягледзячы на тое, што Міцкевіч замяніў Ксяндза на Гусляра, сляды першапачатковай задумы ў тэксце захаваліся:

7 Урачыстасць тая сваім пачаткам сягае часоў язычніцтва і калісьці звалася "святам казла", на якім вёў рэй Koźlarz (Козьляж), Huslar (Гусляр) Guślarz (Ґусляж), адначасова жрэц і паэт (gęślarz).

8 Казляр - Жрэц язычніцкі.
Гусляр - Лірнік , або вясковы бард у часы язычніцтва.

*ГУСЛЯР*
*Дайце стулу і грамніцу,*
*Пасвячу яшчэ да ранку...*
[117, С.67]

Стула - у праваслаўных *эпітрахіль* (убранне хрысціянскага святара) і грамніца (асвячоная ў касцёле (царкве) свечка) на язычніцкім абрадзе выглядаюць дысанансам. У Дуніна-Марцінкевіча гэтыя вобразы ўдакладненыя - "нехрышчоны ксёндз", "не свята грамніца".

Пасля "ўзноўленага" абраду выклікання духаў продкаў у тэксце "Стаўроўскіх дзядоў" ідзе падрабязнае апісанне звычаяў і святочнага застолля:

*Гаспадар чарку ўгору паднімае,*
*Пакуль скаштаваў - крыху на стол зліў,*
*Такі абычай іздаўна там быў;*
*Пасля да ксяндза душком прапівае.*

*Ксёндз да гусляра з такім жа абрадам,*
*Гусляр - да Параскі: баш, сядзелі радам;*
*Пакуль жа укруг чарку абняслі,*
*Абрусок да ніткі гарэлкай злілі...*
[48, с. 431]

Дунін-Марцінкевіч падае каментар да гэтай сцэны:

*"Ёсць звычай, падчас таго пачастунку аніхто не пачне піць, пакуль для духаў, што прыбываюць, не пралье на абрус колькі кропляў; таксама выліваюць першую лыжку страў у спецыяльна прыгатаваныя міскі, што павінна служыць бяседай для гасцей з таго свету"* [48, с. 441].

Як бачна, Дунін-Марцінкевіч у сваім творы падае варыянт абраду Дзядоў, які спраўлялі ў хаце. І паказвае яго дэталёва, падчас апісання застолля, нават, натуралістычна. Верагодна, аўтар сам бываў у сялянскай хаце ў час Дзядоў і перанёс уласныя назіранні і ўражанні ў вершаванае апавяданне. У Міцкевіча абрад Дзядоў мае містычна-таемную афарбоўку. Некаторыя польскія даследчыкі (падтрымліваючы думку С. Піганя) лічылі, што Міцкевіч дзеля сваіх творчых задач злучыў два беларускія абрады: Радаўніцу, якую спраўляюць на могілках і Дзяды, якія абыходзяць у хатах [3, кн. I, с. 321]. Але Э. Смулкова прыводзіць словы фалькларысткі Алімпіі Свяневічавай, якая

пераконвае, што ў Беларусі сустракалася святкаванне Дзядоў як ва ўласнай хаце, так і на могілках. Фальклярыстка падае запіс з Віцебшчыны, калі вясковая грамада сабралася на могілках:

*Стары:*
*У госці мы к вам прыйшлі*

*Хор:*
*Дзяды, дзяды!*

*Стары:*
*Малако прыняслі.*

*Хор :*
*Дзяды, дзяды!*

*Стары:*
*Не бойцеся, душы, ні ксяндзоў, ні цароў, самі свае прышлі...*
[3, кн. I, с. 322].

Несумненна, паміж тэкстамі "Дзядоў" Міцкевіча і "Стаўроўскіх дзядоў" узнікаюць "дыялагічныя" адносіны. Аўтар апошніх, выкарыстоўваючы знаёмыя сялянам слоўныя формулы замоў і апісанне абраду, імкнуўся пакінуць іх пазнавальнымі для адрасата сваёй творчасці, чым развіваў уласную літаратурную канцэпцыю засваення фальклорнага матэрыялу. Разглядаючы "Стаўроўскія дзяды" В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомля адзначаў: "Уся гэта легенда мае афарбоўку нашага народа; можа нават спісана з народнай казкі, але пры спісанні згладжаны ў ёй прывідныя рысы аўтэнтычнасці" [147, с. 510]. На нашу думку, страціўшы "аўтэнтычныя рысы", вершаванае апавяданне, створанае на аснове фальклорнага матэрыялу, набыло аўтарскае гучанне - займела арыгінальны аўтарскі стыль, што з'яўлалася смелай інавацыяй для тагачаснай літаратуры, створанай на беларускай мове.

Падобны метад літаратурнай апрацоўкі фальклору і вераванняў беларусаў праяўляецца і ў іншых творах В. Дуніна-Марцінкевіча, напрыклад, "Купала", "Травіца брат-сястрыца", "Шчароўскія дажынкі". Аўтар у гэтых творах прадстаўляе літаратурную апрацоўку абрадаў адпаведна: купалля і ўшанавання язычніцкага бога Лады; вясельны абрад; абрад свята Дажынкі.

У развіцці традыцыі паэтычнага даследавання фальклору і вераванняў, выразна акрэсленай Міцкевічавымі "Дзядамі", значную ролю адыграла

творчасць Ф. Багушэвіча. Хоць непасрэдныя судакрананні твораў Багушэвіча з Міцкевічавымі "Дзядамі" на ўзроўні рэмінісцэнцыі!, алюзій або цытат не выяўляюцца. Агульная ж заканамернасць літаратурнага працэсу дазваляе сцвярджаць, што літаратурны набытак папярэднікаў Багушэвіча, якія абапіраліся на спадчыну вялікага навааградчаніна, у тым ліку і ідэі, выкладзеныя ў паэме "Дзяды", стварылі эстэтычнае і аксіялагічнае поле, што стымулявала творчыя прыярытэты Багушэвіча.

Засяроджваючы ўвагу на паўсядзённых, побытавых абставінах жыцця селяніна ў сваёй паэзіі, чым, безумоўна, абвастраў сацыяльныя аспекты ў сваіх творах, Багушэвіч не мог спыняцца толькі на сінхранічнай, сучаснай яму экзістэнцыйнай карціне, выкарыстоўваючы дзе-нідзе элементы пазітывізму і натуралізму, а павінен быў, дзеля ўсебаковага паказу светапогляду лірычнага героя, адлюстроўваць нацыянальна-духоўную, гістарычную памяць насельнікаў краю. А. Лойка заўважае: "...разгорнем "Дудку Беларускую" на вершах "Здарэнне", "Хцівец і скарб на святога Яна". "Гдзе чорт не можа, там бабу пашле", "Быў у чысцы" з іх паглыбленнем у свет вясковых прымхаў, легенд, чартаўшчыны; ці не павее ад іх тым жа, чым уражваў "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" Я. Барцоўскага?!" [91, с. 257] Безумоўна, зборнік "Шляхціц Завальня..." з-за яго шматахопнасці, шырыні апісаных з'яў можа разглядацца як цэнтральны твор дадзенага кірунку літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аднак, як адзначалася вышэй, першапачаткова ў краі такі кірунак літаратуры прадставіў у сваіх баладах і паэме "Дзяды" Адам Міцкевіч. Гэта заўважае А. Макмілін, і, супастаўляючы паэзію Міцкевіча і Багушэвіча, прыходзіць да высновы: "Існуе тыпалагічная роднаснасць паміж некаторымі вершамі Багушэвіча і творамі Міцкевіча. У Багушэвіча "Быў у чысцы" выкарыстаны, напрыклад, беларускі народны матэрыял, які паўплываў на II частку "Дзядоў"  [99, с. 278].

Калі ў "Дзядах" Міцкевіча пакаранне грэшнікаў, якія томяцца ў чысцы, сімвалізуе сабой веру ў вышэйшую справядлівасць і гармонію, якую прынясуць адкрытыя стасункі свету існага і свету душаў, то ў Багушэвіча больш увагі надаецца пафасу праўды. Багушэвіч, згодна з новымі гістарычнымі ўмовамі "прызямляе" іншасвет, робіць яго больш адчувальным, нібыта прадказанне будучых сацыяльна-дэмакратычных пераўтварэнняў. Таму стыль, які абірае Багушэвіч - размоўны, гутарковы, нібыта вершы напісаны не для чытання, а для слухання. Падобны прыём мы бачым у гутарках Сыракомлі. Аднак насычаныя крытычнымі элементамі вершы Багушэвіча амаль пазбаўлены ўзнёслага рамантычнага лірызму. Нават у фалькларыстычных творах сустракаюцца рытарычныя фігуры, характэрныя для публіцыстыкі, сацыяльных праклламацый:

*З мужыкоў тут не надта каб шмат,*
*А ўсё болей дык багатых паноў,*
*На зямлі адцярпеўшы наш брат*
*На той свет, як па масле пайшоў...*
"Быў у пысцы" [11, с. 71]

Рамантычныя ідэі, якія выпрадукавала літаратура XIX ст. паступова трацілі свой запал. Аднак патрэба ў творах-выразніках нацыянальнага і сацыяльнага патэнцыялу, які ўжо быў назапашаны ў беларусаў, была даволі вялікай. Таму рамантычныя пачуцці ў Багушэвіча не знікаюць цалкам, а толькі прыхоўваюцца знешнімі рэалістычнымі і натуралістычнымі элементамі. Такое спалучэнне, відавочна, на той перыяд мела большую паэтычную энергію, што выяўляецца ў вершах Багушэвіча, нягледзячы на іх стылістычную недасканаласць.

Багушэвіч, па азначэнню А. Лойкі, "першы буйны нацыянальны паэт" [91, с. 278], пасля яго новая беларуская літаратура стала здзейсненым фактам сусветнай культуры.

Дэкаданс канца XIX ст., з перавагай песімістычных настрояў, адбіваўся на беларускай літаратуры. Не спрыяў рамантычным парыванням і пазітывістычны погляд на рэчаіснасць, які, знішчаючы старыя ідылічныя ілюзіі, з жорсткай дакладнасцю апісваў гаротнае становішча сялян - пераважнай большасці беларусаў.

Аднак на пачатку XX ст. рамантызм у беларускай літаратуры атрымлівае новы імпульс. Разам з прагай сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці, якую выявіў у сваіх творах Францішак Багушэвіч, набірае моц нацыянальнае адраджэнне, мэта якога значна больш амбітная - пабудова сваёй беларускай дзяржаўнасці.

У Беларусі склалася сацыяльна-палітычная і гуманітарная сітуацыя, якая супадала з сітуацыяй Рэчы Паспалітай пачатку XIX ст.: адчуванне ў грамадстве паняволенасці і імкненне да стварэння самастойнай дзяржавы.

Несумнены факт, што Янка Купала ў сваёй творчасці абапіраўся на здабыткі рамантызму першай паловы XIX ст., чаго аб'ектыўна вымагала нацыянальнае Адраджэнне Беларусі пачатку XX ст. Але цяпер у паняцце *нацыянальны* укладаецца іншы сэнс. Калі ў часы паўстанняў 1830 і 1863 гадоў *нацыянальны* было сінанімічна *грамадзянскі,* то ў новы час паняцце *нацыянальны* ўбірае ў сябе этнаграфічныя атрыбуты, асноўным з якіх выступае мова. Нягледзячы на змену адраджэнскага вектару ў бок *нацыянальнага,* дасягненні вялікага рамантызму XIX ст. у асноўным супадалі з мэтамі "неарамантызму" Янкі Купалы. Безумоўна, мы не знойдзем у творчасці Янкі

Купалы ні байранічнага героя - "змесціва сусветнае тугі", ні "лішняга чалавека". Так, у яго творах дастаткова песімізму і жалю (напрыклад, паэма "Адвечная песня"), але ж за гэтай тужліваю заслонаю, паводле Максіма Гарэцкага, бачыцца "абурэнне, гнеў, жаданне лепшага, імкненне зрабіць жыццё на іншы лад" [33, с. 327]. Таму больш блізкай па духу для Янкі Купалы будзе не заходнееўрапейская плынь рамантызму, а, паводле азначэння Адама Міцкевіча, "літоўская школа польскага рамантызму", роднасная не толькі па геаграфічна-ландшафтавых фактарах, але і па маральна-эстэтычных - спробай пранікнення ў глыбіні народнае душы і пошуку ўплыву на душу народнае адзінкі. Таму асабліва вызначальнай для Янкі Купалы ў гэтым рэчышчы робіцца творчасць песняра Літвы.

Нацыянальная гісторыя і фальклор, гераізацыя мінулага і гранічная напятасць патрыятычнага пачуцця - найпершыя спадчынныя рысы міцкевічаўскага рамантызму, актыўна выяўленыя і ў творчасці Янкі Купалы [8, с. 12].

Тыпалагічная сувязь з "Дзядамі" Міцкевіча прасочваецца ў многіх вершах Янкі Купалы, паэмах "Курган", "Сон на кургане", "На куццю", "На Дзяды", "Зімою", некаторых частках паэм "Яна і я", "Адвечная песня" (Гэта адзначаюць у сваіх працах А. Лойка, С. Мусіенка, У. Конан). Адзін са зборнікаў паэта мае назву "Гусляр" - ці не новая іпастась "валхвяца (жраца) і паэта" з "Дзядоў" Міцкевіча. Несумненна, у сваіх паэмах Купала развівае ў беларускай літаратуры Новага часу рамантычную традыцыю засваення фальклору, а таксама выкарыстання народнай тэургіі.

Безумоўна, вельмі блізкія "Дзядам" паэмы Янкі Купалы "На Дзяды" і "Зімою". У першай на кантэкстуальную сувязь з Міцкевічавым творам указвае сама назва, а таксама месца дзеянне, дзе разгортваюцца падзеі. На вясковых могілках, у час Дзядоў з'яўляецца дух маці, якая апавядае пра сваіх сыноў, што не слухалі яе калі раслі, і пачалі здзеквацца з яе, калі сталі дарослымі. Янка Купала, у адрозненне ад духаў, што прылятаюць на абрад у II частцы "Дзядоў", не ўкладвае ў словы духа маці павучанне, а толькі жаль і скаргу. У гэтым яна падобная да Плачкі са "Шляхціца Завальні" Яна Баршчэўскага. Фактычна Янка Купала, выкарыстоўваючы рамантычную метадалогію, стварае разгорнутую сімвалічную карціну. Вобраз духа маці выступае алегорыяй Радзімы-Беларусі, якая калісьці мела "княжацку карону", шмат "нязмераных ніў", "зверу ў пушчах", мела свае "гранічныя вехі" і

*Залатыя думкі ткала*
*З шчасця і свабоды...*

[80, с. 74]

Аднак з-за неразумных дзеянняў яе сыноў яна стала гаротнай "відмай", што вымушана бадзяцца па свеце.

Вобраз распятай радзімы - *"суд судзіў, што я - не я ўжо, і распяў на крыжы"* [80, С.77] тыпалагічна адпавядае вобразу распятай Польшчы, які мы бачым у НІ частцы "Дзядоў" Адама Міцкевіча. Відавочна, у гэтым творы Янкі Купалы за шэрагам літаратурных сімвалаў і алегорый праступае дума пра мінулае Беларусі, пра яе нялёгкае эканамічнае становішча, і мроі пра адраджэнне старой-новай дзяржавы, з захаваннем адметнасці, павагі да чалавека працы, з аховай нацыянальнай годнасці народа, што жыве на сваёй зямлі.

У паэме "Зімою" Купала выкарыстоўвае той жа фальклорны сюжэт, што і Міцкевіч у ІІ частцы "Дзядоў'", што і Сыракомля, у вершы "Паштальён". У лютую сцюжу жанчына замярзае на дарозе. У Міцкевіча і Купалы яна, несучы ў руках дзіцё, ішла да панскага двара. І калі ў "Дзядах" яе па загадзе пана праганяюць ад брамы, і аўтар абвінавачвае канкрэтную асобу, якую чакае справядлівая Божая кара, то ў Купалы - вінаватыя ў яе смерці сацыяльныя абставіны.

*Бядак жыве толькі сягоння,*
*Дзён лепшых яму не чакаць;*
*Цар-голад няшчаснага гоне*
*Крывавага хлеба шукаць...*

[80, с 10]

Таксама варта адзначыць, што прывід жанчыны прыходзіць да людзей не толькі на "Дзяды", а пастаянна з'яўляецца на дарозе, як жахлівы напамін пра несправядлівасць, што пакуль існуе на гэтай зямлі.

Праекцыя гэтых паэм Янкі Купалы на "Дзяды" Адама Міцкевіча выяўляе літаратурныя інавацыі беларускага аўтара, дэманструе як гістарычныя змены ў грамадстве ўплываюць на творчыя задачы пісьменніка. Відавочна, на пачатку ХХ ст. абвастрыліся сацыяльныя праблемы ў Расійскай імперыі, на якія паэт, выразнік народны дум, не мог не адрэагаваць. Таксама ў тэхніцы літаратурнага майстэрства адбыўся зрух ад рамантызаваных, узнёслых, але лёгка пазнавальных вобразаў, да вобразаў сімвалічных, шматгранных, што аб'ядноўваюць розныя рысы пэўнай з'явы.

Важную ролю для разумення судакрананняў творчасці Янкі Купалы і "Дзядоў" Адама Міцкевіча адыгрывае невялікі, незакончаны твор беларускага паэта "Урывак з драматычнай паэмы". Напісаны ён па адных звестках у 1910, па іншых - у 1911 г. Вядома, што менавіта ў той перыяд Купала актыўна даследуе творчасць Міцкевіча і перакладае яго творы. Гэтак 1910 г. датуецца пераклад

Уступу з "Конрада Валенрода", а ў 1911 і 1912 гадах паўсталі пераклады баладаў "Пані Твардоўская" і "Ваявода" (Czaty).

Энцыклапедыя Янкі Купалы пра "Урывак з драматычнай паэмы" падае: "...Твор арыгінальны ў стылістычных адносінах, напісаны пад выразным уплывам рускага неарамантызму пачатку XX ст., які культываваў дахрысціянскую старажытнасць, міфалогію і інш. Адчуваецца уплыў Карынфскага, з якім сябраваў Купала ў пецярбургскі перыяд жыцця. Гэта выявілася ў абмалёўцы жанравых сцэн (рытуальныя маналогі і харалы, звароты Няўзіры і інш.) у тыпізацыі мовы, шырокім ужыванні старажытных замоў, клічаў..." [81, с. 617]. Далей аўтар артыкула М. Грынчык заўважае, што твор Купалы пераклікаецца з драмамі Ю. Славацкага "Ліля Венэда" і "Баладына" [81, с. 617]. Указанне на паралелі з Міцкевічам адсутнічаюць. Асноўнымі творчымі "генератарамі" выступаюць Карынфскі і Славацкі.

Насамрэч крэда сваёй творчасці Апалон Карынфскі сфармуляваў у вершаваным уступе да кнігі "Бывальщины...":

*Весь очарован стариною -*
*Я жил в лучах ее зари;*
*Волхвы, гусляры и цари,*
*Седых веков богатыри...*
*Перекликалися са мною.*
[75, с. 4]

А. Карынфскі быў даследчыкам і інтэрпрэтатарам рускага фальклору, таму, безумоўна, сваім аўтарытэтам і ўважлівым стаўленнем да творчасці Янкі Купалы спрыяў фармаванню ў беларускага паэта зацікаўлення да фальклору свайго народа. Купала, відавочна, мог выкарыстоўваць творчыя "напрацоўкі" свайго старэйшага паплечніка. Але ж неарамантызм Карынфскага пазбаўлены моцнай адраджэнскай асновы, а прыёмы стылізацыі і пераймання, якія выкарыстоўвае Карынфскі, сведчаць, што яго творчасць блізкая да мадэрнізму, толькі сродкам мадэрнізацыі выступае фальклор. Гэтую літаратурную плынь умоўна можна назваць "фальклярызмам". Для Купалы ж народная творчасць і легендарная даўніна былі сродкамі ўзвышэння і гераізацыі самога народа, пранікнення ў душу кожнага яго прадстаўніка, каб даць ёй упэўненасць і новы гарт.

Што датычыцца драмы прадстаўніка польскага рамантызму Ю. Славацкага, з якімі М. Грынчык супастаўляе "Урывак з драматычнай паэмы", то "пераклiканне" заўважаецца збольшага у намечаных Купалам сюжэтных лініях - канфлікт паміж двума родамі Лагойдаў і Гасцілаў

некаторымі рысамі падобны да канфлікту паміж плямёнамі лехетаў і венэдаў у драме "Ліля Венэда". Аднак тое ж мы можам назіраць і ў іншых літаратурных творах, напрыклад, у Шэкспіра (Капулецi і Мантэкі ў трагедыі "Рамэа і Джульета"). Сам Славацкі пісаў пра "Баладыну": "напісана яна так, як мог бы яе скласці сам народ" [143, с. 42]. Гэтыя словы можна аднесці і да "Лілі Венэды", задуманай як наступная частка легендарна-паэтычнай трылогіі. Фактычна ў гэтых драмах Славацкі выступаў як казачнік, што апавядае павучальнае паданне-прыпавесць. Купала ж ва "Урыўку з драматычнай паэмы" не прыдумваў за народ гістарычную легенду, а паэтычна рэканструяваў сапраўднасць, рэчаіснасць. І ў гэтым Купала ішоў услед за Міцкевічам.

Паралелі выяўляюцца пры супастаўленні "Урыўку з драматычнай паэмы" Купалы з паэмай "Дзяды" Міцкевіча, асабліва з яе I і II часткамі і IX сцэнай III часткі, дзе паказана святкаванне Дзядоў.

Як у "Дзядах", так і ва "Урыўку..." апісваюцца абрады народных вераванняў - пакланенне продкам ("Дзяды") і пакланенне Перуну ("Урывак..."). Калі Міцкевіч "рэканструяваў" сучасны яму абрад - спалучэнне старажытнага паганскага павер'я з хрысціянствам, то Купала звярнуўся да дахрысціянскіх вераванняў продкаў.

У абодвух творах дзеянне адбываецца на ахвярным месцы - у Міцкевіча - гэта капліца на могілках, у Купалы - святы дуб. (Дарэчы, у IX сцэне III часткі "Дзядоў" варажба старога Гусляра адбываецца таксама каля старога дуба, што сведчыць пра блізкасць этнаграфічных крыніц абодвух твораў.)

У Купалы абрад вядзе галоўны варажбіт Баймір, у Міцкевіча - варажбіт і народны паэт Гусляр. Таксама, як і ў Міцкевіча, чаго, дарэчы, няма ў згаданых драмах Славацкага, у творы Купалы ўведзены калектыўны персанаж - Хор - вобраз народнае грамады.

Функцыянальна супадаюць ролі Хору ў "Дзядах" і Хору ва "Урыўку". У абедзвюх паэмах Хор некалькі разоў паўтарае апорныя фразы вядучага варажбіта. Напрыклад, у "Дзядах":

C h ó r
*Ciemno wszędzie, głucho wszędzie,*
*Co to będzie, co to będzie?* [9]
[117, с. 21]

**Х о р**
***Цёмна людзі... Глуха, людзі...***
***Штосьці будзе... Штосьці будзе...***
**[117, с. 21]**

Ва "Урыўку...":

Х о р

*Хто мае слух, хай чуе той,*
*Хто мае вочы, хай глядзіць...*

[80, с. 129]

Таксама як і ў "Дзядах" Хор ва "Урыўку" вядзе дыялогі з іншымі героямі: заклікае, запытваецца, падказвае ім, што рабіць, дае парады. Напрыклад:

C h ó r
(да духаў продкаў)

*Mówcie, komu czego braknie,*
*Kto z was pragnie, kto z was łaknie...*[10]

[117, с. 24]

Х о р
(да Няўзіры)

*Кажы, кажы! Мы просім шчыра!*
*Суседскай просьбай не ганьбуй...*

[80, с. 129]

У абодвух творах Хор, быццам голас народа, пацвярджае за персанажамі маральныя, справядлівыя перакананні; апісвае, выкарыстоўваючы народныя параўнанні, дзеючых асоб, характарызуе іх.

Сустракаюцца ў тэксце "Дзядоў" і "Урыўка..." функцыянальна падобнае выкарыстанне народных заклёнаў:

G u ś l a rz

*Precz stąd na lasy, na rzeki,*
*I zgiń, przepadnij na wieki!*[11]

[117, с. 64]

***Хто чаго, скажэце, прагне,***
***Хто хгяможаны, хто смагне?***

**[117, с. 25]**

Гусляр

***Прэч у гай, лясы, на рэкі,***
***Згінь і прападзі навекі!***

**[117, с. 65]**

Б а й м і р

*Заклён, праклён на чорны бор,*
*На блудны яр, на скрутны вір,*
*Увысь і ўніз, удоўж і ўшыр!*
[80, с. 132]

Купала ва "Урыўку" ўжывае той жа матыў народнай песні, які ёсць у першай частцы "Дзядоў" Міцкевіча:

C h ó r   m ł o d z i e ń c ó w

*Od lasu para gołąbków leci,*
*Para gołąbków, a orlik trzeci;*
*Uszłaś, gołąbko, spojrzy do góry,*
*Czy jest za tobą mąż srebnopióry...* [12]
[117, с. 100]

Л у н я н к а

*Лісць шырокі на каліне,*
*А шырэйшы - на дубочку;*
*Адзінокі на галіне*
*Кліча голуб галубочку.*

*А над імі паверх поля*
*Ястраб лётае ў загоне...*
[80, с. 135]

Можна нават дапусціць, што Купала робіць інтэрлінгвістычныя цытаты "Дзядоў" Міцкевіча:

**Х о р   ю н а к о ў**

***Купае галубку і голуба вецер.***
***Лятаюць ў пары... Саколік там трэці.***
***Галубка зляцела, а потым угору***
***Пагляд узнімае - дзе муж срэбнапёры***
**[117, с. 191]**

Л у н я н к а
(адна)

*Ой, чарнявы Зямігудзе,*
*Што-та будзе, што-та будзе?*
*Не на шчасце ўсё варожа,*
*Хіба ты паможаш, божа?*

[80, с. 136]

У прыведзеным прыкладзе не толькі ўжыта фраза, якая выпадкова ці не выступае як пераклад знакамітага рэфрэна "Дзядоў" *co to będzie, co to będzie?* Але ж і зварот Лунянкі да Бога, можа быць прачытаны, як парафраза з Міцкевіча:

C h ó r

*Sprawiedliwie zrządzenia Bożei*
*Bo kto nie był ni razu człowiekiem,*
*Tomu człowiek nic nie pomoże...*[13]

[117, с. 44]

Нягледзячы на стылістычнае і сюжэтнае падабенства "Урыўка..." Купалы і пэўных частак драматычнай паэмы Міцкевіча, якое выяўляецца пры тэксталагічным аналізе твораў, немагчыма адназначна сцвярджаць, што Купала пэўным чынам быў залежным ад Міцкевіча, як, напрыклад, Славацкі ў "Кардыяне" ў дачыненні да паэмы "Дзяды". Адчуваючы адзінакроўнасць вытокаў свайго і Міцкевічава паэтычнага натхнення, Купала не столькі патрапіў у імклівую плынь творчасці наваградскага генія, колькі свядома чэрпаў адтуль красу і моц слова, чым, быццам каталізуючы, узмацняў сваю арыгінальную творчасць.

Элементы паэтычнага засваення беларускага фальклору і вераванняў, якое распачаў у Беларусі Міцкевіч, можна прасачыць у творчасці беларускіх пісьменнікаў першай паловы XX ст. Цёткі, Якуба Коласа, М. Багдановіча і інш.

Рамантызм Купалы, які адносна "рамантычнага пералому" пачатку XIX ст. правільней было б называць неарамантызмам, выступае як кульмінацыйны этап гэтага напрамку паэзіі.

М. Тычына піша: "Фальклорныя інтарэсы Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Гарэцкага, Ядвігіна Ш. былі цесна звязаны з

***Справедлівы Твой прысуд, о, Божа!***
***Хто не быў ні разу чалавекам,***
***Чалавек таму не дапаможа...***
**[117, с. 45]**

высокай грамадзянскай місіяй іх літаратурнай творчасці. Іх фальклярызм быў мастацкім. Яны шукалі ў вуснай народнай творчасці не проста павучальныя прыклады паводзін, як гэта назіралася ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, не толькі элементы крытычных адносін да існуючага ладу, якія актыўна выкарыстоўваў у сваіх творах Ф. Багушэвіч. Яны бачылі ў народных песнях і казках выяўленне народнай псіхалогіі, "беларускай душы" [156, с. 72-73].

Творчасць Міцкевіча, безумоўна, была прыкладам для такога стаўлення да фальклору. Паэзія аўтара "Дзядоў", скіраваная на "духоўную эвалюцыю, на пранікненне ў таемнае, вызваленне творчага патэнцыялу чалавека і ўдасканаленне грамадскага жыцця, выяўляючы засяроджанасць на касмічных, гістарычных і эсхаталагічных перспектывах чалавечага існавання" [107, с. 119] стварыла актыўны доўгатрывалы гуманітарны дыскурс, дзе сінтэзаваліся этнагенетычная вербальная спадчына краю і літаратурныя інавацыі.

## 3.2 Вобраз Айчыны ў "Дзядах" і ў творах беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX ст.

Тэма Айчыны - асноўная тэма Міцкевіча. Ён адзін з першых у еўрапейскім рамантызме ўзняў яе, напоўніў змагарным пафасам і наймацнейшым пачуццём любові. Безумоўна, на гэта паўплывала палітычнае становішча роднага краю Міцкевіча, спрыяў феномен прыцягальнасці праўдзівых падзей. Але як і з фальклорам, публіцыстычнасць і дакументальнасць у "Дзядах" праходзіць праз той жа магічны крышталь паэзіі, узмацняецца, убірае ў сябе яскравыя фарбы, вобразы і пачуцці аўтара. Усе гістарычныя падзеі набываюць арэол лёсапрызначэння, падпарадкоўваюцца логіцы служэння Айчыне.

Вобраз Айчыны ў Міцкевіча дуалістычны. З аднаго боку ён экстравектарны, скіраваны па-за асобу лірычнага героя. Санет "Да Нёмана", напісаны ў ранні віленска-ковенскі перыяд творчасці паэта, пасля цыкл "Крымскіх санетаў" рэпрэзентуе менавіта такі вобраз Айчыны. Айчына дзесьці далёка, за часавымі і прасторавымі межамі дасягнення лірычнага героя, яна па незалежных ад яго прычынах пакінута, і чым далей ад яе, тым яна больш прывабная, больш любімая, жаданая. Усе яе адметнасці ідэалізуюцца. На радзіме былі сябры, Богам дадзенае каханне, мэты існавання і змагання за справядлівасць, там былі духоўныя спрадвечныя карані і жыццёвая праўда. На адлегласці часавым ці на выгнанні ёсць толькі адбітак Айчыны, ёсць яе рэха і памяць пра яе.

Гэты экстравектарны вобраз Айчыны прааналізаваны У. Мархелем у раздзеле "Матывы радзімы ў творчасці Адама Міцкевіча і яго паслядоўнікаў на Беларусі", змешчаным у яго манаграфіі "*Ты як здороўе...* " (1998).

Пра такі ж самы экстравектарны вобраз Айчыны ў творчасці Міцкевіча піша І. Багдановіч, параўноўваючы любоў да радзімы з рыцарскім служэннем панне сэрца, калі подзвігі, здзейсненыя на чужыне, прысвячаюцца ёй, адзінай берагіні сардэчнай моцы рыцара [6, с. 19-20].

У "Дзядах" вобраз Айчыны іншы - інтравектарны. Айчына быццам бы знаходзіцца ў духоўным целе паэта - ён адчувае боль яе народа, як боль плода адчувае маці, ён "цалкам у Айчыну пранікнёны", ён яе прадстаўнік на выгнанні ці нават, як Густаў з IV часткі, носьбіт яе мікракосму ў іншым свеце, свеце душаў. На чужыне паэт адчувае сябе часткаю Айчыны, ідзе бесперапыннае параўнанне тых краёў з родным, таго народу са сваім, і, вядома ж, параўнанне не на карысць чужых зямель і чужаземцаў. Гэта мы бачым у кожным вершы з "Урыўку" да паэмы "Дзяды".

У наступны пасля ІІІ часткі "Дзядоў" творы А. Міцкевіча - паэме "Пан Тадэвуш" - выяўлены дуалістычны вобраз Айчыны, адбываецца сінтэз інтравектарнага і экстравектарнага вобраза Айчыны. Пачынаючы з вядомага "ты - як здароўе" - уласцівасці інтравектарнага, паэт узіраецца ў сябе, у сваю памяць і пасля ў далеч, туды, дзе засталася айчынная старана - экстравектарная скіраванасць.

Матывы тугі па радзіме і вяртання на родную зямлю (экстравектарная ўласцівасць) праяўляюцца ў творчасці многіх землякоў Міцкевіча (Я. Баршчэўскага, Т. Лады-Заблоцкага, Янкі Лучыны, З. Манькоўскай і інш). Міцкевічаў алегарычны вобраз Айчыны-панны, якой трэба служыць па-рыцарску, у беларускай літаратуры атрымлівае іншую трактоўку: Айчына-маці, мы ўсе яе дзеці, яна аплаквае сваіх дзяцей, як, напрыклад, Планка ў "Шляхціцы Завальні" Я. Баршчэўскага, як дух маці ў паэме "На Дзяды" Янкі Купалы. Мы адчуваем сыноўскі доўг да яе, што моцна гучыць у творчасці паэтаў пачатку XX ст.: "*Устань ты старонка родная маці!", ".Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор, / Сваю матку-зямлю - Беларусь...* " (Янка Купала); "*Вісне скарга уздоўж Нёмна / Беларусі сына..."* (Якуб Колас), "*Маці родная, Маці-Краіна"* (М. Багдановіч). Паводле Багдановіча - Радзіму-маці неабходна не толькі абараняць ад чужынцаў і навал злашчаснага лёсу, але сваёй любоўю запаляць сэрцы суайчыннікаў, тым самым не даваць яе неразумным сынам *забыць* яе, *адрачыся.*

Інтравектарная ўласцівасць вобразу Айчыны *(Айчына ўва мне, я - яе частка, яе прадстаўнік*), прэзентаваны паэмай "Дзяды", таксама мае традыцыю ў беларускай літаратуры.

Акрэсліць тыпалагічнасць гэтай уласцівасці дапамагае супастаўленне апісання Пецярбурга ва "Урыўку" да паэмы "Дзяды" Адама Міцкевіча і апісанне Пецярбурга ў апавяданні Яна Баршчэўскага "Думкі самотніка" з цыклу "Шляхціц Завальня". І там і там мы бачым горад вачыма прышлых людзей, першы з іх выгнанец, другі пакінуў радзіму з-за цяжкага матэрыяльнага становішча. Абодва - прадстаўнікі свайго старажытнага краю, з яго гісторыяй, што сягае ў сівую даўніну. Яны належаць народу з высакароднымі звычаямі і багатай фальклорнай і кніжнай літаратурай. І стаўленне іх да горада, які сімвалізуе паняволенне, раскрывае іх унутраны свет і бачанні-мроі аб іх радзіме.

У Я. Баршчэўскага сама назва апавядання "Думкі самотніка" сведчыць пра душэўны стан героя, таму ў апісанні пераважаюць мінорныя і злавесныя вобразы:

*"Хутка зменіцца надвор'е - вецер з усходу; бялеецца вадою надзьмуты ветразь. О, людзі вялікага светуІ Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаўІ Над горадам вісяць густыя воблакі, а з іх нараджаюцца ўгары дзіўныя прывіды, у паветры будуе нехта велізарны замак, валы і сцены акружаюць яго, вырастаюць высокія гмахі і вежы, непадалёк становяцца ў баявы парадак на конях волаты-рыцары, а праз колькі хвілін відаць толькі руіны, а ўсё войска перамянілася ў клубы дыму; як вужака прабегла вогненная маланка пасярод хмары...* [15, с. 199]

Вось Пецярбург, убачаны аўтарам "Урыўка" (верш "Прадмесце сталіцы"):

*Бачны ўжо горад — а ўверсе застылі,*
*Як замкі дзіўныя на небасхоне -*
*Сцены, слупы, вежы, дахі і шпілі;*
*Як сад падвесны ў старым Вавілоне —*
*Дым сотняў комінаў: хмаркі, хмарыны*
*Вольна плывуць уздоўж краягляду —*
*Вунь там карарскай зіхцяць каланадай,*
*Тут палымнеюць агнямі рубінаў,*
*Лучацца, долу схінаюць вяршыні,*
*Кружаць, спускаюцца за далячыні,*
*Твораць выявы дамоў у прасторы —*
*Як быццам горад, што раптам паўстане*
*З люстра міжземнага чыстага мора...*

[118, с. 309]

І Пецярбург напярэдадні паводкі з верша "Аляшкевіч", які вельмі ўразіў Пушкіна:

*Дзьме цёплы вецер, і дымоў заторы,*
*Што ўсталі ў небе, як гіганцкі горад,*
*Нібыта прывіды чароўных даляў,*
*Рассыпаліся ў друз, на дол упалі.*
[118, с. 365]

Як бачым, "дымны горад" у "Прадмесці сталіцы" толькі кружыць, калоны лучацца вяршынямі ці схіляюцца долу. А ў вершы "Аляшкевіч" з падказваю "Дзень перад паводкай у Пецярбургу ў 1824 г." "дымны горад" раптам рассыпаецца ў друз. Менавіта ў гэтым вершы "гусляр" Аляшкевіч робіць грознае прароцтва для Пецярбурга і яго жыхароў. Рассыпаны "дымны горад" ёсць прыродны знак людзям.

У Баршчэўскага таксама "дымны замак" з усёй хмарнай рыцарскай раццю пераўтвараецца ў руіны. І далей мы чытаем:

*"О, людзі вялікага светуІ Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў, зразумейце гэтыя знакі ў пэўных абрысах аблокаў, якія заўсёды перад вашымі вачыма; Божая рука папярэджвае вас, што няма нічога сталага на зямлі, гмахі вашы ператворацца ў руіны, моц, багацце, гонар і слава рассеюцца і знікнуць, як лёгкі дым у паветры* " [15, с. 199].

Міцкевічава папярэджанне людзям і цару гучыць:

*І вы пасля распусты і пустой*
*Хвальбы ці сваркі п 'янай сціхлі ў сне,*
*Як глупыя звяркі, бо дасягне*
*Вас Божы гнеў, як паляўнічы той,*
*Што б 'е любога звера ў пушчы дзікай,*
*Пакуль не ўбачыць логавішчы дзіка...*
[118, с. 373]

Ян Баршчэўскі нібыта паўтарае, праўда, з іншай эмацыянальнай афарбоўкай, паэтычны прыём Міцкевіча і яго прароцтва. Магчыма, на сустрэчы пісьменнікаў у Пецярбургу, якая, як пераконвае М. Хаўстовіч, адбылася у канцы

20-х гадоў [15, с. 7], Міцкевіч паказваў Баршчэўскаму вершы з "Урыўку", бо напісаны яны былі ў Расіі ў 1824-1825 і 1827-1829 гадах. На правах версіі можна дапусціць, што Баршчэўскі свядома працытаваў Міцкевіча, каб публічна выказаць згоду з думкамі свайго земляка і звярнуць увагу чытачоў на забаронены царскім урадам твор Міцкевіча.

Так ці інакш, у Міцкевіча і Баршчэўскага мы назіраем аднадумства і паэтычную салідарнасць у ацэнцы адносін Расійская імперыя - Беларусь / Рэч Паспалітая.

Варта прывесці яшчэ адзін факт - напрыканцы 30-х - пачатку 40-х гадоў Ян Баршчэўскі сустракаўся ў Пецярбургу з Тарасам Шатэнкам. Безумоўна абодва пісьменнікі адчувалі роднаснасць у стаўленні да царскага самаўладдзя. Паэма "Сон" вялікага Кабзара Украіны матывам праклёну і прадказання страшнага суду для царызму і яго сталіцы, дзеля якой цар "балота засыпав благародными костями" казакоў, пераклікаецца з "Урыўкам" да "Дзядоў" Міцкевіча і "Думкамі Самотніка" Баршчэўскага:

*Біла хмара криє*
*Сіре небо. А в тій хмарі,*
*Мов звір в гаї виє.*
*То не хмара — біла пташка*
*Хмараю спустилась*
*Над царем тим мусянджовим,*
*І заголосила:*
*"І ми сковані з тобою,*
*Людоїде, змію!*
*На страшному, на судіщі*
*Ми Бога закриєм..."*

[165, с. 370-371]

Узнікае вобраз хмары, што спускаецца з неба, але ў Шаўчэнкі хмара пераўтвараецца ў птушку, у чым бачыцца повязь з народнай традыцыяй параўнання людскіх душаў з птушкамі, пра што гаворыцца і ў II частцы "Дзядоў". У паэме "Сон" таксама чуецца прароцтва будучага страшнага суду.

Такім чынам, у літаратурным супрацьстаянні Міцкевіч - Пушкін, пра якое мы ўзгадвалі вышэй, супастаўляючы "Меднага конніка" з "Урыўкам", пясняр Літвы атрымаў двух моцных "саюзнікаў", паколькі ні Я. Баршчэўскі, ні Т. Шаўчэнка, несучы ў сабе ідэал сваёй Айчыны, не маглі прыняць, па выразу М. Эпштэйна, "двухпланавасць" захаплення і асуджэння, прапанаваную рускім паэтам у сваёй паэме.

Падобна лірычнаму герою "Урыўка" да ПІ часткі "Дзядоў", носьбітам інтравектарнага вобраза Айчыны выступае галоўны герой паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча "Халімон на каранацыі".

Халімон, як і герой "Урыўка", знаходзіцца ў буйным сталічным горадзе-сімвале Расійскай імперыі, толькі на гэты раз перад намі Масква. Ён, у адрозненне ад героя Міцкевіча, прадстаўнік іншага саслоўя ліцвінаў-беларусаў - сялянства, - паказвае горад па-свойму, выкарыстоўваючы блізкія народнай свядомасці параўнанні:

*Убраны палацы, багі к вянцу дзяўчына!*
*На вокнах, на ганках атласы, дываны,*
*У квяцісты ўзоры дзіўна намаляваны!*
*Часам калі летам мак раскрасіць градкі,*
*Так цвіце ад Крамля да Цверскай рагаткі...*
[86, с. 496]

Дунін-Марцінкевіч абраў для сваёй паэмы гутарковы стыль, а пры паказе цара і яго вяльмож стыль набывае іранічна-насмешлівы тон:

*Вось к гораду царок прыхіліўся,*
*І шляхецкі маршал яму пакланіўся....*

*Камендант чакае царыцу, царочка*
*З кучай генералаў ад бела дзянёчка...*

*Далей яны пайшлі з кучай багамолаў*
*Чэсць гасподню чыніць да другіх касцёлаў;*
*А народ вясёлы бадзецца,*
*А свята малітва да неба нясецца!*
[86, с. 497]

У Міцкевіча - тон апавядання саркастычны:

*Вакол натоўпу, бы вакол камлыгі,*
*Цячэ плынь люду важнага паволі,*
*Як ход падчас абрадаў у касцёле,*
*Ці як ля берага на рэчцы крыгі.*
*Куды ж ідзе той статак сабаліны,*

*Не адчуваючы марозу кпіны?*
*Прагулка модная перад абедам.*
*А сцюжа? Ці хто думае пра тое,*
*Калі цар шпацыруе пехатою...*
*Вяльможы свой трымаюць ранг упарта,*
*Як шулерам раздадзеныя карты,*
*Тут каралі, там дамы і вольты...*
[118, С.319]

Для Міцкевіча адрасат яго паэзіі - вольны духам чалавек. Такога чытача падрыхтоўвае сюжэтнае развіццё паэмы, паказваючы на прыкладзе шляху Густава-Конрада станаўленне такога чалавека. Міцкевіч выкрывае і высмейвае недарэчнасць падпарадкавання адных людзей іншым, адной краіны ці народа іншаму.

Адрасат паэмы Дуніна-Марцінкевіча - прыгонны селянін. Таму ён абірае імітацыю народнай гутаркі, што дазваляла ў даходлівай форме выказаць тое, што было і ў паэме "Дзяды" Міцкевіча - ідэалы роўнасці, нацыянальнай годнасці. Халімон хоча папрасіць у цара, каб той меў "шчыру апеку" над мужыком і дзетак яго чытаць навучыў. Аднак разам з тым Халімон гаворыць, што цар:

*паляку, рускім сынам Русі-белай*
*Без выбару бацькай для грамады цэлай...*
[86, с. 498]

Быццам бы мімаходзь прамоўленая фраза "без выбару банькай і паляку, і рускім, сынам Русі-белай" адсылае да гісторыі краю Халімона, калі кароль быў выбраны, і да будучыні, калі не будзе самаўладдзя, а будзе іншы больш справядлівы дзяржаўны ўклад. Дунін-Марцінкевіч стварае дэмакратычны ідэал Айчыны, які бачыць сам. Пацвярджаюць гэта яго каментары да перакладу "Пана Тадэвуша":

*"Рэчпаспаліта. - Польша с Літвою і Руссю звалась Рэчпаспаліта. Дзеля таго яе (Польшу) так манілі, што народ быў вольны, правіўся законам, а кароль нічога не мог зрабіць, што ў том законе не стаяла, толькі сцярог, штоб людзе ад таго закону не атступалі"...* [133, с. 141]

Гаворачы пра Канстытуцыю Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г., Дунін-Марцінкевіч тлумачыць чытачу-селяніну:

*"... гэны закан быў вельмі мудры і для ўсех людзей меў прынесці шчасця. У том законе стаяла, што калі хто, хаця б із чужой зямлі, ступіць нагой на польскую, той мае быць вольным чалавекам..."* [133, с. 141]

Дунін-Марцінкевіч раскрывае само паняцце Айчына:

*"Атчызна. - Зямля, на каторай мы радзілісь, каторую ўпраўляем сваёй працай, на каторай пахаронены косці бацькоў, дзядоў дый праатцоў нашых, паветрыя, каторым мы атдыхаем, то завецца атчызна"* [133, с. 141].

Сучаснік Дуніна-Марцінкевіча Мікалас Акялайціс (Мікалай Акялевіч) у рэцэнзіі на пераклад "Пана Тадэвуша" крытыкуе гэта тлумачэнне: "Надта слабое тут даецца паняцце аб гэтым святым слове. Але ж якая гэта мова выкажа, што такое Айчына?" [133, с. 141] Бо бракуе ў тлумачэнні ўзнёсласці, а пераважае практычна-матэрыяльны падыход - *зямля, каторую ўпраўляем.* Але, на нашу думку, гэтае азначэнне Айчыны спалучае вельмі важныя канатацыі:

- зямля, на якой нарадзіўся жывеш і працуеш - т. зв. Малая радзіма;
- зямля, *дзе пахароненыя касьці бацькоў, дзядоў і праатцоў* -г. зн. усяго краю, з яго гісторыяй, абрадамі, светапоглядам.

Менавіта такі ідэал Айчыны мае герой Дуніна-Марцінкевіча - Халімон, што безумоўна супадае з ідэалам лірычнага героя "Дзядоў" Міцкевіча. Аднак выяўляе Халімон яго не так адкрыта, іншасказальна, быццам незнарок, тым самым фарміруючы вобраз Айчыны ў чытача. Халімон, як і Густаў-Конрад Міцкевіча - прыклад для свайго пакалення. Але прыналежнасць героя паэмы Дуніна-Марцінкевіча да сялянскага саслоўя абумоўлівала істотную рознасць: Міцкевіч звяртаўся да аднадумцаў, будзіў і ўзмацняў іх патрыятычныя пачуцці, скіроўваў іх у адзінае рэчышча; Дунін-Марцінкевіч вучыў і выхоўваў аднадумцаў.

Аналізуючы паэму "Халімон на каранацыі", В. Жураўлёў адзначае: "Пісьменнік (Дунін-Марцінкевіч - С. *М.)* не робіць тут якіх-небудзь адкрытых заклікаў і ў адкрытай форме не выступае з ацэначнымі каментарыямі. Але глыбокая думка падтэксту, як вядома, здольна працаваць не горш за сам тэкст... І ў дадзеным выпадку вывад напрошваўся нязмушана: калі там, на самым версе, на царскім троне, не вельмі дбаюць і клапоцяцца пра цябе, тваё жыццё, твой Край-бацькаўшчыну, то за "чэсць беларуску" ты павінен пастаяць сам і не вельмі разлічваць на кагосьці" [57, с. 104-105].

Калі гумар і дасціпнасць Халімона, як слушна адзначаў А. Лойка, робяць яго "непасрэдным літаратурным папярэднікам дзядзькі Антося з "Новай зямлі" [91, с. 165], то трывалы ідэал Айчыны Халімона, які грунтуецца на адчуванні Малой радзімы, выяўляе тыпалагічна-роднасныя паралелі з галоўным героем паэмы Якуба Коласа - Міхалам. Матывацыя і, калі так можна сказаць, "мэтывацыя"(бачанне далёкасяжнай мэты) імкненняў і ўчынкаў Халімона і Міхала супадаюць не толькі на вонкавым часава-прасторавым адцінку дзеяння, акрэсленага аўтарамі, але і на глыбінным архетыпічным узроўні. Абодва адстойваюць справядлівае жаданне - быць гаспадаром на сваёй зямлі. Аднак яно не замкнута само ў сабе, а сягае далей, да відарысаў ужо вялікай Айчыны. Пры супастаўленні на інтэртэкстуальным фоне "Дзядоў" Міцкевіча характараў: *Халімон* Дуніна Марцінкевіча - *Міхал* Коласа, - для абодвух герояў будзе справядліва выказванне Ж. Шаладонавай, якая даследуючы паэму "Новая зямля" Якуба Коласа, адзначае: "... поліфанічная, сімвалічна-ўскладненая сістэма вобразаў і малюнкаў нясе ў сабе скразную магістральную ідэю ўслаўлення, апявання Бацькаўшчыны, засяроджанага роздуму над яе супярэчлівым лёсам і складаным пошукавым шляхам беларусаў да духоўнае свабоды, дзяржаўна-прававой моцы і суверэннасці Айчыны" [57, с. 8]. Пры тым відавочна, што Міхал Коласа, паводле тыпалагічных абагульненняў, этапны, кульмінацыйны вобраз, падрыхтаваны папярэднім беларускім літаратурным працэсам.

Пафас "роднай вольнай зямелькі" і "справядлівай вольнасці", на якіх грунтуецца паняцце Айчына, адкрыта гучыць у публіцыстыкі Кастуся Каліноўскага. Прызнанне Каліноўскага, што "польскае дзела - гэта і нашае дзела", указвае на повязь яго разумення Айчыны з ідэалам, апаэтызаваным Міцкевічам.

Перадумовай да нацыянальнага і сацыяльнага адраджэння краю і новага разумення яго часава-прасторавых межаў стала паэзія Ф. Багушэвіча. Ён адзін з першых у прадмове да зборніка "Дудка беларуская" вызначыў этна-нацыянальльныя межы Айчыны паводле лінгвістычнай прыкметы:

*"Можа хто спытае: гдзе-ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, едзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мозыра, ад) Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Віцебск, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак... "*

[II, с. 26]

Сацыяльна ўгрунтаваная паэзія Багушэвіча, узнятая на пратэсце перад існуючай побытавай карцінай краю, фармавала імкненні да пераўпарадкавання.

Крытыка як шлях ад супрацьлеглага надавала старым рамантычным узорам новыя магчымасці.

Адкрытым прапагандыстам экстравектарнага вобраза Айчыны у беларускай літаратуры выступае Янка Купала, працягваючы Міцкевічаў напрамак, паказаны ў санеце "Да Нёмана" і "Крымскіх санетаў". Аб гэтым сведчаць вершы "Над сваёй Айчызнай", "З песень аб сваёй старонцы", "Гэта крык, што жыве Беларусь", "Беларушчына", "Брату ў чужыне", "Мой край", "Над Нёманам" і інш. Істотна, што Купала, нягледзячы на яго цесныя кантакты з польскай літаратурай, услед за Багушэвічам, акрэслівае разуменне Айчыны этна-нацыянальнымі межамі:

*Рынкам жывога тавару няслава*
*Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,*
*Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава*
*Торг груганові вядуць між сабой...*

"Над Нёманам" [80, с. 173]

Край - не частка будучай свабоднай польска-літоўскай канфедэрацыі (нашчадак Рэчы Паспалітай), а самастойны, незалежны, годны. Думаць аб Айчыне, маліцца за яе, плакаць і ўздымаць яе з "зімовага сну", любіць як маці, што дала жыццё, навучыла мове, дала песні - абавязак беларуса.

Прамоўленае Міцкевічам "Я - ёсць Айчына" і дыялектыка дуальнасці "Я - Айчыне" і "Айчына - мне", той інтравектарны вобраз Айчыны, экспанаваны паэмай "Дзяды", знаходзіць водгук у Купалы.

У Купалавым праграмным санеце "Бацькаўшчына" заключныя тэрцэты - выснова санета — змяшчаюць у сабе паэтычнае прызнанне-сцвярджэнне:

*...Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,*
*Узрос з яе й чужых з яе не скінуў косці,*
*Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.*

*І калі здзекваецца нада мной хтосьці -*
*Над Бацькаўшчынай здзекваецца маёй,*
*Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.*

[80, с. 249]

Тэма Айчыны, распачатая Міцкевічам і прыўнесеная ім на еўрапейскую літаратурную арэну, на радзіме паэта набыла трывалую літаратурную традыцыю. Разам з пераасэнсаваннем паняццяў грамадзянскага і нацыянальнага,

што адбывалася ў Літве-Беларусі на працягу XIX ст., на фоне паэтычнай канстанты вобраза малой радзімы прасочваецца эвалюцыя вобраза вялікай Радзімы - Айчыны: ад агульнарэчыпаспалітаўскага, гістарычна-сентыментальнага, літоўска-старасвецкага да адраджэнскага, этна-нацыянальнага, беларускага. Нягледзячы на звужэнне геаграфічных, вонкавых межаў, адыход ад інтэрнацыянальнасці ў разуменні краіны, бо, відавочна, інтэрнацыянальнае ў той перыяд (маецца на ўвазе грамадзянскі інтэрнацыяналізм Рэчы Паспалітай - Рэч Паспалітая абодвух народаў) размывала адметнасць краю, тармазіла працэс самаідэнтыфікацыі беларусаў, агульны для славянскіх народаў у XIX ст., паэтычнае даследаванне феномена Айчыны, здзейсненае пісьменнікамі Беларусі, паспрыяла фарміраванню нацыянальнай свядомасці і самавыяўленню беларусаў, што каштоўна не толькі для беларускай нацыі, але і для еўрапейскай супольнасці як выяўленне, рэпрэзентацыя і ахова ад ніверліравання асобнай этнаграфічнай, этна-лінгвістычнай, аксіялагічнай, сацыяльна-палітычнай, гістарычнай і культурастваральнай прасторы.

## 3.3 Тэма паэта і паэзіі ў паэме "Дзяды" і ў творах беларускіх пісьменнікаў XIX - пачатку XX стст.

*Айчына* - як маральна-духоўная і сацыяльная катэгорыя - найгалоўнейшы аб'ект літаратуры беларускага рамантызму. Аднак немалаважная пры гэтым роля творцы - суб'екта літаратуры. Тэма *паэта і паэзіі*, пэўным чынам, самарэфлексія пісьменнікаў, займела трывалую традыцыю ў беларускай літаратуры.

У "Дзядах" Міцкевіча мы бачым трыадзінства *свету метафізічнага* ("свет душаў"), *свету існага* (рэальнага) і *свету асабовага* (мікракосм чалавека), якое грунтуецца на глыбокай веры ў такую светабудову. Гэта супадае са старажытнымі народнымі вераваннямі і хрысціянскім светаўспрыманнем. Не выпадкова замест Гусляра ў першасным, чарнавым варыянце II часткі "Дзядоў", старажытны абрад вядзе Ксёндз. І хоць пасля паэт замяніў Ксяндза на народнага "валхвяца і паэта", у закляццях Гусляра, скіраваных да непрыкаяных духаў, пастаянным рэфрэнам гучыць хрысціянская формула:

*У імя айца, сына, духа,*
*Накладаем Божы крыж...*
[117, с. 47]

*"Свет душаў"* уплывае на *свет існы* і *свет асабовы, свет існы* - на *свет асабовы.* Міцкевіч спрабуе вырашыць праблему зваротнага ўздзеяння *свету асабовага* як на *свет існы*, так і на "*свет душаў* І калі *свет асабовы* праз тытанічныя ўчынкі вялікіх людзей можа ўплываць на *свет існы* - і гэта мы бачым на прыкладзе гісторыі чалавецтва (у "Дзядах" вялікае значэнне маюць тэкставыя звароты да вялікіх палкаводцаў старажытнасці і сучаснасці, паэтаў і прарокаў), то як, якім чынам, чалавек (носьбіт *асабовага свету)* можа ўплываць на "*свет душаў*"? Прыклад Гусляра сведчыць аб магчымасці такога ўплыву: адзін дзень у год уменні і здольнасці Гусляра, майстэрства якога перадаецца з пакалення ў пакаленне, набываюць такую вялікую моц, што праз словы ён можа кіраваць "*светам душаў*" і тым самым уплываць на *свет існы.* І ў першую чаргу гэта прыклад для песняра, які мусіць імкнуцца да такой здольнасці і імкнуцца да ўздзеяння на душы людскія, і не ў адзіны адмысловы дзень з дапамогай таемных абрадаў і сакральных формул, а толькі праз сваю моц пачуцця. Гэтую моц Міцкевіч паставіць вышэй за ўсе дасягненні чалавецтва. Пра гэта паэт напіша ў "Вялікай імправізацыі":

*Так bliźnich rozrządzać muszę.*
*Nie bronią - broń broń odbije,*
*Nie pieśniami - długo rosną,*
*Nie nauką -prędko gnije,*
*Nie cudami - to zbyt głośno.*
*Chcę czuciem rządzić, które jest we mnie;*
*Rządzić jak Ty wszystkimi zawsze i tajemnie...*[14]

[118, с. 88]

І з гэтых пачуццяў павінна скласціся новая *pesń-tworżenie* - песня жыццятворная, што будзе кіраваць і весці за сабой людскія душы:

[14] ***Людзьмі таксама кіраваць я мушу!***
***Не зброяй - зброю нішчыць зброя,***
***Не песнямі - задоўга спеюць,***
***Не цудамі - іх зменіць мроя,***
***Не ведамі, бо парахнеюць, —***
***Але душэўнымі пачуццямі маімі,***
***Як, Божа, Ты кіруеш незаўважна ўсімі...***

**[118, с. 89]**

*Niech ludzie będą dla mnie jak myśli i słowa,*
*Z których, gdy zechcę, pieśni wiąże się budowa; -*
*Mówią, że Ty tak władasz!*
*Wiesz, żem myśli nie popsuł, mowy nie umorzył;*
*Jeśli mnie nad duszami równą władzę nadasz,*
*Ja bym mój naród jak pieśń żywą stworzył,*
*I większe niżli Ty zrobiłbym dziwo,*
*Zanuciłbym pieśń szczęśliwą!*[15]

[118, c. 88]

Такім чынам мэта паэзіі паводле "Дзядоў" Міцкевіча - "улада душаў": абудзіць, трапіць у рэзананс, скарэктаваць і ўзмоцніць лепшыя пачуцці чалавека - адзінкі народу, чым прывесці да ўсёахопнай гармоніі існавання. Задача паэта - пастаяннае ўдасканальванне сваіх пачуццяў і здольнасцей "індуктара" паміж светамі.

Калі для Міцкевіча беларускі Гусляр - гэта толькі першы этап да самапазнання, трывалы падмурак для далейшага ўзвышэння на шляху паэтычнага майстэрства, то для літаратараў краю вобраз Гусляра на доўгі час становіцца сімвалам народнага паэта-прарока. Часткова гэта можна растлумачыць тым, што III частка паэмы "Дзяды", дзе выкладаецца праграма паэзіі Міцкевіча ("Вялікая імправізацыя"), напісаная і выдадзеная ў эміграцыі, была ў Беларусі менш вядомая, чым II і IV часткі паэмы, якія былі апублікаваныя ў II томіку "Паэзіі", надрукаваным ў 1821 г. у Вільні. З другога боку, тым літаратарам, хто застаўся ў краі, і мог бачыць знутры ўсе сацыяльна-палітычныя праблемы, вобраз Гусляра - блукацца, мудраца і настаўніка - падаваўся больш арганічным. Літаратары Беларусі сярэдзіны XIX ст. відавочна разумелі, што для пераважнай большасці насельнікаў краю - дробнай шляхты і сялянства, гэты народны вобраз выклікаў большы давер, чым вобраз

**[15]*I будуць людзі для мяне, як думкі, словы,***
***З якіх я песні выкладу будову.***
***Ты валадарыш гэтак над зямлёй!***
***Табой падораную мову я шаную,***
***Калі дасі мне ўладу, роўную Тваёй,***
***Я свой народ ствару, як песню трапяткую,***
***І больш вялікае, чым Ты зраблю я дзіва -***
***Бо песня будзе назаўжды шчаслівай!***

**[118, с. 89]**

"летуценнага" паэта, які імкнецца "адарвацца ад зямлі" іісці да "вышэйшых сфераў".

У Яна Баршчэўскага ў "Шляхціцы Завальні" літаратар - гэта вандроўнік, які збірае паданні, як і Гусляр, выступае ў ролі скарбніка народнай мудрасці. У драме "Жыццё Сіраты" музыка-блуканец функцыянальна адпаведны Густаву з IV часткі "Дзядоў", але захоўвае ў сабе рысы народных апавядальнікаў.

Прывабнасць і сілу гусляроў - песняроў з народа, што маглі ўздзейнічаць на просты люд адчуваў У. Сыракомля. У сваім даследаванні "Мінск" ён прамаўляе: "Дудары, лірнікі, гусляры, што слодычай музыкі і хараством старых песень уплывалі на народ, засталіся гуслярамі, г. зн. набылі ў народнай памяці якісь незвычайны воблік. І гэтыя знахары, гусляры, дзяды, гэтыя ведзьмы як бы становяцца ўжо святарскаю кастаю крывіцкай славяншчыны... Варажбіт узняў да недасяжнае мары ўяўленне чалавека, уклаў душу ў чыста пачуццёвы свет" [147, с. 359].

У іншым артыкуле "Польскі казачнік" Сыракомля піша: "Усе еўрапейскія літаратуры адрадзіліся, калі, звярнуўшыся да народных каранёў, былі падмацаваныя вялікімі і датуль непрызнанымі ў паняверцы скарбамі, але народная фантазія прынесла паэтам большы пажытак, чым паважаныя дадзеныя халодным даследчыкам, якія хацелі з вуснаў народа вывесці высновы пра яго спрадвечны побыт, стасункі племя з племем або пра яго вераванні, уяўленні, ступень выхавання і маральнасці". [147, с. 485]

Фактычна Сыракомля раскрывае сваю паэтычную мэту. Ён у сваіх творах быццам бы пераўвасабляецца ў вясковага лірніка - новую іпастась Міцкевічавага Гусляра - што пяе і вядзе размовы з усім людам і кажа ад яго імя:

*Не я пяю - народ Божы,*
*Даў мне ў песні лад прыгожы,*
*Бо на сэрцы маю путы*
*І з народам імі скуты.*
[147, с. 89] (Пераклад Янкі Лучыны)

Падобнае казаў Конрад Міцкевіча ў "Вялікай імправізацыі" :

*Люблю я ўвесь народ! 1 як зямля людзей,*
*Наступныя і ўсе былыя пакаленні*
*Я прытуляю да грудзей...*
*З народам сэрцам і душою пабратаны...*
[118, с. 89]

Аднак Сыракомля не толькі забаўляе ці засмучае людзей сваім спевам, не толькі вучыць і настаўляе іх, але інфармуе аб падзеях, якія адбываюцца у Айчыне і далёка за яе межамі. І калі Міцкевіч словы Гусляра быццам бы перакладае для чытача на польскую мову, то Сыракомля ідзе далей, ён найбольш важныя паэтычныя пасланні сам стварае на мове простага люду. Пра гэта сведчаць два яго беларускія вершы "Добрыя весці" і "Ужо птушкі пяюць усюды". Рамантычнымі вобразамі-сімваламі "заходняга ветру", "вясны" яны пераклікаюцца з вершамі Міцкевіча "Пецярбург", "Рускім сябрам", змешчаным ва "Урыўку" да паэмы "Дзяды", аднак арыентаваныя на беларускамоўнага чытача ці слухача. Гэтыя вершы Сыракомля напісаныя паводле гістарычных падзей ("Вясны народаў", Кракаўскага паўстання 1848 г. і адмене прыгоннага права ў Расіі), з аднаго боку, выказвалі пачуцці і думкі беларусаў, а з другога боку - выводзілі саму Беларусь як асобны край на агульнаеўрапейскую арэну.

Менавіта дзякуючы вобліку "лірніка вясковага", зразумеламу і блізкаму жыхарам краю, Сыракомля стаў цэнтральнай літаратурнай постаццю краю ў сярэдзіне XIX ст. Ім быў распрацаваны адмысловы жанр народнай гутаркі, што дазваляў надзяляць паэтычным дарам простага чалавека, надзяляць яго тымі чароўнымі здольнасцямі, што і абраных Богам песняроў, гэтым самым робячы "ціхую рэвалюцыю", пераконваючы прыніжанага і прыгнечанага ў яго годнасці і роўнасці з іншымі.

Тую ж стратэгію працягнуў В. Дунін-Марцінкевіч ("Гапон", "Халімон на каранацыі"), але ж у яго "размове" з "простым людам" прысутнічае элемент дыдактычнасці і свайго роду падказкі правільных маральных паводзін.

Аднак, трэба адзначыць, што ў Дуніна-Марцінкевіча ёсць спроба іншага асэнсавання паэзіі. Гаворка ідзе пра драму "Апантаны". Галоўны герой - малады паэт Эдмунд - не можа знайсці сябе ў акаляючым асяроддзі, ён, як і Густаў, з IV часткі "Дзядоў" Міцкевіча, не зразумелы нават блізкім сябрам, сваёй каханай, для свайго героя знаходзіць выйсце ў "звышантрапалагічным скачку" - перанараджэнні Густава ў новага героя - Конрада, мэты, погляды і духоўная моц якога якасна адноўлены. Герой жа Дуніна-Марцінкевіча апынаецца ў ізаляцыі і тупіку, што вядзе да яго смерці. Тым самым Дунін-Марцінкевіч, пэўным чынам, прадказаў будучы крызіс рамантычнай літаратуры.

Гэты крызіс будзе адчувацца ў літаратуры пасля паражэння паўстання 1863 г.

Тэма *паэта і паэзіі, паэта і яго песні* - адна з асноўных у творчасці Ян а Лучыны. Яна ўзнікае як у беларускамоўных і польскамоўных яго творах, так і ў рускамоўных. Вершы "Пагудка", "Раскоша натхнення", "Да паэта", "Змрочныя думкі", "Курс усеагульнай літаратуры канца XIX стагоддзя", "По поводу 100 летней годовщины дня рождения лорда Байрона" так ці інакш прысвечаны

ей. Лучына звяртаецца да *паэзіі*, бо перакананы, што яна, будучы сугучнай з душой чалавека, можа супакойваць яго ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях, дае чытачу-аднадумцу маральныя сілы.

Цэнтральны твор Янкі Лучыны, які можа лічыць квінтэсенцыяй разваг і думаў паэта пра значэнне паэзіі і яе месца ў свеце, - паэма з адпаведнай назвай "З гісторыі жыцця і песні". Фактычна, у самой назве, Янка Лучына з'ядноўвае паняцці *жыццё* і *песня* ў адно непарыўнае цэлае. Паэма ўпершыню была апублікаваная ў 1898 г., пасля смерці аўтара. Калі дакладна яна была напісаная - невядома, але ўмоўна яе можна аднесці да мяжы 80-х - 90-х гадоў XIX ст.

Крытыкі, сучаснікі Янкі Лучыны, лічылі, што "новыя кірункі паэзіі на яго зусім не ўплывалі: яго настаўнікамі былі Адам Міцкевіч і перш за ўсё Уладзіслаў Сыракомля" [5, с. 121]. Таму, разглядаючы паэму "З гісторыі жыцця і песні", мы не можам абысці ўвагай знакамітую "Вялікую імправізацыю" Міцкевіча, якая таксама прысвечана тэме "паэта і паэзіі.

Як мы казалі вышэй, напісана "Вялікая імправізацыя" была ў 1832 г. у Дрэздэне, як II сцэна III часткі паэмы "Дзяды". Апублікавана ў тым жа годзе ў Парыжы.

Нягледзячы на досыць вялікі часавы прамежак паміж напісаннем "Вялікай імправізацыі" Міцкевіча і паэмы "З гісторыі жыцця і песні" Лучыны - каля 60 гадоў, - творы маюць пэўныя падабенствы.

Абодва - маналогі паэтаў, якія ставяць перад сабой пытанні - "што ёсць творчасць", "што ёсць паэзія". Пытанні не ўзніклі самі па сабе, штуршком да іх быў лёс лірычных герояў Лучыны і Міцкевіча.

Героі перажылі трагічнае каханне. Для Міцкевіча гэта рэальны факт яго біяграфіі. Лучына таксама стварае вобраз паэта, каханая якога разбівае яму сэрца, выходзіць замуж за іншага. Нам невядома, ці было такое каханне ў Лучыны, магчыма, паэт выкарыстоўвае шырока распаўсюджаны ў літаратуры сюжэт. Трагічнае каханне - як бы першая прыступка для асэнсавання таго, што дае імпульс да паэтычнай творчасці.

Іншая сітуацыя, якая зближае Конрада з "Вялікай імправізацыі" і лірычнага героя Лучыны, якая ўзмацняе трагізм твораў - гэта пэўная страта свабоды. Праз лірычнага героя Лучына ўзгадвае пра сваю цяжкую хваробу.

Конрад Міцкевіча знаходзіцца ў вязніцы.

Калі няшчаснае каханне магло быць імпульсам да творчасці, то трагічная сітуацыя зняволення пацвярджае, што творчасць не мае межаў, што *песня* дае моц не толькі выжыць, выстаяць перад цяжкім лёсам, але фактычна сама становіцца свабодным жыццём, пра якое мараць героі, і робіць іх, нягледзячы на немач ці сцены, дзейнымі асобамі.

У такой сітуацыі пытанне пачынае гучаць па-новаму: "Што я як творчая адзінка? Як вымяраецца мая паэтычная моц?"

Янка Лучына і Адам Міцкевіч лічаць сябе спадкаемцамі адных і тых жа паэтаў. У тэксце паэмы "З гісторыі жыцця і песні" маецца згадка пра Шылера.

*Gdym się wczytywał w dzieła Szyllera...*[16]

У паэме "Дзяды", да якой належыць "Вялікая імправізацыя" сустракаюцца наследаванні Шылера. Як і Міцкевіч, так і Лучына адчувалі на сабе моц паэзіі Байрана.

Янка Лучына ўслед за Адамам Міцкевічам стварае вобраз паэта-рамантыка, як бы задае тыя ж пачатковыя каардынаты для свайго лірычнага героя. Тыя ж ідэалы, падобныя цяжкімі выпрабаваннямі лёсы, тыя ж перажыванні кахання. Але ж паступова, у сваім развіцці герой Лучыны і герой Міцкевіча губляюць падабенства, яны як бы разыходзяцца ў сваім светаадчуванні.

Ужо ў другой страфе герой Лучыны ставіць пад сумненне дасягненні папярэдніх паэтаў:

*Bo mi wskazano, że tak nie bywa,*
*Jak to wygłasza chór wieszczów cały...*[17]

Праўда, Конрад Міцкевіча таксама паўстае супраць паэтычных дасягненняў папярэднікаў:

*Depcę was, wszyscy poeci,*
*Wszyscy mędrce i proroki,*
*Których wielbił świat szeroki...* [18]

[16] Тут і далей тэкст паэмы "З жыцця і песняў" Я. Лучыны цытуецца паводле фотаадбіткаў, ласкава прадстаўленых аўтару У. Мархелем. У перакладзе Р.Барадуліна: *Калі чытаў я Шылера чынна* [94, с. 92]

[17] ***Так не бывае, мне падказалі б***
***Як гэта хоча хор спецаў дбалы***
**(пераклад Р. Барадуліна) [94, с. 92]**
**(У арыгінале даслоўна *не спецаў,* а *паэтаў.)***

[18] ***Над вамі я стаю, паэты!***
***Над вамі, мудрацы, прарокі!***
***Якіх уславіў свет шырокі...***
**[118, с. 83]**

Аднак прычыны такога супрацьпастаўлення зусім розныя. Герой Лучыны сцвярджае, што ўсе ідэалы паэтаў абвяргае само жыццё:

*Życie żelazne wkłada ogniwa*
*Na nasze chęci i ideały...*

Конрад Міцкевіча, наадварот, адчувае, што менавіта ў гэты час, у гэтую хвілю, у пачуццёвым зеніце ён дасягнуў таго, чаго дагэтуль не змаглі дасягнуць іншыя паэты і пракрокі. Яго паэзія, як мы казалі вышэй, можа займець "уладу душаў", можа кіраваць душамі, можа сама змяняць жыццё чалавека. Уся вера продкаў, вера у беларускага чараўніка-гусляра, які мае здольнасць на абрадзе "Дзядоў" выклікаць як душы памерлых, так і душы жывых людзей, што знаходзяцца далёка ад месца абраду, вера ў абранасць медыума-імправізатара, што выступае індуктарам паміж светам духаў і светам людзей, была ўкладзена ў словы і пачуцці *Песні*, што нараджаецца тут жа, на нашых вачах.

Герой Міцкевіча праз сваю *Песню* дасягае азарэння і выходзіць на спрэчку з Богам, бо ён таксама творца і сам можа даць людзям шчасце.

Герой Янкі Лучыны спрабуе адмовіцца ад рамантычных *омамеń (зманаў),* нават насуперак сваім пачуццям, імкнецца стаць, як ён сам кажа, цалкам рэальным:

*Choć głos wewnętrzny stawał z protestem,*
*Chciałem wziąść rozbrat z czuciem i wiarą,*
*Sądząc, że całkiem realnym jestem.....*[19]

Прыходзіць захапленне ідэямі пазітывізму, што толькі з дапамогай навукі і руплівай працы людзі самі сабе выкуюць сваё шчасце. Зямля падорыць пакуль яшчэ утоеныя багацці, *świat dobrobytem wnet, wnet zakwitnie* (свет дабрабытам хутка, хутка зацвіце). Аднак і ў гэтым паэт расчароўваецца, бо вялікую ўладу на зямлі маюць грошы.

Фактычна паэма "З гісторыі жыцця і песні" - падарожжа па коле расчараванняў. Расчараванне у каханні, расчараванне у стваральнай моцы паэзіі, расчараванне у адданай працы на карысць усяму народу, расчараванне ў спрыяльнасці лёсу.

[19] ***А голас пратэставаў апальны,***
***Хацеў пакончыць з пачуццем, верай,***
***Мяркуючы, што я зусім рэальны.***
**(Пераклад Р. Барадулін) [94, с. 93]**

І ўсе ж такі герой зноў вяртаецца да *песні*. Яго вяртае да *песні* Беатрычэ, правобраз Беатрычэ Дантэ. Тут, пэўным чынам, - муза паэзіі, а паэзія - рай пасля пекла рэальнага жыцця. Фактычна стратэгія, у параўнанні з "Дзядамі", адваротная. Вышэй мы паказвалі, што герой Міцкевіча, якога вяла ў нябесныя сферы Марыля, вымушаны сам рынуцца ў Дантаў шлях, шукаючы свету душаў, выпрабоўваючы сваю волю і моц духу.

Але ж цяпер *песня* адрозніваецца ад той, якой герой Лучыны захапляўся на самым пачатку, адрозніваецца яна і ад *песні* Конрада.

Калі для Адама Міцкевіча паэзія - гэта сродак для змянення несправядлівасці ў жыцці, то для Янкі Лучыны паэзія - гэта Берагіня жыцця. *Песня* падтрымлівае жыццё, дапамагае пераадолець цяжкасці і перашкоды. Адсюль і зварот Янкі Лучыны да прыроды, да простага люду, да сялянства. Таму песенька яго таксама *prostacza* (простая) і ціхая, але яна нясе таемную радасць і раздзьмухвае агонь сэрца.

Палітра паэзіі Янкі Лучыны някідкая, з прыхаванай каларытнасцю, тон разважлівы, трошкі песемістычны. Калі ў Міцкевічавым творы - плынь імправізацыі, вольны палёт думкі і раскутасць формы, "мільён таноў" і іх адценняў, то ў паэме Янкі Лучыны - больш апавядальнасці, няма абрываў думкі і раптоўных узлётаў пачуццяў, строга вытрыманая строфіка.

Пры супастаўленні "Вялікай імправізацыі" і паэмы "З гісторыі жыцця і песні" падаецца, што Янка Лучына звужае прызначэнне паэзіі, ён здымае з яе ролю рухавіка змагання.

Часткова гэта можна патлумачыць тым, што творы пісаліся ў розныя эпохі.

Міцкевіч пісаў сваю Імправізацыю адразу пасля паражэння паўстання 1831 г. і да роспачы прымешваўся гнеў і спадзяванне на справядлівую помсту, чаканне новага уздыму барацьбы. Янка Лучына пісаў сваю паэму пасля паражэння іншага паўстання - 1863-1864 гадоў. Апроч таго, ён сам быў гісторыкам гэтага паўстання і глядзеў на тыя падзеі, як бы здалёк, бачачы ўсе прычыны, якія прывялі да паражэння. У сваёй кнізе "З крывавых дзён" ён паказаў маладых людзей, якія, як і Конрад Міцкевіча, гатовы былі ісці на смерць, не зважаючы на відавочную перавагу ворага і неспрыяльныя ўмовы для барацьбы за незалежнасць. Ідэя і *Песня* давалі ім моц. Лучына цалкам на баку гэтых герояў. Аднак час пацвердзіў, што рэальнасць перамагае.

Янка Лучына імкнецца адысці ад радыкальных пераўтварэнчых ідэй рамантызму ці спрабуе прыстасаваць іх да цяперашняга часу. Але такое прыстасаванне для Лучыны не вельмі натуральна, адсюль і песімізм.

*Jeśli potrzeba piosenko cicha,*
*Dla ciebie bolu rozjatrać żmiję,*
*I pijać tylko z cirpień kelicha?*
*O, pieśni moja! niech gorycz pię!* [20]

Паэма "З гісторыі жыцця і песні" Янкі Лучыны - яскравы адбітак дум і перажыванняў беларускай інтэлігенцыі канца XIX ст., пакутлівы пошук кампрамісу паміж рамантычным і пазітывістычным светаўспрыманнем.

Настальгіяй па нядаўніх яшчэ часах, калі ў краі быў рамантычны ўздым, прасякнута творчасць Зоф'і Манькоўскай. Пісьменніца пісала пад мужчынскім псеўданімам Адам М-скі, што, з аднаго боку, дазваляла ёй не афішаваць сваё сацыяльнае становішча жонкі вайскоўца, а, з іншага боку давала магчымасць зірнуць на літаратурную сітуацыю Беларусі звонку, узнімаючыся над уласным сацыяльным станам.

Матыў страты ідэалу, неадпаведнасці рамантычнага героя навакольнаму свету гучыць у польскамоўнай драматычнай паэме Зоф'і Манькоўскай "Фрагмент". Арыгінальнасць паэмы ў тым, што ў ёй персаніфіцыруецца сама паэзія - "першапесня", ад яе вядзецца маналог, скіраваны да паэта - сучаснага аўтарцы героя:

*Я - першапесня! Казак, міфаў не гучэла,*
*Не склаў рапсодыяў Гамер,*
*Ужо я дух твой, што ўстаў з цёмных шатаў цела*
*Вяла да Неба сфер.*

*Тады ж яго ў абдымкі я ўзяла з пяшчотай,*
*І з першым лепятаннем слова*
*Адчула — думка выспела для ўзлёту*
*І да самапазнання ўжо гатова..*

[216, с. 321] (Пераклад аўтара дысертацыйнай працы.)

У Адама Міцкевіча і Янкі Лучыны ідзе зварот да паэзіі, якая здабываецца з самога сябе, моц якой залежыць ад уласных здольнасцей паэта. У Зоф'і

[20] ***Як будзе трэба, песня-галубка,***
***Твой боль раз 'ярыць змяя на ўсхліпе,***
***Хіба піць толькі з цфрпення кубка?***
***Мая ты песня, гаркоты выпі!***
**(Пераклад Р. Барадуліна) [94, с. 96]**
**(Паводле арыгіналу ў апошнім радку даслоўна: "О мая песня, няхай жа я (дзеля цябе) гаркоты вып'ю! -** ***заўвага С.М.)***

Манькоўскай кірунак супрацьлеглы - паэзія вечная, незалежная ад людзей светаўласцівасць. Паэзія змагаецца за героя, спрабуючы яго вывесці з-пад уплыву Ліха, якое ў паэме прадстаўлена ў вобразе Мефістофеля. Наследуючы "Дзядам" Міцкевіча і "Фаўсту" Гётэ, паэтка стварае алегарычную карціну сучаснай ёй рэчаіснасці, дзе, на вялікі жаль, усё менш і менш застаецца месца для рамантычных парыванняў.

Дэкадэнцкі тон у польскамоўнай паэзіі Лучыны і Манькоўскай пэўным чынам сведчыць пра паступовую страту польскай мовы - здольнасці адпавядаць культурніцкім запатрабаванням Беларусі.

Гэта адчуў Францішак Багушэвіч, з'яўленне яго звароту-закліку да суграмадзян *не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі* - стала адліковым пунктам самаідэнтэфікацыі беларускай літаратуры. Ф. Багушэвіч, пішучы ад імя Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі з-пад Барысава, шмат у чым паўтарае паэтычную стратэгію Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча - паэт - суразмоўца, настаўнік, але пры гэтым ужо імкнецца ў свайго чытача абудзіць крытычныя думкі аб правільнасці рэальнага стану рэчаў, апелюе да гонару беларуса, чым робіцца абаронцам яго нацыянальнай годнасці.

Менавіта беларускамоўнае слоўнае мастацтва на той перыяд мела столькі нявыказанага, яшчэ не адкрытага, столькі адраджэнскага патэнцыялу, што магла стаць, вобразна кажучы, новымі мяхамі для старога вытрыманага часам віна - вялікага рамантызму. Насычаная фальклорам, адчуўшы моц у этна-нацыянальным арэале, дыялектычна вызначыўшы для сябе паняцце малой і вялікай радзімы, беларуская літаратура, і перш-наперш паэзія, выспела для самарэфлексіі.

І калі ў Багушэвіча "паэзія" яшчэ "прыстасоўваецца" пад сяброўскую гутарку, задумлівы напеў ці пад сумна-крытычнае апісанне стану рэчаў, то ў Алаізы Пашкевіч (Цёткі) гэта гучная, абуджальная, усюдыісная Песня. І тут можна выявіць генетычна-тыпалагічную сувязь як з жыццетворнай Песняй Адама Міцкевіча, так і з Першапесняй Зоф'і Манькоўскай. Абапіраючыся на Багушэвіча (у другім, кірылічным выданні "Скрыпкі Беларускай" Алаіза Пашкевіч змяшчае падзяку Мацею Бурачку - *чэсць і слава тваему словуI* [155, с. 24]) - паэтка ў сацыяльную праблематыку вершаў дадае змагарны пафас, палымянасць пачуццяў, чым фактычна аднаўляе "стары" рамантызм, мадыфікуе, ствараючы яго адметную беларускамоўную плынь.

Пэўным чынам гэта рэпрэзентуе верш Цёткі "На магіле", напісаны ў 1905-1906 гг.

*На магіле ўзыду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*

*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песняй у народзе!*
[160, с. 38]

Алаіза Пашкевіч, як і Адам Міцкевіч у "Дзядах", у сваім вершы выяўляюць перакананні старажытнага, дахрысціянскага веравання беларусаў, што душа можа ўцялесніцца ў дрэва.

Напрыклад, у Міцкевіча:

*Душачкі, выгнанцы раю,*
*Суджана каму нудзіцца,*
*Ці ў смале кіпець, дыміцца,*
*Хто на дне ракі змярзае,*
*Ці для больш нязноснай кары*
*Хто ў сыроў дрэва ўбіты...*
[117, с. 23]

Аднак душа паэткі, не для чысцовай кары ўцялеснена ў дрэва, а для абуджэння прагі свабоды ў іншых душах, для той самай місіі, якую ў "Дзядах" выконвае Густаў-Конрад. Праўда, у "Дзядах" герой праходзіць своеасаблівы шлях ініцыяцыі: набыцця чысціні і моцы для стварэння сваёй Песні, у вершы Алаізы гэта падаецца як дадзенае - папярэдняе, зямное жыццё паэткі была тым гераічным шляхам. Нездарма, яе душа пасля смерці ажывае ў святым дрэве беларусаў - дубе. А потым з гэтага дубу пастух зробіць дудку і:

*Як зайграе, кроў замуціць,*
*Як засвішча, кожны стане:*
*"Што за гранне, што за гранне?*
*Што то будзе, што то будзе*
*З гэтай песні ў нашым людзе!"*
[160, с. 38]

чалавека. Гэты матыў вядомы ў беларускіх казак, напрыклад, ў апавяданні "Зімовым вечарам" Э.Ажэшка старая жанчына расказвае маладым хлопцамі і дзяўчатам казку пра "пяючую" дудачку зробленую з вішанкі. А тая вішанька была пасаджана бр
апавядае ўсяму свету праўду пра злачынства. Гэты матыў ёсць і ў сербскіх

казках. Дудачка з бузіны выдае таямніцу прыдворнага цырульніка [128, с 63]. Наяўнасць гэтага вобраза ў розных славянскіх народаў сведчыць, што ён вельмі старажытны і выразна акрэслены ў народнай свядомасці. Але Цётка пераўтварае яго. У вершы "На магіле" ён не дыдактычны - *што праўда заўсёды будзе вядомая, як не ўкрывай*, - а рамантычна-пафасны. Песня дудачкі становіцца ўсюдуіснай, ды й сам дуб, што б з ім не выраблялі, робіцца своеасаблівым набатам. І нават калі "ліст дубовы пад хлеб сцелюць", а "жолуд яго ў жорнах мелюць", і хаця б дзе з таго дуба "хоць пылінка" - там усюды гучыць гэта песня, а людзі да яе ідуць грамадою, як на ігрышча.

Прасочваецца інтэртэкстуальная (генетычна-тыпалагічны ўзровень) сувязь паміж гэтым вершам і II часткай "Дзядоў" Міцкевіча. Ужо сама назва "На магіле" сведчыць пра гэта (дзеянне II часткі "Дзядоў" адбываецца на могілках). А ключом (гіпатэкстам) выступае свята Дзядоў, якое ляжыць у ідэйнай аснове паэмы Міцкевіча, і якое, нібыта спантанна, у трансфармаваным выглядзе, узнікае ў вершы Цёткі, пры кантакце апісанай ёй грамады са святым дрэвам ці хаця б з невялікай яго часцінкай. Варта прыгадаць, што ў І частцы "Дзядоў" (" Відовішчы") - у адной са сцэнаў дзеянне адбываецца на могілках каля старога дуба.

У гэтым рэчышчы рэфрэн, выкарыстаны Цёткай:

*Што то будзе, што то будзе*
*З гэтай песні ў нашым людзеI*
[160, с. 38]

у вершы Цёткі "На магіле", можа разглядацца як інтэкставы складнік "Дзядоў" Міцкевіча".

Аднак рэфрэн Міцкевічавых "Дзядоў" (гучыць у II і ў І частках паэмы):

*Ciemno wszędzie, głucho wszędzie,*
*Co to będzie, co to będzie?*
[117, с. 21]

Ды і выкарыстаны Купалам праз 5 год пасля напісання Цёткай верша "На магіле" ва "Урыўку драматычнай паэмы" функцыянальна аналагічнае словазлучэнне:

*Ой, чарнявы Зямігудзе,*
*Што-та будзе, што-та будзе?*
[79, с. 136]

ужытыя для перадачы прадчування чагосьці незвычайнага, трывожнага, таямнічага. У Алаізы Пашкевіч, відавочна гэты рэфрэн - нясе характар рэтарычнага пытання, адказ на якое павінен быць сцвярджальны. Гэта рамантычнае прадбачанне перамен да лепшага жыцця, якія пройдуць праз буры і змаганні.

Шлях Цёткі: ад сацыяльна-крытычнага бачання паэзіі (*багушэвічаўскае)* праз стара-рамантычнае (*міцкевічаўскае*) да адраджэнска-рамантчынага, прайшоў і Купала, стварыўшы ужо самабытную нацыянальную літаратуру, абвясціўшы з'яўленне беларускага песняра.

Даследчыца Г. Тычко слушна заўважае, што "значэнне паэта і роля паэтаў сучасным яму грамадскім жыцці - гэтыя пытанні хвалявалі Янку Купалу літаральна з першых крокаў у літаратуры" [154, с 81]. У беларускага пісьменніка назіраецца эвалюцыйны рух, паступовае выспяванне "літаратурнай самастойнасці". Паэт, адчуўшы павевы новага часу, адмаўляецца ад кар'еры польскага пісьменніка, хаця яго польскамоўныя вершы даюць нагоду казаць пра Купалу, як пра "літаратурна пісьменнага" паэта, са сваім адметным светабачаннем. І ўсё ж такі самаўсведамленне як нацыянальнага творцы не прыходзіць адразу з пераходам на родную мову.

У адным з першых вершаў, прысвечаных тэме паэта і паэзіі Купала прызнаецца:

*Я не паэта, о крый мяне Божа!*
*Не рвуся я к славе гэткай німала,*
*Хоць песеньку-думку і высную можа,*
*Завуся я толькі — Янка Купала.*

*Славу паэтаў разносяць па свеце,*
*Вянкі ўскладаюць і звоняць пахватай,*
*Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?*
*Ат! ведама, з вёскі - Янка Купала!*
"Я не паэта..." [80, с. 75]

Часткова можна пагадзіцца з Нілам Гілевічам, які піша: "У гэтым раннім праграмным вершы Купала называе сябе ціхім і нясмелым. Але гэта трэба разумець як прыём, якім паэт выяўляе погляд вяльможных валадароў, што хацелі б бачыць яго менавіта такім і адмаўлялі яму ў праве быць іншым..." [80, с. 7] Безумоўна, сацыяльная скіраванасць для Купалы была важным складнікам паэзіі. Аднак стратэгія стварэння парадаксальнага "я не паэта, але песеньку-думку і высную можа" ў гэтым вершы, з аднаго боку, служыць для

мімікрыі лірычнага героя - прыхаваць яго вылучэнне з прывычнага асяродку, завуаляваць канатацыю "выбітнасці", якая існуе ў слове-званні "паэт", з іншага боку - вядзе да антанімічнага пераасэнсавання (энантыясеміі) "ціхага", але "гучнага", "нясмелага" - "мужнага", "рэгіянальнага" - "сусветнага". У гэтым Купала пераймае прыёмы-маскі Дуніна-Марцінкевіча, яго Гапона і Халімона, і, збольшага, наследуе Багушэвічу, дакладней, яго "віртуальным" Мацею Бурачку і Сымону Рэўку з-пад Барысава. Мэта - знаходзіцца ў выбраным паэтам сацыяльным асяроддзі; не ўзвышацца над ім, а быць адным з сотняў такіх жа самых сялян і дробнай шляхты, каб не адштурхнуць высокім словам *паэзія*, а прывабіць да яе і спадзявацца на давер і разуменне, "стаць унутраным вытокам" мастацка-ідэйнага поля. І калі землеўладальнікам Дуніну-Марцінкевічу і Багушэвічу трэба было ствараць падобных герояў і "віртуальных" асобаў, то беззямельнаму шляхціцу Івану Луцэвічу такой неабходнасці не было. Ствараючы свайго "віртуальнага" Янку Купалу, паэт кіраваўся як літаратурнай традыцыяй, так і ментальнасцю беларусаў. (Падобнае можна сказаць у адрас Алаізы Пашкевіч (псеўданім Цётка, Гаўрыла з Полацка) і іншых пісьменнікаў пачатку ХХ ст., якія выступалі пад падобнымі псеўданімамі, пачэрпнутымі з народнай свядомасці).

У выпадку з Купалам заўважаецца, як падобная літаратурная "віртуалізацыя" паступова знікае, Луцэвіч становіцца самім Купалам, і паэзія "разрывае" рамкі "віртуальнасці". Ён з "паэта асяроддзя", прадстаўніка сацыяльнага слою, пераўтвараецца ў агульнанацыянальнага песняра, пры гэтым відавочна абапіраецца на рамантычнае разуменне феномена паэта. Галіна Тычко звязвае гэта з засвоеным маладым Купалам паняццем "рамантычнага тытанізму", які быў распрацаваны ў польскай рэгіянальнай літаратуры. "У свой час тэорыя "абранасці" паэта, - піша даследчыца, - так званы рамантычны тытанізм нарадзіўся на стыку рамантычнага рэлігійнага голаду і рамантычнага бунту супраць рэчаіснасці. Хрысціянскай веры ў справядлівасць Божага светаўладкавання, у непазбежнасць Божага пакарання зла тытанізм супрацьпаставіў людскае права на асуджэнне недасканалага свету, уключна з Богам, які дапускае ў гэтым свеце панавання сілаў цемры... Паводле ўспрымання рамантыкаў, паэт ва ўмовах XIX стагоддзя выконваў ролю біблейскага прарока. І гарантыяй гэтай ягонай прарочай місіі была не яго вера, але паэтычнае натхненне, талент" [154, с. 82 ].

У 1909 годзе Купала напіша верш "Песняру-беларусу", дзе, звяртаючыся да ўяўнага паэта, прамовіць:

*Дабудзь з сваёй душы ўсе праўды,*
*Сваіх дум, сэрца запытай...*

[80, с. 119]

Паэт, паводле Купалы - асоба ўсёахопная, *універсумная:*

*Пясняр - слуга слугі ўсякай,*
*Пясняр і цар усіх царэй!*

[80, с. 120]

Паэт выступае ў ролі правідцы і даследчыка сусвету. Праз моц сваёй душы і вытворнай яе песні ён можа дазнацца яшчэ да гэтага часу не адкрытага, невядомага:

*Дзе зор гуляюць хараводы,*
*Зірні зухвала, без трывог,*
*Прагледзь нябесныя ўсе ходы,*
*Каб аж задумаўся сам Бог!*

*Падслухай шэпты зямлі-маткі,*
*У скарбы ўсе яе зaглянь,*
*Каб аж пайшла весць ва ўсе хаткі,*
*Як з ніў найбольшую браць дань...*

[80, с. 120]

У вышэйпрыведзеных прыкладах Купала салідарны з Міцкевічам, які ў "Вялікай імправізацыі" пісаў:

*З сябе самога думкі здабываю,*
*Я ажыўляю словы імі,*
*Што ўюцца па ўсім небакраі,*
*Лятуць агнямі зіхаткімі;*
*Далёка іх магу прыкмеціць,*
*Сугуччамі замілавацца,*
*Рукой адчуць - зачаравацца*
*Іх танцамі залюбавацца.*

*Я вас люблю, Прароцтва дзеціI*
*Вы мае думкі, мае зоры,*
*Мае пачуцці і віхоры!*
[118, с. 83]

Купала ідзе за Міцкевічам, бо на той перыяд мэты і задачы паэзіі на зямлі не змяніліся, аднак, відавочна, што роля паэта, як рамантычнага героя - прыкладу пакалення, які самотна нясе пакуты і адказнасць за яго, стала больш сацыялізаванай, адбываецца зрух ад адзінкі да "грамады":

*Глядзі — ўскалышыцца, прачнецца*
*Мільённы прыспаны народ,*
*І вокліч славы пранясецца,*
*Пяснярскай славы з роду ў род*
[118, с. 87]

Мяняецца і Купалавы лірычны герой. Параўнаем заканчэнне верша "Я не паэта" і верша "Песняру-беларусу":

*Эт, з часам людзі ўпадаюць на сіле,*
*Смерць скосе, глядзі - і больш крыжам стала;*
*Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?*

*А надпіс пакажа: Янка Купала.*
"Я не паэта" [80, с. 75]

*Памёр пясняр. - Над белым крыжам*
*За годам год перабяжыць;*
*Няпамяць імя пяўца зліжа,*
*А песня будзе жыць і жыць!*
"Песняру-беларусу" [80, с. 120]

Сюжэт аднолькавы. Але ўвага аўтара канцэнтруецца на розным. У першым вершы важна, што на крыжы засталося імя - паказчык прыналежнасці паэта да свайго асяроддзя - хто ён быў, які, адкуль. У другім вершы - імя не такое ўжо важнае, галоўнае пра што і як спяваў паэт. І калі яго песня была годная і моцная - яна застанецца на вякі. У "Дзядах" Міцкевіча мы адчуваем сакральнасць паняцця імя. Напрыклад, імя будучага выратавальніка Польшчы "44", відавочна нясе таемны, містычны сэнс. Пацверджаннем таго,

што імя дае чалавеку прыналежнасць пэўнаму асяроддзю мы знаходзім, у XI сцэне III часткі "Дзядоў": Гусляр спрабуе выклікаць для Кабеты дух яе каханага, але ў яго гэта ніяк не атрымліваецца, ён звяртаецца да яе:

Гусляр
*Мая жанчынка, твой каханак,*
*Ці веру памяняў бацькову,*
*Ці сам* ***змяніў імя нанова...***
(вылучэнне наша - ***С. М.)*** [118, с. 287]

З тэксту паэмы мы ведаем, што Густаў сам памяняў сваё імя на Конрада. Тым самым аўтар паказвае, што не так істотна, якім герой быў, да якога роду ён належыў, нашмат важней, хто ён цяпер.

Падобнае мы бачым у Купалы. Але ў вершы "Песняру-беларусу" Купала яшчэ не наважыўся казаць ад сябе, як ад паэта і майстра, спрабуе звярнуцца да іншага ўяўнага песняра. Аднак праз год ён напіша верш "Мая думка", дзе зробіць рэмінісцэнцыю са свайго ж верша, ужо ад першай асобы:

*Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,*
*Так рвецца, нясецца ў даль думка мая;*
*Абыймецца з небам, пакоціцца ў мора,*
*У вялікае мора людскога жыцця.*

*І ўдарыцца ў сэрца так смутна, балесне, —*
*Як лісцем віхура, так ім скалыхне,*
*Так ім закалоціць, аж выклікне песню...*
*Ужо з песняй ляціць зноў да зор к вышыне.*
[80, с. 145]

Купала ў шматлікіх вершах, прысвечаных песні, песняру, прароку, вольнай думцы, - даследуе свой паэтычны дар, каб, адчуўшы моц "адточанага хвалямі пачуццяў" слова, прыняць на сябе права казаць і думаць ад імя ўсяго народа. І паэзія Купалы, як і паэзія Міцкевіча скіравана ў "вольны свет", да будучыні, да наступных пакаленняў:

*Новы дзень прыйдзе і новыя людзі*
*Будуць пачатую думку снаваць...*
"Песня мая" [80, с. 176]

Купала адкрывае перад чытачом свае памкненні:

*З цэлым народам гутарку весці*
*Сэрца мільёнаў падслухаць біццця -*
*Гэткай шукаю цэлы век чэсці,*
*Гэта адно мне падпорай жыцця.*
*Песню стварыці ясну як неба,*
*У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём.*
"З кутка жаданняў" [80, с. 195]

Міцкевіч у "Дзядах" вуснамі аўтабіяграфічнага героя ўсклікнуў: "Я творцам нарадзіўся!", для таго каб Купала прызнаўся ў тым жа самым, яму давялося прайсці шлях самапазнання, пераадолеўшы абумоўленую ментальнасцю сціпласць і сацыяльны комплекс. У 1913 г., набыўшы ўжо даволі вялікі версіфікацыйны досвед, ён напіша ў вершы "З вячэрніх дум":

*Гледзячы, як загон наш калоссямі спеў,*
*А сявец яго радасна з сонцам сваіўся,*

*Песню далі і неба таксама я пеў,*
*А калі?... Знаць, тады, як яшчэ не радзіўся!...*
[80, с. 221]

Паэзія ў Купалы - трансцэндэнтная светаўласцівасць, усюдыісная, але незаўважная. Толькі выбітны паэт, паводле Купалы, робіць яе сваёй іманентнай уласцівасцю:

*Песняй толькі на свеце жыву я,*
*Праз яе тапчу толькі расу;*
*Насцігаю, як ёй запаную,*
*Недасціглую быту красу.*

*Са святлом і бязмежна ўсясвету,*
*Як святло сам, лунае мой дух;*
*Аглядаю міры, яку сне тым,*
*І жыццё абымаю ўвакруг.*
"Песняй толькі" [80, с. 223]

Тым жа кірункам спасціжэння Сусвету з дапамогай паэзіі, разумення ўзаемадзеяння *рэальнага* і *метафізічнага* перад Купалам ішоў Міцкевіч, але стартавыя пазіцыі ў паэтаў былі рознымі. Міцкевічу не трэба было доказаў, што ён абраны паэзіяй, Міцкевіч сам здабываў паэзію з сябе, удасканальваў, узмацняў, Купалу ж неабходна было пераканацца ў сваёй абранасці. У гэтым, на нашу думку, істотная рознасць паэтаў. Тым не менш пры раскрыцці тэмы паэта і паэзіі Купала, як і ў выпадку з літаратурным засваеннем беларускага фальклору і вераванняў, арганічна ўбірае ў свой творчы метад арсенал Міцкевічавых паэтычных здабыткаў.

Праз песню Купала, як і Конрад - герой III часткі "Дзядоў", - звяртаецца да Бога - верш "Цару неба й зямлі":

*За што над намі даў перамаганне*
*Табою створанай бядзе і цьме,*
*Спладзіўшы быт сірочага канання*
*Сынам і іхняй матцы-старане?*
[80, с. 200]

Гэты верш паводле сваіх рытарычных фігур падобны да "Вялікай імправізацыі", у ім таксама праходзіць матыў "Дзядоў":

*Не бачыш тых магіл, што путы родзяць,*
*Магіл, рассеяных, як мак, Табой,*
*Скуль цені прадзедаў выходзяць*
*І ўзносяць рукі ўвысь к Табе з мальбой...*
[80, с. 200]

У кантэкст Міцкевічавых "Дзядоў" уваходзіць адзін з мацнейшых эмацыйных вершаў Купалы - "У бяссоную ноч", напісаны ў трывожны 1913 г.

Перад паэтам-правідцам, змораным бяссоннем, паўстаюць здані:

*Ах! Што гэта? Раскрылася неба й зямля,*
*Рай і пекла змяшачіся ў процьму адну,*
*Здань за зданню паўзе, кожна здань як змяя,*
*Тая прэцца ўверх, тая ціснецці к дну.*
[80, с. 218]

Паэт бачыць пакуты зданяў - той быў панам, над ім цяпер з бізуном яго служка, які таксама церпіць, бо пасля смерці стаў катам. Тут і дзяўчына-краса,

што пакутуе за невядомыя грахі, тут і брат-паэт, што прадаў сваю песню, тут і здраднік, сквапны на золата. Фактычна, у вершы падаецца сціснуты, як спружына, увесь алгарытм Міцкевічавых "Дзядоў", а праз яго кантэкстуальным планам паўстаюць дантаўскія і апакаліптычныя матывы. Аднак паэт не канкрэтызуе, якая гэта ноч, толькі гаворыць, што здалёку "па-воўчаму" выюць званы. Купалу няважны ні сакральнасць даты падзей, ні абраднасць, ні заклёны, якія спадарожнічаюць ўзнікненню відзежаў. Прадукуе іх дума, што не дае спаць паэту, а гэта - непакой аб Беларусі, аб яе гісторыі і сучасным стане і, бадай, ці не найпакутнейшы роздум аб маральнасці яе насельнікаў, ад якой ужо залежыць будучыня. Гэта погляд паэта-правідцы, што трывае муку: ці кожны з адзінкі народнай, а з ім і цалкам народ, змогуць вытрымаць, адужаць будучыя выпрабаванні, што несумненна чакаюць яго наперадзе. У вершы таксама адчуваюцца павевы сучаснага паэту сімвалізму.

Для Янкі Купалы, які меў шчыльныя кантакты з польскамоўнай інтэлігенцыяй краю, было натуральным патрапіць у паэтычнае поле Адама Міцкевіча, творцы, які найбольш аб'ёмна выказаў усе мроі, імкненні, ускрыў архетыпічныя заканамернасці Літвы-Беларусі. Неарамантызм Купалы, што грунтаваўся на жывым слове, удыхнуў у гэтую традыцыю новае жыццё, агарнуў пафасам нацыянальнага адраджэння, стаў прыкладам для іншых паэтаў, што спрычыніліся да беларускага слова. Хаця, трэба заўважыць, для беларускіх паэтаў, якія былі блізкія рускай літаратурнай школе, дзе рамантызм быў больш стрыманым, чаму ёсць свае гістарычныя тлумачэнні, Міцкевіч быў паэтам эпохі класічнага рамантызму, якая ўжо на той час стала засвоенай кніжнай традыцыяй.

Тэма паэта і паэзіі выяўляецца ў саміх ранніх творах Якуба Коласа. Сваё паэтычнае крэда таго часу паэт выказвае ў адным з першых беларускамоўных вершаў:

*Не пытайце, не прасеце*
*Светлых песень у мяне,*
*Бо як песню заспяваю,*
*Жаль вам душу скалыхне...*
[80, с. 15]

Ён становіцца аўтарам вялікага цыкла "песняў-жальбаў", гэтак і назаве пясняр першую кнігу вершаў. Логіка вынайдзенага паэтам жанру (песні-жальбы) паказвае, што паэзія, паводле Коласа, - *не адчуванне* рэчаіснасць ў моманце паміж былым і будучым, як тое было ў Міцкевіча і Купалы, не тая звышнатуральная здольнасць бачыць *вокам душы*, а *пачуццёвае, лірыка-*

*эмацыйнае адлюстраванне рэальнасці.* "З першых крокаў сваёй сталай творчасці, - піша У. Казбярук, - Якуб Колас не шукае нейкіх незвычайных ці экзатычных з'яў для адлюстравання, не спрабуе выяўляць, увасабляць у мастацкім слове ўзнёслыя, рамантычныя, узвышаныя пачуцці..." [72, с. 4] Усё ж такі цалкам пагадзіцца з гэтым выказваннем нельга, бо сімволіка рамантызму, характэрная для літаратуры перыяду нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст., сталы прыём паэзіі Коласа.

Напрыклад, у вершы "Пясняр", песню-жальбу спараджае рэалістычная карціна, што паўстае перад вачамі паэта:

*Ой вы людзі! Няма ж волі:*
*Скуты мыслі ланцугамі.*
*Пусты нівы нашыў полі...*

Але ж наступны радок:

*Злосны віхар дзьме над намі... —*
[72, с. 27-28]

лёгка пазнавальная рамантычная метафара.

У праграмным вершы Коласа з адпаведнай назваю - "Песняру" рамантычнай сімволікі яшчэ больш:

*Заспявай ты мне песню такую,*
*Каб душу мне паліла яна,*
*Каб у ёй ты нядолю людскую*
*І ўсё вычарпаў гора да дна...*

*Л той мут, што жыццём называем,*
*Страсяні і да дна ўскалышы,*
*Няхай сэрца ў грудзях узыграе*
*І зазвоняць усе струны душы...*

*Заспявай жа ты песню такую,*
*Каб маланкай жахала яна*
*І паліла нядолю людскую,*
*Каб грымела, як гнеў перуна.*
[72, с. 57]

Метафары "струны душы", "песня-маланка", "песня-гром" сугучны з Вялікай імправізацыі Конрада з III часткі.

У Якуба Коласа ёсць паэтычна выказаная праграма станаўлення і самасцвярджэння творцы, якую таксама, як і паэму "Дзяды", можна разглядаць як своеасаблівы маніфест мастацтва. Маецца на ўвазе паэма "Сымон-музыка". Напісана яна ў рамантычным ключы. В. Жураўлёў дакладна вызначыў ідэю паэмы: "без выключэння *кожны чалавек (курсіў В. Жураўлёва*) незалежна ад яго сацыяльнага статусу, матэрыяльнага цэнзу і прыродных здольнасцей, паставіўшы перад сабой няпростую жыццёвую мэту, павінен прайсці адпаведны шлях духоўнага самаўдасканалення і ў той або іншай меры наблізіцца... да трансцэндэнтнага - іначай кажучы, яму належыць увабраць у сябе і трансфармаваць энергію высокіх маральна-этычных прынцыпаў і агульначалавечых каштоўнасцей. У адваротным выпадку яго мары і надзеі могуць назаўжды застацца марамі-ілюзіямі" [57, с. 178]. Далей даследчык робіць вельмі важную выснову: духоўная свабода *чалавека найперш і ў першую чаргу абумоўліваецца духоўнымі намаганнямі самога чалавека (курсіў В.Жураўлёва)* [57, с. 178]. Усе гэтыя словы былі б справядлівыя і адносна паэмы "Дзяды". Аднак Колас падыходзіць да праблемы духоўнага станаўлення чалавека на іншым матэрыяле, больш прывычным для яго, добра вядомым яму, як майстру, - гэта духоўны свет селяніна. Жураўлёў у сваёй кнізе прыводзіць слушнае выказванне В. Каваленкі, што Сымон і Костусь з "Новай зямлі" знаходзяцца ў "блізкароднаснай духоўнай сувязі" [57, с. 177]. Можна казаць, што ў Сымоне ўвасоблены аўтабіяграфічныя рысы. Падобная лакалізацыя на партыкулярных і ўласнаасабовых фактарах, як і ў выпадку з "Дзядамі" Міцкевіча, дазваляе глыбока пранікнуць у духоўны свет героя, прасачыць ледзь заўважныя адценні і нюансы настрою. Гэтым самым Міцкевіч і Колас быццам парушалі асноўны прынцып рамантызму: *незвычайны герой у незвычайных абставінах*, бо герой у іх - аўтабіяграфічны, вакол - вядомыя, пазнавальныя чытачу пейзажы. Але майстэрства і адкрыцці Міцкевіча і Коласа менавіта ў тым, што іх паэтычны зрок здольны ў звычайным і пазнавальным заўважыць рамантычнае.

Аднак Колас не ідзе ў метафізічныя, пазарэальныя, гіпатэтычныя сферы, рамантызм у яго - своеасаблівая "падсветка", якой паэт карыстаецца, каб вылучыць, "выярчыць" важныя або цікавыя для яго пагляду дэталі; рамантызму ў яго творах роўна столькі, колькі ён ёсць у рэальным жыцці ў натхненнага і чулага чалавека.

Па-іншаму праецыруецце на рамантызм творчасць М. Багдановіча. Яго паэзія, як і паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа, грунтуецца на адраджэнскім пафасе, стрыжань якога - традыцыі рамантызму. Яскравы прыклад - верш "Пагоня", дзе ёсць рыцарскае служэнне Айчыне-маці і супрацьстаянне чужыне.

Але ж рамантызм Багдановіча - гэта тонкая, гнуткая аснова для сучасных паэту літаратурных зацікаўленняў.

Напрыклад, у вершы, прысвечаным Каганцу, дзе ўзнімаецца тэма *паэта і паэзіі*, ён напіша:

*Змоўк пясняр, затаіў свае песні,*
*Ён іх болей ужо не пяе,*
*Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні*
*Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,*
*І струёй хлынуць вершы з яе.*

*Гэтак часам уходзіць у зямлю крыніца,*
*Дзесь у нетрах таемна бяжыць,*
*Але мусіць урэшце на волю прабіцца,*
*Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца*
*І радзімаму краю служыць.*

[9, с. 81]

На пачатку "Вялікай імправізацыі" Конрада паэзія параўноўваецца з падземнай крыніцай:

*Няшчасны, хто тлумачыць свету музы дар.*
*Язык падманіць голас, голас зманіць думкі —*
*Яны лятуць, пакуль у слоўныя карункі*
*Ня трапяць, і дрыжаць над сцятай думкай словы,*
*Як глеба над падземнай, незаўважнай плыняй.*
*Ці дрогкасць тая нам раскажа пра глыбіні?*
*Таемныя адкрые сховы?*

[118, с. 79]

Гэты вобраз, шмат разоў адбіты ў літаратуры, прыйшоў да Багдановіча, як вытанчаны, дакладны, правераны часам. "Таемны бег" крыніцы паэзіі можа адкрыць пясняр, падобна чалавеку, што шукае ваду з лазою, які тонка адчувае ледзь прыкметныя зрухі свежай галіны. І адкрывае ён вечны выток паэзіі, каб "радзімаму краю служыць". Сутнасць паэзіі, паводле Багдановіча, тая самая, што і ў Міцкевіча. Аднак вялікая ўвага надаецца апрацоўцы прыроднай стыхіі. Калі Міцкевіч і Купала ў "здабыванні" паэтычнага слова давяраліся прыроднаму генію душы паэта, то ў Багдановіча прысутнічае моцны класіцыстычны пачатак, дзе паэзія абавязкова павінна прайсці агранку майстэрствам і навукай, і толькі

тады яна, зробленая і адточаная, зможа апеляваць да сумлення людзей, да іх маральнага доўгу і дабрадзейнасці. Аб гэтым сведчыць увесь цыкл Багдановічавых вершаў "Старая Беларусь". У Багдановіча, як у Купалы і Коласа, ёсць верш з назваю "Песняру":

*Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей*
*Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення,*
*Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,*
*Не збудзіўшы святое сумлення.*

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба з цярпеннем,*
*Як ударыш ты ім, - ён, як звон, зазвініць,*
*Брызнуць іскры з халодных каменняў.*
[9, с. 102]

Паэзію Багдановіча, вобразна кажучы, можна параўнаць з букетам, складзеных з розных літаратурных напрамкаў: неакласіцызм, імпрэсіянізм, сімвалізм і рамантызм. Апошні, знаходзіцца ў цэнтры. Паэт новымі фарбамі аздабляў увабраную і засвоеную ім кніжную рамантычную традыцыю, чым адкрываў у Беларусі эпоху мадэрнізму.

Пры супастаўленні твораў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных тэме паэта і паэзіі, з "Дзядамі" Міцкевіча, мы можам прасачыць, як рамантычная паэзія паступова пранікала ва ўсе сацыяльныя слаі грамадства. Калі спачатку яе носьбітамі і рэцыпіентамі была патрыятычна настроеная шляхта, то пазней, дзякуючы намаганням Баршчэўскага, Сыракомля Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, яна далучае да сваіх ідэй дробную шляхту і сялянства. Лучына і Манькоўская выступаюць у якасці выказнікаў думаў беларускай разначыннай інтэлігенцыі. На пачатку XX стагоддзя ў сферу беларускай паэзіі была ўлучана ўсё беларускае грамадства.

Такім чынам XIX ст. у беларускай літаратуры дае унікальную сітуацыю "перманентнага" рамантызму, які нарадзіўся ў агульнай для еўрапейскага літаратурнага працэсу эстэтычнай сітуацыі (змена асветніцкага рацыяналізму і класіцыстычных норм), але "вырас у самастойную арыгінальную мастацкую з'яву, якая захавала сваю прадуктыўнасць нават у XX ст." [150, с. 40]. Л. Тарасюк прыводзіць спробу перыядызацыі беларускага рамантызму XIX стагоддзя. Вышэй праведзенае супастаўленне твораў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных тэме *паэта і паэзіі*, з "Дзядамі" Міцкевіча, дае магчымасць прасачыць эвалюцыю рамантызму ў Беларусі, якая, у прынцыпе, адпавядае

схеме Л. Тарасюк [150, с. 40], але дазваляе вызначыць якасную змену гэтага літаратурнага напрамку ў Беларусі паводле творчасці асобных пісьменнікаў, сведчыць аб яго прагрэсіўным характары і выяўляе нацыянальную спецыфіку літаратурнага працэсу:

1. 20-30-я гады XIX ст. Агульнаеўрапейская хваля рамантызму - творчасць філаматаў і філарэтаў: Яна Чачота, Тамаша Зана, Эдварда Адынца і інш., кірункавызначальная творчасць Адама Міцкевіча - пераадкрыйце чалавека як народнай адзінкі, пераадкрыйце народа - захавальніка, духоўнасці і спецыфічнай маралі справядлівасці, гісторыі і спрадвечнай мудрасці, народ - своеадметны скарб эстэтычных узораў, вышэйузроўневая, пасля асобнага чалавека, адзінка чалавецтва; рамантыкі даследуюць узаемаўплывы свету асобы, свету рэальнага і свету метафізічнага.

2. 40-я гады XIX ст. Творчасць Яна Баршчэўскага - ідэйнага, найбольш паслядоўнага прадаўжальніка Міцкевічавых літаратурных інавацый у краі. Зварот да беларуса ў яго ландшафтным і фальклорна-міфалагемным асяроддзі.

3. 50-60-я гады XIX ст. Творчасць У. Сыракомлі - стварэнне жанру гутаркі. Укараненне рамантычных ідэй у сацыяльную сферу - быць на адным узроўні з "простым людам"; творчасць паслядоўніка У. Сыракомлі В. Каратынскага; творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча - выхаванне аднадумцаў, стварэнне вытоку рамантычнай ідэй у самім шырокім у краі сацыяльным асяроддзі сялян і дробнай шляхты. Змагарны, волездабыўчы пафас публіцыстыкі К. Каліноўскага. Паўстанне 1863-1864 гадоў - кульмінацыя рамантычных ідэй.

4. 70-90-я гг. XIX ст. Крызіс рамантызму, абумоўлены паражэннем паўстання 1863-1864 гадоў Творчасць Янкі Лучыны - дэкадансная светаадчуванне, разрыў паміж рамантычным светам адзінкі і пазітывістычным светаадчуваннем у грамадстве; творчасць Зоф'і Манькоўскай - настальгія па былой велічы рамантызму; паэзія як асобная ад чалавеку светаўласцівасць не можа да канца быць ім падпарадкаваная; творчасць Ф. Багушэвіча - сумяшчэнне рамантычных ідэй з рэалізмам і элементамі натуралізму.

5. Пачатак XX ст. Новы вiток рамантызму з прычыны пачатку нацыянальнага адраджэння. Творчасць Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Узнікненне трох асноўныя кірункаў:

- творчасць Янкі Купалы - неарамантызм, пераасэнсаванне рамантызму ў новых умовах; элементы сімвалізму, як новае аздабленне рамантызму;
- творчасць Якуба Коласа - спалучэнне рэалістычнага і рамантычнага светаадчування;
- творчасць М. Багдановіча - мадэрністычны падыход - сінтэз неакласіцызму, рамантызму, імпрэсіянізму і сімвалізму.

Апошнія тры кірункі, якія можна лічыць вынікам "перманентнага рамантызму" XIX ст. прадвызначылі наперад развіццё літаратурнага працэсу ў Беларусі ўсяго XX ст., то сціхаючы, то зноў нарастаючы тры галіны беларускай паэзіі: неарамантызм, рэалізм і мадэрнізм (у канцы XX стагоддзя з'яўляецца постмадэрнізм), - пастаянна прысутнічалі ў беларускай літаратурнай прасторы.

Феномен доўгатрываласці ў беларускай літаратуры рамантызму ў тым, што ён быў здольны на працягу доўгага перыяду вызначаць Этна-, нацыя-, лінгва- і асобааховучыя задачы, і, разам з тым, мог стымуляваць у грамадстве працэсы для іх вырашэння. Энергія імкнення да самаідэнтэфікацыі падсілкоўвала менавіта рамантычныя ідэі, і, наадварот, рамантызм з першапачатковай увагай да самабытнага, неардынарнага і самастойнага падштурхоўваў беларусаў да самаідэнтыфікацыя Атрымлівалася самаактывізацыйная гуманітарная сістэма.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

**Асноўныя навуковыя вынікі дысертацыі**

Драматычная паэма "Дзяды" Адама Міцкевіча - шэдэўр сусветнай літаратуры - задуманы і часткова напісаны на тэрыторыі Беларусі. У аснову гэтага твора пакладзены вераванні беларускага народа, а большасць герояў паэмы мае сваіх рэальных прататыпаў - сучаснікаў Міцкевіча, што жылі і дзейнічалі ў тагачаснай Беларусі. Відавочная грамадзянская мэта "Дзядоў" - інфармаванне еўрапейскай супольнасці аб палітычным стане Літвы і Рэчы Паспалітай, зварот аўтара да равеснікаў і нашчадкаў дзеля Адраджэння краю. Лакальны патрыятызм паэмы - падмурак для пераканання беларусаў, спрадвечных насельнікаў гэтай зямлі - у роўнасці паміж народамі. Мова твора насычана беларускімі элементамі, якія Міцкевіч ужываў свядома, што ў сваю чаргу падрыхтоўвала зварот беларускай інтэлігенцыі да мовы народа. Усё гэта дае падставы разглядаць славутую паэму Міцкевіча ў якасці ідэйна-мастацкага базісу для развіцця новай беларускай літаратуры.

Праведзенае навуковае даследаванне дазваляе зрабіць наступныя высновы:

1. Да працэсу стварэння і публікацыі паэмы А. Міцкевіча "Дзяды" былі далучаныя перадавыя людзі Літвы-Беларусі (напрыклад, прафесар Віленскага універсітэта Іаахім Лялевель), а таксама прадстаўнікі таварыстваў філаматаў і філарэтаў; рэдактарам выдання ІІ і IV частак "Дзядоў" стаў Ян Чачот - пісьменнік, які мэтанакіравана ствараў літаратурныя ўзоры на беларускай мове. У паэме шырока выкарыстоўваюцца беларускія партыкулярныя элементы - апісанне мясцовых краявідаў і рэальных падзей; выяўленне ў ёй пачуццяў, мараў і жаданняў прадстаўнікоў сучаснага аўтару пакалення; ужыванне беларусізмаў; выкарыстанне фальклору і вераванняў беларусаў. "Дзяды" Адама Міцкевіча былі добра вядомыя на тэрыторыі Беларусі, бо ў беларускай літаратуры XIX - пачатку XX ст. заўважаюцца цытаванні, рэмінісцэнцыі, наследаванні і пераклікванні з гэтай паэмай (творы Я. Баршчэўскага, У. Сыракомля В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, З. Манькоўскай, Янкі Купалы і інш.). "Дзяды" сталі кантэкстуальным полем для літаратурнага працэсу Беларусі [2-А; 6-А; 20-А].

2. Літаратурнае засваенне фальклору, якое ўпершыню на землях Беларусі прадэманстраваў Адам Міцкевіч (узорам выкарыстання ў паэзіі беларускіх абрадаў і народных вераванняў з'яўляецца паэма "Дзяды"), атрымала дзейсны працяг у творах беларускіх пісьменнікаў (Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч) і дасягнула апагею ў творчасці Янкі Купалы. Фальклорызм у нацыянальнай літаратуры пачатку XX стагоддзя стаў адным з вытокам такой з'явы, як неарамантызм (пераасэнсаванне рамантызму ў новых умовах (Цётка);

спалучэнне рэалістычнага і рамантычнага светаадчування (Якуб Колас); мадэрнісцкі падыход - сінтэз неакласіцызму, неарамантызму, імпрэсіянізму і сімвалізму (М. Багдановіч)) [6-А; 16-А, 20-А; 28-А].

3. У беларускім літаратурным працэсе адбывалася выкрышталізоўванне паняцця Айчыны ў этнанацыянальным аспекце, з аднаго боку, відавочна звужаліся геаграфічныя межы - вылучэнне з Рэчы Паспалітай і гістарычна абумоўленага паняцця Літвы ўласна Беларусі, аднак, з іншага боку, паступова пераасэнсоўваліся паняцці народа і нацыянальнай культуры, што спрыяла пераходу літаратуры на беларускую мову [2-А; 6-А; 15-А; 20-А].

4. Пазіцыяванне твораў айчынных пісьменнікаў адзначанага перыяду з паэмай "Дзяды", дзе раскрываецца тэма паэта і паэзіі (паўстае праблема адказнасці творцы за лёс Айчыны і свайго народа) дэманструе спіральнападобнае развіццё рамантычных ідэй у Беларусі: значны ўздым у 20-30-я гады XIX ст. з апагеем у 1830 годзе, далейшая лакалізацыя на ўнутрыкраёвых і ўнутрысоцыумных праблемах, паступовае назапашванне новага патэнцыялу, кульмінацыя 1863-1864-х гадоў, крызіс 1870-1890-х гадоў, моцны ўздым пачатку XX ст. з увабраннем новых літаратурных з'яў [6-А; 15-А; 20-А].

5. У беларускай літаратуры XIX - пачатку XX ст. склаліся рамантычныя традыцыі, асноўныя з якіх - засваенне беларускага фальклору, асэнсаванне паняцця Айчыны і зварот да тэмы паэта і паэзіі. Першая ўздымала праблемы самапазнання, самаідэнтыфікацыя самавыказвання народа ў гістарычным зрэзе, адказваючы на пытанні "адкуль мы?", "якія мы былі?", "якія нашы спрадвечныя маральныя каштоўнасці?"; другая - асэнсоўвала тагачасны стан у геаграфічнай, палітычнай, этнанацыянальнай сітуацыі: "хто мы цяпер?", "якое наша месца ў сусветнай супольнасці?"; трэцяя, ахопліваючы і першую і другую традыцыю, спрабавала вызначыць шляхі развіцця, мэты будучыні: "якім быць нашаму грамадству, краіне?", "якім быць кожнаму з нас?", "якімі нам быць?" Перапыненні і заняпады ў развіцці гэтых традыцый у пэўным гістарычным перыядзе сведчаць пра складанасці, з якімі сутыкалася беларуская літаратура як выразнік грамадскай думкі. Аднак, трыадзінства гэтых традыцый у беларускай літаратуры паказвае паўнавартаснасць нацыянальнага літаратурнага працэсу XIX - пачатку XX ст., яго агульнаеўрапейскую значнасць і выяўляе заканамернасць літаратурнага і дзяржавастваральнага ўздыму ў Беларусі пачатку XX ст. [6-А; 15-А; 20-А; 27-А].

**Рэкамендацыі па практычным выкарыстанні вынікаў**

Палажэнні даследавання могуць быць выкарыстаны для далейшай распрацоўкі ў фундаментальнай беларускай навуцы праблемы эвалюцыі нацыянальнай літаратуры, яе станаўлення і вылучэння як асобнага феномена еўрапейскай культуры XIX - пачатку XX ст.

Атрыманыя вынікі могуць быць выкарыстаны пры падрыхтоўцы курсаў лекцый па беларускай і польскай літаратурах XIX - пачатку XIX ст., спецкурсаў, семінараў у ВНУ Рэспублікі Беларусь, а таксама ў магчымасці далейшага даследавання сувязей твораў Міцкевіча і твораў беларускіх пісьменнікаў, польскай і беларускай літаратур у цэлым. Вынікі даследавання важныя для ўдакладнення карціны беларускага літаратурнага працэсу XIX - пачатку XX ст.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

## Спіс выкарыстаных крыніц

1. Адам Міцкевіч і Беларусь / Уклад. В. Грышкевіч, навук. рэд. А. Мальдзіс, Т. Нягодзіш. - Мінск : ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. - 320 с.

2. Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: Матэрыялы міжнар. навук, канф. Мінск, 7 - 2 2 верасня 1998 г. / Рэд. Давыдзенка; гал. рэд. А. Мальдзіс - Мінск : Беларускі кнігазбор, 1998. - 448 с.

3. Адам Міцкевіч і сусветная культура Adam Mickiewicz i kultura światowa : матэрыялы міжнар. навук, канф., 12-17 мая 1997 г., Гродна, Навагрудак: У 5 кн. / Рэдкая.: Ю. Бахуж і інш. М-ва адукацыі Рэсп. Беларусь, Гродзен. дзярж. ун-т імя Янкі Купалы, Варш. ун-т, Гдан. ун-т, Седлец. выш. пед. шк. - Гродна : Выд-ва ГрДУ, 1999.

4. Ажэшка, А. Зімовым вечарам: апавяданні, аповесць / А. Ажэшка // Міцкевіч А. Свіцязянка: вершы, балады, паэмы / А. Міцкевіч. - Мінск : Юнацтва, 1996.-511 с.

5. Александровіч, С.Х., Александровіч В.С. Беларуская літаратура XIX - пач. XX стст / С.Х. Алекандровіч, В.С. Александрович; хрэст., крыт. мат. - Мінск : Выд. БДУ, 1978. - 256 с.

6. Багдановіч, І.Э. Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І.Э. Багдановіч; рэд. В.П. Жураўлёў. - Мінск : Беларус, навука, 2001. - 387 с.

7. Багдановіч, І.Э. Адам Міцкевіч і станаўленне рамантычных традыцый беларускай літаратуры / І.Э. Багдановіч //Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гум. нав. - 2002. - № 2. - С. 91-97.

8. Багдановіч, І.Э. Патрыятычны "неарамантызм" Янкі Купалы ў святле Міцкевічаўскай традыцыі. / І.Э. Багдановіч // Янка Купала і Адам Міцкевіч: IV Міжнародныя Купалаўскія чытанні, Мінск, 9 верасня 1998. - Мінск : Беларускі кнігазбор, 2000. - С.12-21.

9. Багдановіч, М. Творы / М. Багдановіч - Мінск : Выд. Акадэміі навук БССР, 1957.-592 с.

10.Багдановіч, М. ПЗТ: у 3 т. - Мінск : Бел. навука, 1991 - 1995.

11. Багушэвіч, Ф. Выбраныя творы / Ф. Багушэвіч; прадм. Я. Шарахоўскага. - Мінск : Дзярж выд. БССР, рэд. маст. літ., 1952. - 134 с.

12. Багушэвіч, Ф. Творы: вершы, паэма, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч; уклад, тэкстаў, падрыхт., прадм. Я. Янушкевіча; камент. У. Содаля, Я. Янушкевіча. - Мінск : Маст. літ., 1990. - 308 с.

